KRYVIČ mėnesinis literatūros, kultūros ir visuomeninio gyvenimo laikraštis.

# КРЫВІЧ

## МЕСЯЧНІК ЛІТЭРАТУРЫ КУЛЬТУРЫ І ГРАМАДЗКАГА ЖЫЦЬЦЯ

ГОД 1923

№ 6.

Сьнежань

# Зьмест № 6.




Redaktorius-leidejas K. DUŽ-DUŠIAUSKAS. Рэдактар-выдавец К. ДУЖ-ДУШЭЎСК

„KRYVIČ“

# КРЫВІЧ

МЕСЯЧНІК ЛІТЭРАТУРЫ, КУЛЬТУРЫ І ГРАМАДЗКАГА ЖЫЦЬЦЯ.

Пад рэдакцыяй В. ЛАСТОУСКАГА і К. ДУЖ-ДУШЭУСКАГА.

Адрэс рэдакцыі: Kaunas, Vytauto prosp. Nr. 30.(Lietuva).

Падпіска на поўгада з перасылкай . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . Lit. 15 — (1:50 доляр

Цана нумару паасобна . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . Lit. 3 — (0:30 „

Рукапісы Рэдакцыя не вяртае і пакідае за сабой права перапраўак і скарочаньняў.

| 1923 г. | СЬНЕЖАНЬ. | № 6. |
|---|---|---|

В. ЛАСТОЎСКІ

## На Колядьі.

Ясны месяц—сам пан гаспадар,  
Красна сонца—яго жана,  
Дробны зараньki—яго дзетухны,  
Буен вецер—яго служанькі.

З коляднай шчадроўкі.

Сьвятаў Калядаў крівыцкім звычаям  
ў хатках нізенькіх прыждаўшы,  
ў конадзень славіці выправім чэлядзь к суседу,  
„слаўце як трэба“ сказаўшы.  
Сам я сягоньня з жаною, князям й княгіняй завуся:  
месякам ясным я ў хаце,  
сонейкам жоначка будзе...  
Сеўшы на покуць, на лаве шырокай,  
дзетачак-зорак і чэлядзь пасадзім круг-столу:  
вось і нябёсы у хатцы убогай,  
вось і багамі мы людзі!

# Адзінокі.

## Эпізод з жыцьця Ф. Скарыны.

Пляц перад ратушам у Вільні. На мураваным падвышэньні стаіць магістрацкі урадове ліцытуючы рэчы даўжнікоў. Яго акружае гарадзкая публіка: мяшчане, мяшчанкі, купцы, духоў ныя абовых законну, студэнты якія вучацца ў загранічных унівэрсытэтах, чэрнь.

Урадовец: Во гэту груду кніг, панове,
будзем прадаваці,
хто купіць ахвочы
просім аглядаці!

Цікавыя падходзяць да кніг зваленых у груду на пляцу.

1. Студэнт. Разгартаючы тоўсты фоліянт, да свайго калегі:
Старасьвецкім, роўным пісана уставам;
многа працы, добрая аправа,
ды, на жаль, навейшых тут дармо шукаць ідэяў...

2. Студэнт. Усё-ж прыгожы гэты завіток са зьмеяў!
Каб ён быў у боскім стылю адраджэньня
я-б гатоў быў даці...

3. Студэнт. (сьмяючыся);
Скажаш чэсьць свайго іменьня!..

2. Студент. Мала тут лаціны;—болей усё букі...
Есьць у простай мове для паспольства друкі...
Не, шукаць дарэмна тутка што жывое,
У духу гуманізму... Больш усё такое,
не для нас. Асьвету знаючых замежну,
творы Алігьеры, Гуса мысль бунтэжну...

1. Манах. Во так карае Бог рушыцяляў закону!
Яго-ж сьвятыя словы Францішь крануў рукою
у кнігах ім самім наноўна друкаваных...

1. Мяшчанін. Такіх даўней каменьням пабівана!

2. Мяшчанін. І моладзі ў навуку, рубалі гэткім руку.

2. Манах. Вось ён ідзе... Бязбожнік!

3. Мяшчанін. Ен толькі новамоднік;
бязбожнасьці німа у ім!

1 Манах. Праклятьі вы да веку, мудрачыя ў пісьме
што анельскай рукой накрэсьлена было!

1 Францішканец. Свае яго нялюбяць, затое, бач, і губяць

2 Францішканец. Аб што-ж у іх то ўсё пашло?

1 Францішканец Ен кнігі пераклаў на мову іх прыродну,
яны-ж работу ўсю яго прынялі за нягодну.

1. Пан. Прост дзіўна: ён навукі скончыў многі
і доктарам сябе мянуе,
а сам гарнецца да паспольства
і кнігі ім друкуе!?

2. Пан. Што, кнігі для мяшчан тутэйшых,
і цёмнага паспольства? Дзіўна!

Ня бачу мудрасьці я ў ім:
бо-ж гэта прост наіўна!..
Тут, дзе шляхты род з Італьскае зямлі
вядзе пачатак свой.—Хоць, праўда, агрубеў
між гэтага народу,—ўсё-ж традыція і кроў
павінны падсказаць, што мы, ад шляхты да паноў
к лаціне вінны павяртаць!
А гэтых, шкодных пісьмакоў паспольных
да ката даць!.

Урадовец. Ацэнены на копы дзьве,
во гэты кнігі ўсе,
хто з вас, панове, болей?!

Голас з таўпы: Ня трэба іх ў народ шырыць,
а лепш бязбожныя спаліць!

Манах. Найлепш спаліць!
Разьвеяць попел з ветрам!

2. Студэнт Да калегі А я ўсё-ж хачу сабе купіць
Адну, з тых кніг што зьмеямі
застаўкі маляваны...

Мяшчанін. Давайце дроў, агня!
Ніхай гарэць паганы!

Францішканін. Мы пойдзе згэтуль, брат,
бо тут благая йдзе гульня!

2. Пан. Люблю прастоту нашу,
здаровага ў ей шмат інстынкту!
Я сам ня іншы суд
даў кніжні гэтай,
якая толькі можа далей
у барбарства нас гнаць...
Нам Крыўцам і Літве,
нашчадкам рымлянаў славэтных,
к лаціне трэ вяртаць...

Чэрнь. Зносячы салому і дровы
— То-ж ведама бязбожнік!
— Яшчэ які! Каб ты умеў чытаць,
То з кнігаў гэтых, як той бунтэжнік,
чарцей-бы здолеў выклікаць
сабе на ўслугі.
— І думаеш што, чорт бы мне служыў?
— А тож чаму-бы не!..

Армянін. Ў даўгі улез па вушы
Праз кнігі ён свае...

Мяшчанін. — Кідай ў яго каменьня
Бязбожніка, што губіць душы!...

Камень трапляе у Францiша Скарыну і ен апіраецца аб сьцяну ратуша, злева ад таўпы. У таўпе выбухае сьмех адначасна з клубамі дыму недзе некім запаленай ахапкі саломы.

Скарына. Горкім палынам шлях мой буяе,
Горыч ліць ў чару жыцьцё не скупіцца
І супакою сэрца ня знае...
Ох, як ўжо трудна далей так біцца!

Вечнае Праўды Духу Вячысты,
У сьведкі Цябе я корна ўзываю,
Сьведч, хоць патомным, порыў мой чысты,
Шчыру ахвярнасьць клаў як для Краю!...
У садзе віновым, нівы айчыстай,
У поце і зною як я трудзіўся:
Кожды расточак духам жарчыстым
Грэў я, кукобіў, і весяліўся
Уродзе мабытнай...
Шмат што якое
Мной ўскалыхана, шмат і зернятак,
Кволых, быць можа, кінута мною:
У шчырым імкненьні, шчыра клаў датак...
Стрэў-жа ў адплату посык зьмяіны,
Напасьць нікчэмну, заздрасьць і здраду,
Стаў прад людзямі вінен бязвінна...
Сколькі балота, подласьці, яду!...
Што пражылося трудна сьпісаці:
Трудна і ўцяміць, скуль тае зносьці...
Сілы, цярпеньня, заўтра, каб ждаці
Між ўсей агіды людзкае злосьці.

Зноў-жа от жоўцю хлеб мой паліты,
Дзень мой заслала чорная Марва;
Крыж мой цяжэе... Сіл недастатак...
Дзе-ж Ты, я клічу, Вечная Праўда?!

Паміж Скарынай і таўпой праходзяць доўгім радам гарадзкія касьбіты вяртаючыя з работы. Ідучы яны пяюць уложаную Скарынам песьню!

О, Ойча наш Уладар Нябёс!
Хай імя вечнае Тваё
Між нас сьвяціцца векавечна.
(Пад гукі песьні імгла закрывае абраз.)

---

Л. А.

# Крыуска-Беларускія прыповесьці.

## Пад старасьць адгукнецца,

Пачула маці, што Антук яе плача, хлопчык быў ўжо сямігодка, крумяненькі, выскачыла ў надворье і пытае:—Чаго ты, сынок? — Певень на нагу наступіў! То што-ж за бяда: певень ня конь, нагі табе не скалечыў. — Ага, не скалечыў, а як пад старасьць то й гэта адгукнецца.

## Ліхая баба.

Быў селянін і меў жонку: так то, паглядзеўшы, і нішто баба, але ліхая што ратунку німа! Цярпеў, цярпеў мужык, а ўрэшце надумаў даць навуку бабе, і, вось, араўшы ў полі, вырэзаў добры дубец і чакае калі яна есьці яму прынясе. Ажно, бачыць, і баба ідзе. Ідзе ды на ўсё поля галёкае: лаіць мужыка, на чым сьвет стаіць. Прынясла, паставіла спарышы і пакуль дзед

дабраўся адлупцаваць, яна, на злосьць яму скочыла з берагу ў амут і ўтапілася.—Ну і добра,—думае сабе дзед,—адным ліхам меней будзе на сьвеце —і не пашоў выцягаць бабы.

Мінуў год. Узноў, вясной, арэ той селянін на тым самым палетку, каля ракі. І думае сабе: хоць яна і ліхая баба была, а ўсё-ж такі шкада, што ў амуце тады утапілася. Дай, думае, схаджу паўзіраюся хоць на той амут, дзе яна, бедная, Богу душу аддала. І, так, сам ў сабе разважаючы, падыходзіць да таго месца, куды год таму баба скочыла. Ажно чуе, што нехтась такі ў амуце плача і стогне.—Няйначы баба жыва яшчэ, — падумаў дзед, і, чым барджэй, пабег па лейцы. Рад, у душы, дзед што-ткі баба жыва.— Пэўне-ж яна цяпер і такой ліхой ўжо нябудзе... Прынёс лейцы закінуў ў ваду і чуе, што нехта торгае. Ад радасьці і сіл мужыку прыбыло, цягне, сьпяшаецца... Аж, выцягнуўшы, глядзіць што гэта саўсім ня яго баба, а самыісты чорт. А той, бух! на калені перад дзедам і давай дзякаваць што выратаваў. —Ад каго я, цябе чорта, выратаваў?—А ад тваей жа бабы: як трапіла яна, год так таму назад, у мой ціхі амут, то ў пекла яго абярнула і мяне нанет замучыла!—Пачуўшы гэта пабаяўся дзед другі раз закідаць лейчыну ў амут. А з чортам дык і нішто: падружыўся дзед і доўгі час разам поля аралі, пняўё карчавалі і сварыцца нат не сварыліся.

## Варона і рак.

Ляціць варона панад ракой і каркае, ды так каркае, што няўцярпеў рак сядзець у сваей норцы і вылез паўзірацца, чаго яна галасуе. Вылез рак і пытае вароны:—Чаго ты гэткі гвалт падняла?—Чаго я гвалт падняла? Аякжа, яшчэ ён, ў каторага галава не з таго канца засечана, пытаецца ў мяне! Чаго я гвалт падняла? Кожды будзе крычаць на маім мейцы: гняздо ў якім я вясну вяснавала і лета летавала, цяпер суздром ўсё засьмечана!—А куды-ж ты цяпер ляціш? пытае рак.—Новага гнязда шукаці! Падумаў, падумаў рак дый кажа:—Э, кумка, дарэмны твой клум і турбота, бо ты-ж і новае гняздо засьмеціш...

## Вуж куртаты і мужык багаты.

Сярод дрыгвы жывучы без вужа ў хаце не абойдзешся: за ложку малака ён пілнуе гаспадара каб гадзюка ў хату ня ўлезла. Кот—граза на мышэй, а на зьмей—гадуй ў хаце вужэй. У аднаго багатага мужыка быў стары вуж, ўжо аж сівы са старасьці і як толькі чэлядзь сядзе за стол, то і вуж пад стол, каля ног увіваецца, да дзяцей дабіраецца, якія малако ядуць. Думаў, думаў мужык дый надумаўся:—вуж стары, гадзьву не палоша, малако-ж лакоча; трэба яго забіць!—І ўзяўшы сякеру, гак, па вужу! І адсек яму хвост. Вуж уцёк у нару і прыждаўшы пару, укусіў мужыкова сыночка. Вуж ня злы але мсьціцца за крыўду. Сын памёр мужыкоў і як йшло перш рукой у яго ў гаспадарцы, так цяпер,—што ня крок, то бяда: то агонь, то вада глуміць працай набыты дабытак. І зьбяднеў той мужык, а таму, што яму стары вуж то ужо ня спрыяе. Што рабіць? Трэба, думае, з вужам мірыцца. Вось ідзе да нары, дзе сядзеў вуж стары:—Давай-каа (кажа) мы будзем з табою гадзіцца! А вуж з норкі глыбокай дае гэткі адказ:—Не, ўжо, браце, ня час нам з табою аб згодзе гукаці. Табе сына свайго аніяк ня забыць, мне-ж заўсёды баліць, тое месца дзе быў калісь хвосьцік. Ў нашай дружбе цяпер, ты мне, браце, павер, шчырасьці даўнай ня будзе. Каб ўзаемна сабе нам больш зла ня рабіць, ты ня руш больш мяне, а цябе, я таксама, ня буду чапаці. Я ў нарэ, а ты ў хаце, будзем век дажываці.

## Чаму Панас стауся ваукалакам?

З кождым няшчасьця можа такое здарыцца як то было з нашым Панасам: запрасілі сватам на вясельле, а чараўнік, Граўша, якога ён чаркай абыйшоў, па назласьці перакінуў яго ў воўкалака. І пабег наш Панас воўкам у лес. Тры гады ваўкалачый, а на чацьверты ў чалавека абярнуўся. Вярнуўся ў вёску, пажыў-пажыў між людзёў дый кажа:—Не, тры гады я з ваўкамі ў стадзе жыў, па воўчу выў, няшчырасьці-ж я тамка ня бачыў. Воўк злы як галодны, а падеў—злосьць ўся ад сэрца адлежа. Лепш з ваўкамі у стадзе, як з людзьмі у грамадзе, бо людзі чым болей маюць, тым болей жадаюць: другі-то і з бацькі ў дамоўцы звалок-бы кашулю! Вочы вашы завідушчы, рукі заграбушчы, сэрцы-ж нязнаюць меры ў хаценьні. — І, згробся, дый пашоў назад у лес і ўжо да канца свайго жыцьця ваўкалачыў.

## Як Кузьма стрэльбу рабіу.

Што наш брат вельмі выносьлівы, цярплівы—гэта ўсім ведама. Быў у нас Кузьма каваль і заманулася яму немагчымае: самому стрэльбу скаваць. Ад раньня да вечара мяхі раздуваў, зялеза каваў, рулькі вярцеў і ўсе няўдачы цярпліва выносіў тры гады небарака. Усё ніяк яму неўдавалася зварыць зялеза роўна на ўсей рульцы. Што няўдасцца,—ён на нова яе пераку вае, пасуе, мяркуе, лютуюе, ўсё прыгаварываючы: — Не-ткі даканаю я цябе гадзіна!—І такі даканаў: рульку па чацьверты год зварыў, абтачыў, што глядзець прост люба! Ложу даправіў курак даставіў. Ня стрэльба а проста зьдзіўленьне! Трэба-ж здарэньня, вазьмі ды зламіся шрубочак пры курку! Тут Кузьме, раптам, ўсё сэрца спыхнула: ўсю крыўду ўспомніў сваю даўгалетнюю і са злосьці вялікай, стрэльбу паламаў, гарон разваліў, мех парэзаў і кузьню падпаліў. Не дармо-ж кажуць:—Беларус цярплівы:—цярпіць, цярпіць, а ўрэшце, раптам, хапае сякеру і зразу—абухом па лбе валіць!

## Лепей вол ярэмны, як жарабец стаенны.

Былі у аднаго гаспадара два парабкі: Якім і Трахім. Якіму плаціў гаспадар ў двая даражэй чым Трахіму. Якім быў павольны. Трахім быў круты, шпаркі. Як прыйдзе сьвята, то Трахім і прыстане да гаспадара, чаму той яму менш плаціць чым Якіму:—Я, кажа, і ў рабоце спраўны і да пасылак шпаркі, а ён, Якім, робіць як трач ківаецца.—Добра, кажа гаспадар,—мы пробу зробім, калі ты лепш за яго справішся, то табе будзе яго бонда, а яму твая.—Добра!

Прыждалі лета, прышоў час сенакосу. Вось гаспадар кліча парабкоў і кажа ім:—пойдзеця, хлопцы, у луг касіць. Ты, Трахім, пойдзеш ў першым пракосе, глядзі, ня дайся абагнаць Якіму.—Добра!

Выйшлі парабкі на луг; ў першым пракосе стануў Трахім, у другім Якім. Пусьціліся касіць. Трахім косіць ўсё-ча-ча-чах—тса! Ча-ча-чах-тса! А Якім—ча-а-чах! ча-а-чах! Да сьнеданьня на цэлы прагон абагнаў Трахім Якіма, але і сам увесь, да пят, потам зьліўся. А Якім, нішто, нат неўпацеў. Да абеду абодвы парабкі зраўняліся, бо, сьпярша хапіўшы, Трахім саўсім асалавеў. У падвячорак, як не стараўся Трахім, нямог уцячы ад Якіма, які па пятах яму ўжо касой пазваніваў, так што, хоцькі—няхоцькі павінен быў пусьціць Якіма наперад, Вечарам-жа—Якім гэтак сама роўна касой махаючы як і раніцой, быў на цэлыя гоні наперадзе.

Прыйшоў гаспадар, паўзіраўся на сваіх парабкоў і кажа:—Работу трэба браць не рацівасьцю, а цяглівасьцю. Ня той працуе, хто як стаенны жабец танцуе, а хто як ярэмны вол, аднэй натугай можа доўга цягнуць.

## Смэрд і ваявода.

У крыўскага князя Ўсяслава, якога, за мудрасьць яго, чараўнікомзвалі, быў ваявода, які што дзень раніцай прыходзіў даваць князю справаздачу з таго што рабіў учора. Смэрд, прыбіраючы княжую сьвятліцу, палючы ў печцы, кожды дзень чуў усю работу ваяводы і бачыў, што у гэтай рабоце нічога назвычайнага не было. Усё што рабіў ваявода ён так сама патрапіўбы рабіць. Вось, ён і давай казаць князю. — Чаму я, княжа, не ваявода? Я, так сама магу ваяводай быць, дай толькі мне волю, тое-ж рабіць, што і яму. — Добра,—кажа князь,—смэрдаў ў мяне многа, а ваяводаў мала,—калі і ты ваяводам будзеш, то ад гэтага толькі у нашай старане сілы прыбудзе. Але перш чым цябе зрабіць ваяводам, ты павінен паказаць ці справішся з малымі рэчамі.

Устаўшы вышаў таго дня князь на паладок, сеў на седзішча і ўзіраецца на Дзьвіну раку. Па рацэ-ж, туды і сюды, людзі езьдзяць усялякія, за ўсялякімі справамі. І бачыць,—што з гары у ніз, па вадзе, едуць вялікія стругі з таварамі. Вось ён кліча свайго любімага смэрда і кажа яму!—Сядзь у човен і спытай куды яны едуць?

Смэрд хапіўся барджэй, сеў у човен, дагнаў стругі тыя і спытаў:—Куды, людзі добрыя, едзеця?—Да мора!—адказалі тыя.

Вярнуўся смэрд і кажа князю:—Да мора яны едуць, княжа! — А ў які горад?

— Вось гэтага,—кажа смэрд,—не спытаў я ў іх.

— Дык, дагані ды спытай, ў які горад едуць.

Барджэй сеў у човен смэрд і добра папрацаваўшы вяслом, нагнаў стругі, дый пытае.—А ў які горад, людзі добрыя, едзеця?

—У Візбу! адказалі купцы.

Прыехаўшы назад і кажа смэрд князю:—У Візбу едуць яны! — Добра, кажа князь, а зкуль яны едуць?—Ах! каб яно, то-ж я не спытаў у іх!

— Ну, нічога, цешыць князь,—дагані і спытай.

Скочыў у човен смэрд, глянуў на раку і бачыць, што стругі ўжо далёка, далёка. Але добра папрацаваўшы вяслом нагнаў іх і пытае:—А зкуль едзеця, людзі добрыя?—З Вітабска!—адказалі купцы.

Увесь абліўшыся потам вярнуўся смэрд да князя і кажа:—З Вітабска едуць яны, княжа!—Добра, пахваліў князь, а што-ж яны вязуць,—ці не спытаў ты?

— Не,—кажа смэрд,—не спытаў!—То хутчэй дагані і спытай! кажа князь.

Кінуўся смэрд у човен і астаткамі сіл намагаючы нагнаў купцоў. А што вязеце, людзі добрыя?!—Збожжа! адказалі купцы.

Ледзь жывы са змучаньня вярнуўся смэрд да добрага князя і кажа:—Збожжа вязуць яны, а сам ледзь здыхаеца можа.

— Гэта добра,—ізноў пахваліў князь,—а якое-ж яны вязуць збожжа?

—Не прышло ў дум спытаць, кажа смэрд.—То дагані іх, чым барджэй і спытай!

Бягом пабег смэрд да чоўна, бо ведаў, што з кождым момантам, стругі далей адплываюць і што іх што раз цяжэй даганяць. Вярнуўшыся сказаў князю што купцы вязуць жыта. Князь тады спытаў ці даведаўся ён дзе яны яго купялі, пасьля пачом купялі. Калі князь сказаў смэрду каб той восьмы раз дагнаў купцоў і спытаў сколькі вязуць збожжа купцы і пачом думаюць прадаць яго, то смэрд са сьлязамі кінуўся яму ў ногі, кажучы, што ўжо з сіл выбіўся.

Тады князь паклікаў ваяводу і кажа яму: — Тут праехалі ўніз вадой стругі з таварамі, сядзь у човен, дагані іх і спытай куды едуць? Ваявода сеў у човен, і, па нейкім часе, вярнуўшыся, кажа князю:—Купцы гэты едуць з Вітабска у Візбу, вязуць 1000 камянёў жыта, якое купялі у Воршы па грыўні камень, думаюць прадаць яго накінуўшы па 10 шэлягаў на камень, акром гэтых стругоў, гэтымі днямі будуць праязджаць яшчэ 16 іхніх стругоў з другімі таварамі, яны хочуць вярнуць назад к зіме.

Тады паклікаў князь смэрда і кажа:—Чуў што ваявода мне пераказаў? —Чуў.—Адказаў смэрд.—Дык бачыш,—ён за адзін раз даведаўся больш чым ты за сем разоў. Дзеля гэтага то, бачыш, ты будзеш пакульшто і далей у мяне смэрдам, а не ваяводам.

---

ВЛАСТ.

# Лабірынты.

## V.

У гэты момант, калі скончыўшы гутарку, прымоўк Іван Іванавіч, а я аддаўся размышляньню, нас акружыла маўклівая ціш, скрозь каторую, зьнекуль, стаў даходзіць да вуха ціхі харальны сьпеў. Спярша гэты сьпеў быў такі ціхі, што зьліваўся з тутненьнем сэрца і крыві ў жылах. Але, ў меру таго як я, натужаючы свой слух, услухаўся, ён ўсё рос, і, урэшце, набіраў што раз больш выразістасьці. Калі сьпеў, гэты многіх галасоў, стаў наближацца, я пытаюча глянуў на Івана Іванавіча.

— Гэта пяюць нашы старцы.. — сказаў ён спакойна.

— Як! Дык хіба-ж гэты падзямельлі заселяны людзьмі? — зьдзівіўся я.

— Так. Жыцьё ў гэтых падзямельлях ідзе старое, даўнае. Вам-жа, хіба, прыходзілася чуваць ад народу дый чытаць, у т. зв. этнографічнай літэратуры, аб праваліўшхся гарадох, царквох, манастырох. Хіба-ж Вы ня чулі аб нявідомым горадзе Багоцку, во тут каля Полацка? Другі такі горад, што каля Гомеля, апісаў расійскі пісьменьнік пад найменьнем Кіцяжа. На землях якія ў апошнія часы, ў да Крывіцкую эпоху, засялялі Гэгы, гэткія гарады істнуюць...

Я зьдзіўленна ўзіраўся на Івана Іванавіча і сам няведаў, што аб усім гэтым судзіць, гэтак было ўсё, чутае і бачанае, нязвычайным для майго разуменьня, што я павёў рукой сабе па абліччы каб пераканацца ці ўсё гэта не галюцынацыя, ня сон... Але чоў мой мяне не ашуківаў...

Іван Іванавіч пры гэтым устаў і адчыніўшы дзьверы ў сьцяне павёў мяне доўгім і шырокім праходам, аж, ўрэшце, мы апынуліся ў вялікай і сьветлай салі. Не было там ні сьвечак, ні лампаў, сьвятло, як бытцам, само сабой стаяла ў салі. Сьцены былі запоўнены ўсякімі кнігамі і зьвіткамі рукапісаў. Падышоўшы да аднэй з паліц Іван Іванавіч зьняў пэргамінны рукапіс, кажучы:

— Во гэта сьведчаньне падарожнага, які бываў у нашым краю, за некалькі сот лет да арабскага пісьменьніка Масудзі, які яго сьведчаньне, асобным разьдзелам (маруджа 62), са старых кніг, упісаў у свае кнігі. Тут мова аб гарадох і сьвятынях славянскіх. Руін гэтых гарадоў і сьвятынь, цяперашняя архэолёгія не знаходзіць на зямельнай паверхні, бо яны, дзіўнай умеласьцю старабытных нашых інжынераў, апушчаны ў глыб зямлі, як вось і гэта наша сьвятыня, ў часьці будынкаў якой мы цяпер з Вамі знаходзімся. У гэтай кнізе вось што аб'ей напісана:

„З гэтых сьвятынь адна пабудавана на гарэ, гэта дзіва сьвету, а як кажуць знаўцы, прыклад архітэктуры і разпарадкаваньня рожнаякага каменя ужытага да гэтай будоўлі. Сабраны там дарагія каменьні нявыказанай цэн насьці, а також знакі паказуючыя будучыну“.

— Усё што тут напісана шчырая праўда! — казаў Іван Іванавіч складаючы кнігу.

— Цяпер-жа я пайду на момант да нашых старцаў, а Вы агледзьце радчайшую ў сьвеце бібліатэку.

— Прашу Вас, скажыце, хто гэта такія старцы і як яны жывуць тут?

— Гляньце на гэту салю, — сказаў Іван Іванавіч, Вы тут ня ўбачыце нідзе ніякіх прылад да асьвятленьня, а ў салі сьветла і цёпла. Гэта таму, што сьцены гэтай салі пакрыты элементам, падобным да радзія, з якога пабудавана сонца. Пад гэтым сьвятлом і расьціны і людзі могуць жыць бяз ушчэрбку для свайго здароўя. Гэты элемент, тут ужыты як масса да тынкаваньня сьцен, акром сьвятла і цяпла мае яшчэ другія дзействы: хто знаходзіцца заўсёды пад уплывам яго сьвятла не падлягае старасьці, якая паходзіць ад звапненьня кроваточных начыньняў ў людзкім арганізме. Пад ўплывам гэтага сьвятла, вапна ня можа ў арганізме зацьвярдзеваць, а дзеля гэтага чалавек застаецца на заўсёды ў адным веку, а як вынік гэтага, не падлягае сьмерці. Мы з Вамі цяпер знаходзімся на глыбіні каля тысячы мэтраў ад паверхні зямлі і аднакжа Вы аддыхаеце лёгкім паветрам, гэта таму, што элемэнт гэты, які завецца „гетынам“, мае ўласнасць пахлынаючую лішкі кіслых газаў. Восьжа старыя вучоныя, зыйшоўшы з поля дзікога змаганьня на зямлі, жывуць тут працуючы над навукай і ўмеласьцямі, ў сваіх абшырных і добра абстаўленых бібліатэках і лабараторыях. Працуюць чакаючы часу, калі ім прыдзецца ізноў выйсьці да свайго народу. Адным з важнейшых адкрыцьцяў, якія імі тут зроблены, ёсьць „крывін“ пры помачы якога, кождую рэч можна разлажыць на першапачатковыя высхады і з першапачатковых высхадаў злажыць любую рэч. Прыкладам: з высхадаў паветра і вады можна вытварыць камень, золата, хлеб, клушч і, наадварот, кождую рэч можна пераманіць ў другую. Прыкладам той-жа бруковы камень можна зьмяніць у хлеб ці золата, ў паветра, ці, любога смаку, сталовае масла. Бо першапачатковы высхад ва ўсім ёсьць адзін і тойжа, залежыць толькі ад таго які надаецца кірунак руху яго праатомам. Гэтае вялікай вагі адкрыцьце, зробленае нашымі старцамі, разьвяжа на зямлі соцыяльнае пытаньне... Пытаньне пракорму людзей.

У гэты момант, недзе здалёк пачуўся званок і Іван Іванавіч, падаўшы мне на разьвітаньне руку, выйшаў ў праход, які пачынаўся з левай стараны салі, сказаўшы:

— Вам, аматару кніг, думаю, маркотна тут ня будзе.

Я, не трацячы часу стаў разглядаць кнігі. Аддзел бібліатэкі ў якім я знаходзіўся, складаўся з помнікаў старасьвецкіх арабскіх, грэцкіх, індускіх і егіпецкіх пісменьнікаў. Аграмадныя фоліянты, пісаныя на пэргаміне і шоў-

кавых тканінах, залягалі ўсе сьцены; ўнізе, каля сьцен, ў дубовых, абіваны сярэбранай бляхай скрынях, разложаны былі зьвіткі пісаныя на рожных мо вах. З пляну бібліятэкі, які быў выбражаны на мармурнай дасцэ, сярод салі відаць было, што аддзел славянскіх кніг знаходзіўся ў трэйцяй салі, ідучы налева. Я пасьпяшыў туды.

У гэты момант нейкі лёгкі бытцам звон ў гарэ зьвярнуў маю увагу. Я падняў галаву і ўбачыў, што са сьцяны выступае масыўны камянны блёк, кшталце столу, з глыбокімі ў нізе выімкамі. На стале быў разстаўлены цэлы рад жоўтага мэталю, стылёвых міс, а на іх разложаны сьвежыя фрук ты і закускі, пасярод-жа красавалася бутэлька са старкай. Падыйшоўшы д стала я ўбачыў картку, пісаную рукой Івана Іванавіча, гэткага зьместу:

„Паважаны дружа. Усё што знайдзеце на гэтым стале толькі што пры гатавана пры помачы высхаду „крывін“. Спробуйце ці годна да ужытку Ваш Іван Іванавіч“.

Я сеў пры стале, і, ў часе яды, пераканаўся, што пададзеная закуска вызначалася вялікім кулінарным мастацтвам. Пячэня была гарачая і сочная з прыемным водарам дымляніны; фрукты мелі дзіўную сьвежасьць; старка цягнулася з бутэлькі як аліва і разыходзілася па арганізме хвалямі прыем нага цяпла.

Перакусіўшы я ськіраваўся ў славянскі аддзел бібліатэкі. Багацьце, яко я тут убачыў у зьвітках і фоліянтах, прост не паддаецца апісаньню. Тут я бачыў ня толькі фоліянт полацкай летапісі, пісанай рукой княжны Еўфра сініі, але летапісі шмат ранейшых пэрыёдаў істнаваньня нашага народу Убачыў сабраньне навукі Зямельчыца, якое складалася з чатырох кніг, разь бітых, кождая, на 72 разедзелы. На зьмест кнігі злажыліся: моральнае права цывільнае і дзяржаўнае права, гісторыя народу і анталёгія лепшых тагочас ных літэратурных твораў. Цэлы аддзел бібліатэкі складаўся з кніг пісаны глаголіцай, якая, як я тут пераканаўся, была шмат старэйшай, бадай на доб рую паўтысячу лет, славянскай граматай, знакі якой разьвіліся з славянскі герогліфаў. Старэнна апрацаваныя табліцы развіцьця пісьменных славянскі знакаў, паказвалі ня толькі перамены ў формах знакаў, але давалі адначасн і хронолёгічныя данныя з якіх відаць было, што пачаткі пісьменнасьці сла вянскай трэба аднясьці на канец чацьвертага тысячалецьця, перад нашай эрай Цікава было сьлядзіць па гэных табліцах, як з людзкой фігуры (рысавана у герогліфах поўнасьцю) вытварыўся знак „аз“—я, нашае цяперашнае вялі кае А, ў каторым з людзкой постаці, асталіся ў нізе толькі дзьве палкі, а папярэчцы памяць, аб рысаваным калісь паясе. Як цьвёрда трымаўся цэлы тысячалецьці знак зьмяі і дахаваўся да нашых часаў ў славянскай літары „зело“, а такжа знак жука, у літары—ж, які сягоньня яшчэ напамінае сабой ку зурку. У аддзеле архітэ туры бачыў я дзіўнай прыгажосьці стылёвыя будоўлі званага „гецкага“ стылю. У аддзеле пісьменнасьці хрысьціянскіх часаў асаблівай пашанай пераховываліся тут рукапісы першых хрысьціянскіх апо сталаў Кірылы і Міфодзія, аб якіх трэба аднак, на аснове пачэрпнутых мно ў бібліатэцы данных, сказаць, што хоць яны запраўды пераклалі св. пісьмо на славянскую мову, але ў пісьменнасьці славянскай, т. зв. кірылаўскімі літа рамі, на добрых чатыры сталецьці, іх папярэдзілі рожныя хрысьціянскія сэктан ты, а перад усім манахійцы, паўлікіянцы і мэссальянцы. Усе гэты сэктанты пісалі грэцкімі літарамі па славянску, дапасоўваючы іх да славянскай мовы. І пераклад кананічных кніг на славянскую мову папярэдзілі розныя сказаньні як прыкладам: „Сказаньне аб Адаме“. „кнігі Эноха справядлівага“, „Ска заньне аб Ламэху і Мэльхізэдэху“, „Запаветы дванадцаці патрыярхаў“, „Пас ланьне Абраама да Хрыста“, „Евангельле Хамы“, „Евангельле Нікадымава“ і шмат іншых.

Урэшце, змучаны пераглядам кніг, я надумаў абыйсьці бібліатэку і з гэтай мэтай выйшаў ў другую салю, а з другой у трэцюю і г. д. Прайшоўшы дзесяткі два саль напоўненых кнігамі, я апынуўся перад глыбокай нішай ў якой была памешчана фігура чалавечая з бліскучымі вачамі. У меру збліжаньня да яе, вочы фігуры што раз ярчэй сьвяцілі, прычым чулася ў іх нейкая прыцягаючая сіла. Калі я быў на адлегласьці мэтраў 10 ад фігуры, я ўжо нямеў сілы стрымаць сябе, нешта незразумелае, непаборнае цягнула наперад і высілкам ўсей волі я нямог спыніць сябе каб ня йсьці далей. Фігура была з жоўтага мэталю, у трая большая ад натуральнага чалавечага ўзросту. Ад сіняватага блеску сьвятла вачэй фігуры, які быў сьціраваны прост ў мае вочы, я чуў як цела маё млела. У гэты момант фігура, правай рукой, ударыла тры разы ў шчыт, які быў у яе на левай руцэ. Аглушаючы патройны гук дарэшты спаралiжаваў мяне і я ўтраціў прытомнасьць.

## VI.

Калі я адкрыў вочы, то ўбачыў, што ляжу ў готэлі на сваей пасьцелі, ў адзежы. Праз акно ярка сьвяціла сонца і двумя агністымі стаўпамі клалася на памост, перад маім ложкам.

У гэты момант нехта пастукаў у дзьверы.

— Але! Прашу!—сказаў я.

Адчыніліся дзьверы і я ўбачыў на парозе „Падземнага Чалавека“. Ен падышоў да мяне і паздароваўшыся сеў пры ложку. Глянуўшы на яго я ўбачыў шырокую блізну на левай шчацэ, ад вуха да падбародка. Мне зразу ўспомнілася падзямельле і я ўскочыў з ложка. Стары глядзеў нейкім цьвёрдым, сталёвым поглядам мне ў вочы. Гэты яго погляд наводзіў на мяне нейкі забабонны страх і я зноў сеў на ложку.

Стары моўчкі пачаў капацца ў падысподным кішані сваей спанцэркі, і па нейкім часе выняў аддтуль, даволі пакомканы канвэрт, падаючы які мне сказаў:

— Гэта вось вам цэдулка ад Івана Іванавіча. Я пасьпешна схапіў канвэрт і разьдзершы яго дабыў запіску ў якой было напісана:

„Паважаны дружа. Заўтра мае імяныны, а сягоньня вечарам сьвята Купальле. Загляньце вечарком, пагаворым ізноў аб мілай старасьвеччыне. Стол я прыгатаваў паводле сваіх рэцэптаў. Спробуеце ці годна мая кулінарыя да ўжытку. Ваш Іван Іванавіч. Полацак 23 чэрвеня“.

Я хутка глянуў на сьцяну, дзе вісеў адрыўны каляндар, там віднелася дата 20 чэрвеня. Гэта быў дзень калі я прыехаў у Полацак і вечарам гасьціў у Івана Іванавіча.

— Якая сягоньня дата?—спытаў я „Падземнага Чалавека“.

— А, якая-ж, то-ж ведама 23 чэрвеня.—Адказаў ён пасьміхаючыся.

— А калі я ў вас быў?

— То-ж вы заўчора былі ў нас, у аўторак, а сягоньня мы маем, дзякаваць Богу, чэцьвер, заўтра будзе пятніца, Св. Яна.

Голас „Падземнага Чалавека“ здаўся мне нейкім скрыпучым, ўплываючым на нэрвы як пілаваньне па зялезу.

Мяне агарнуў ізноў забабонны страх і я пастараўся чым хутчэй пазбыцца госьця. На ядходным, замест звыклых слоў пры разьвітаньні, ён сказаў:

— Мы яшчэ убачымся.

Астаўшыся адзін я прыпамінаў абраз па абразе ўсё мной бачанае, ад часу павароту дамоў з гасьціны ад Івана Іванавіча.

Не, я ня сьніў. Думаў, перадумываў і ўзноў прыходзіў да пераконаньня, што ўсё гэта было на яве, ўсё гэта было рэальнасьцю. „Можа я пераблутаў даты“, гануў я і каб пераканацца выняў з кішані запісную кніжку. Так, праўда: выехаў я з Вільні вечарам 19 чэрвеня, раніцай 20 быў у Полацку. Я пазваніў.

Калі прышоў нумарны, я спытаў яго, якая сягоньня дата?

Перш чым адказаць на пытаньне ён хутка загаварыў:

—Добра што вы, паніч, вярнуліся, а то учора прынясьлі Вам тэлеграму, а як Вас не было, то я няведаў што рабіць з ею. Дата-ж, панічыку, сягоньня 23-я. Але дзе гэта вы, паніч, бавілі так доўга? Як мне сказалі, што вы выехалі ў госьці, то я, прызнацца, і не прыбіраў. — І ён заклапоціўся каля умывальніка.

— Хто табе сказаў, што я выехаў у госьці?—спытаў я парывіста.

— Ды-ж, во, гэты самы, што быў цяпер у Вас, панічыку, „Падземнік“, як яго у нас называюць. А пасьля ён спахапіўся і борзка пабег па тэлеграму.

Тэлеграма была з дому: „прыязджай назад першым поездам, важныя справы“, пісалася ў тэлеграме. Я крэпка занепакоіўся, бо выяджаючы ніякіх „важных спраў“ не правідзілася. Што там? Хвароба? Няшчасьце? Чаму не сказана якія там справы?

І гэтак раздумываючы я пачаў складаць свае рэчы. Пасьля сеў і адпісаў Івану Іванавічу на яго запросіны, што з прычыны клічучай дамоў тэлеграмы, ня буду ў яго на імянінах і пажадаўшы яму ўсяго лепшага закончыў лісток.

Таго-ж дня, позным вечарам, быў я ўжо дома, Аказалася ніякіх важных спраў дома не было і ніхто з дамовых мне тэлеграмы не высылаў. Хоць на белягу выразна было памечана „выслана з Вільні, прынята у Полацку“.

У ранічнай газэце, 24 чэрвеня, я прачытаў тэлеграму з Полацка гэткага зьместу: „Учора, 23 чэрвеня вечарам, памер мясцовы полацкі археолёг і гісторык Іван Іванавіч“.

---

АНАТАЛЬ ФРАНС.

# Вяселы Буффальмакко.

Вучань Андрэя Таффі, флёрэнтыйскі маляр Буонаміко ді Крыстофані празваны Буффальмакко, які праславіўся сваімі жартамі, расказанымі ў Дэкамэроне мэссэра Джованні Боккачыо, быў, як ведама, ў дружбе з вясёлымі і дасьціпнымі малярамі Брунам і Каляндрынам, і аздобіў Таскану множствам твораў, прымушаючых нас прызнаць яго выдатным мастаком.

## І. Тараканы.

У раннай сваей моладасьці Буонаміно Крыстофані флёрэнтыйскі, празваны Буффальмакко за свой вясёлы характар, быў вучням у майстроўні Андрэя Таффі, маляра і мазаіста. Таффі быў умелым вучыцелям. Ен езьдзіў у Вэнэцыю ў той час, калі Апаллоній пакрываў там мазайкай сьцены Сан-Марко і хітра выведываў сэкраты, якія грэкі старэнна скрывалі. Вярнуўшыся ў свой горад ён так праславіўся мастацтвам укладаць абразы з множства дробных чатырахкантовых шкелак, афарбаваных рожнымі барвамі, што ня ўсьцігаў выпаўняць заказаў. Кожды дзень з раніцы і да вечара ён быў заняты ў некалькіх сьвятынях; дзе ўзлезшы на руштаваньні, ён выабражаў Хрыста

ў гробе, Хрыста ў славе пракаў, патрыярхаў, гісторыю Іова або Ноя. Ен вельмі любіў такжа малявць фрэскі разцертымі фарбамі, грэцкім спосабам, адзіным вядомым ў тыя часы; і ён нямеў спачынку і не даваў яго сваім вучням. Ен зазвычай, казаў ім:

— Хто як я валадае мастацтвам і ведае сэкраты яго, павінен заўсёды думаць аб сваей рабоце і працаваць бязупынна, каб зарабіць многа грошы і пакінуць па сабе памяць. І калі я ня шчаджу трудоў, я, стары, зньебыткаваны чалавек, то вы павінны служыць мне ўсімі вашымі сіламі ва ўсей іх сьвежасьці, паўнаце і цэльнасьці.

Ен прымушаў вучняў уставаць ноччу і разьмешваць яму фарбы, .кіт і шклянную масу. Да сьвітаньня ўсё павінна было быць гатовым. Гэта было вельмі цяжка для Буффамалькко, які меў звычай доўга сядзець за вячэрай і сланяцца па вуліцах ў той час, калі ўсе каты бываюць шэрымі. Спаць клаўся ён позна і спаў соладка, да таго-ж і сумленьне ў яго было чыстае. Голасны гоман Таффі будзіў яго, ледзь бывала ён здоляў задрамаць, ён паварачываўся на другі бок, і ўдаваў, што ня чуе. Але вучыцель не пераставаў крычаць. Калі гэта не памагала, ён уходзіў у сьвятліцу вучня, хутка сьцягаў з яго коўдру, і выліваў жбан вады на галаву сьпячага.

Буффамалькко, напоў апрануты, з нездаволеньнем ішоў у цёмную і сьцюдзённую майстроўню расьціраць фарбы. Расьціраючы іх і лаючыся, ён размышляў, як збавіцца другі раз ад гэткай напасьці. Ен доўга шукаў і нямог нічога прыдумаць карыснага і добрага, але ўсё-ж яго розум ня быў бясплодны: раз на сьвітаньні ў яго зарадзілася мысьль, якую можна было зужыткаваць.

Каб выпаўніць яе Буффамалькко дачакаў таго часу, калі вучыцель выйшаў з дому. Як толькі разаднела, Таффі выбраўся на работу: палажыўшы ў кішэнь бутэльку віна і тры, зварных на цьвёрда, яйкі, што станавіла звычайнае яго сьнеданьне, і загадаўшы вучням разтапіць шкло і зрабіць гэта паводле правілаў, са ўсім старэньнем, ён пайшоў ў цэркву Сан Джованьні. Гэта была сьвятыня дзіўнай прыгажосьці, пабудаваная з нязвычайным мастацтвам ў стылю старасьвецкіх. Ен выконываў там мазаічныя работы, выабражаў анялаў, архянялаў, хэрубімаў і сэрафімаў, сілы, троны і панаваньні; галоўныя чыннасьці Бога ад стварэньня сьвету да патопу; гісторыю Язэпа і яго дванадцаці брацьцяў, гісторыю Хрыста ад моманту яго зачацьця ў лоне Маці да ўступленьня ў неба, і жыцьцё Сьвятога Яна Ксціцеля. Ен многа аддаў часу, на ўстаўляньне шклянных чатыраканцікоў у цэмант і артыстычна падбіраючы іх; за гэту аграмадную работу, за гэта множства фігур ён чакаў зыску і славы. Як толькі выйшаў вучыцель, Буффальмакко заняўся падрыхтоўкай задуманага. Ен зышоў у склеп, які быў побач са склепам пекара. Там было многа тараканаў—іх вабіў пах мукі. Ведама, што тараканы асабліва памысна множацца ў пякарнях, заездах і ў млынох. Гэты стварэньні плоскія і сьмярдзячыя, няздарна цягаюць на доўгіх касматых лапах свае жоўтыя шчыты*).

У часе войн, якія ачырвенілі воды Арабіі і якія сыцылі аліўкі дваранскай крывёй, гэты агідныя старэньні мелі ў Тоскане два найменьні. Флёрэнтыйцы называлі іх сіенцамі, а сіенцы флёрэнтыйцамі.

Добры Буффальмакко з усьмешкай сьлядзіў за рухамі тараканаў. Яны поўзалі як роты рыцараў - пігмэяў з малюськімі шчытамі ў зачараванай бітве.

— О! О! — сказаў Буффальмакко — няшчасьлівыя майскія жукі! Яны

*) Тут мова аб усходніх тараканах.

не любілі вясны і Юпітар пакараў іх за іх безжарлівасьць! Ен асудзіў іх поўзаць ў цемры, пад ціжарам безкарысных крыльляў. І яны поўзаюць ў навуку людзям, каб паказаць ім, што ў пару каханьня трэба карыстацца жыцьцём.

Гэтак гаварыў сам з сабой Буффальмакко. Як і усе людзі, ён любіў вынаходзіць у прыродзе сымвалы сваіх пачуваньняў і слабасьцяў. Яго слабасьцю было—выпіць, забавіцца з чэснымі жанчынамі і выспацца ў цёплай пасьцелі зімой і ў сьвежай—летам.

Але ён зышоў у склеп не затым каб размышляць аб клічах і эмблемах. Ен хутка справіўся: набраў два тузіны тараканаў, палажыў іх ў мяшэчак, які прынёс з сабой, і схаваў яго пад ложка ў сваей сьвятліцы. Пасьля гэтага ён пайшоў у майстэрню, дзе яго сябры Бруно і Каляндрыно малявалі паводле нарысаў вучыцеля, сьвятога Францішa, атрымліваючага стыгматы. У гэты час яны абмяркоўвалі, як-бы ім усьпіць заздрасьць шаўца Мэммі, жонка якога была прыгожа і прыступна.

Буффальмакко ня менш за іх абладаў умецтвам. Ен узышоў на драбіну і пачаў размалёўваць крыльлі сэрафічнага разпяцьця, якое спускалася з неба, каб налажыць на сьвятога пяць ран любові. Ен пастараўся адцяніць нябесныя крыльлі самымі квольнымі фарбамі вясёлкі. Гэта работа заняла ўвесь дзень, і калі стары Таффі вярнуўся з Сан Джованьні, ён нямог стрымацца, каб не пахваліць свайго вучня. Але стары ня шчодры быў на пахвалы, наадварот, ён быў панурага характару і повен пагардлівасьці; гэткім яго зрабілі старасьць і сабранае багацьце.

— Дзеці мае,—сказаў ён вучням,—гэты крыльлі размаляваны давол[і] ярка. Буффальмакко шмат мог-бы дасьцігнуць у малярстве, каб тольк больш пільна працаваў. Але ў яго ў галаве адны гулянкі. Патрэбна натужная праца, каб давясьці да канца пачатую справу. Каляндрыно мог-бы стацца вашым агульным вучыцялям,—такі ён старэнны, каб толькі ён быў не такі дурань.

Гэтак навучаў Таффі сваіх вучняў. Гэта было жостра, але справядліва. Аблягчыўшы гэтым душу, ён пайшоў у кухню закусіць салёнай рыбкай; пасьля ў сваю сьвятліцу, лёг у пасьцель і скора захрапеў. Тымчасам Буффамалькко зрабіў свой звыклы абход усіх устаноў, дзе можна дастаць па таннай цане віна і яшчэ таньней жаночую прыхільнасьць. Пасьля чаго ён вярнуўся дамоў прыблізна за паўгадзіны да таго моманту, калі Таффі меў звычай будзіцца. Выцягшы мяшэчак з пад ложка, ён выняў па адным тараканаў і прымацаваў ім да плеч, кароткай і ценкай іголкай, па малюсенькай васковай сьвечцы. Запаляючы сьвечку за сьвечкай, ён пускаў тарканаў па сьвятліцы. Гэты жывёлы даволі тупыя на розум, каб зусім ня чуць болі або прынамні не дзівіцца ей. Але зьнечаку і ад нейкага нявыразнага страху поўзалі па памосьце, крыху хучэй як заўсёды. У скорым часе яны ўжо апісывалі кругі—не дзеля дасканальнасьці гэтай фігуры, аб чым кажа Платон, але з прычыны інттынкту; ўсякія кузуркі бегаюць наўкруг калі хочуць уцячы ад незразумелай небасьпекі. Зрабіўшы гэта Буффальмакко лёг у пасьцель і глядзеў, як яны бегаюць, захоплюючыся сваей выдумкай. І запраўды, трудна было выабразіць больш чароўнае відовішча. Беганьне тараканаў напамінала гармонію сфэр, як яе апісываюць Арыстотэль і яго комэнтатары. Тараканаў саўсім не было відаць, і сьвечкі на іхніх гарбох здаваліся жывымі агнямі. З гэтых агнёў у цёмнай сьвятліцы злажылася болей цыкляў і эпіцыкляў, чым сколькі маглі бачыць, сьцежачы за рухам плянэт, Платон і Арабы. Раптам раздаўся голас Таффі, ён хрыпеў ад флегмы і гневу.

— Буффальмакко! Буффальмакко!—крычаў стары, кашляючы і адкархіваючыся,—прачніся, Буффальмакко! Уставай, дурань! Не далей як за паўгадзіны разьвіднее. Або-ж блохі у тваей пасьцелі так прыгожы, як Вэнэры, што табе так цяжка з імі разстацца. Уставай гультай! Калі ты зара не ўстанеш, я цябе за валасы і за вушы выцягну з-пад коўдры.

Гэткімі славамі добры вучыцель кожды день будзіў вучня; такая яго была любоў да малярства і мазайкі. Не дачакаўшыся адповедзі, ён сунуў ногі ў назуткі і, не нацягнуўшы іх да калень, засоўгаў ў спальню вучня. Гэтага толькі і чакаў Буффальмакко. Зачуўшы на сходах крокі старога вучыцеля, вучань павярнуўся носам да сьцяны і ўдаваў, што крэпка сьпіць.

— Гэй, ты, сонная патароча! крычаў Таффі на сходах,—я цябе навучу спаць, будзь з табой хоць адзінадцаць тысяч дзеў, лакнучых пазбыцца нявіннасьці!

З гэтымі славамі Таффі адразу разчыніў дзьверы ў сьвятліцу.

Але ўбачыўшы бегаючыя па памосьце аганькі, ён стануў, як укапаны на парозе, ў яго задрыжэлі калені.

— Гэта чэрці,—падумаў ён,—у гэтым няможа быць ніякага сумлеву! Гэта чэрці і злыя духі. Яны лётаюць з матэматычнай праўднасьцю, зкуль я дабачаю, як вяліка іх сіла. Чэрці склонны ненавідзіць маляраў; мы рысуем іх ў агіднай постаці, тады як анелаў мы выабражаем ў славе, акружаных блескам, з разгорнутымі бліскучымі крыльлямі. Бедны хлопчык, ён акружан чарцямі; іх тут прынамні цэлая тысяча. Напэўна ён уквяліў самога Лыцыпара, намаляваўшы яго якім колечы патворам. І вельмі праўдападобна, што гэты дзесяць тысяч чарцянят ўскочуць на яго і павалакуць яго жывым у пекла. Так! яго чакае гэткі канец. Ах, я-ж сам выабражаў іх ў абрыдлівых постацях—на мазайцы і іншымі спосабамі; ў іх маюцца некатарыя падставы злуваць і на мяне.

Гэта думка падвоміла страх. Перад ім кружыліся сотні тысяч агнёў. У яго не хапала сьмеласьці падыйсьці да іх, і, падкасаўшы назуткі, ён рынуўся ўніз са сходаў са ўсіх сваіх старых ног. А Буффальмакко душыўся са сьмеху пад коўдрай. На гэты раз ён праспаў да белага дня, і з таго часу вучыцель не важыўся яго будзіць.

## II. Узяцьце Таффі на неба.

Мастаку Андрэя Таффі Флёрэнтыйкаму заказалі вылажыць мазайкай купал ў Сан Джованьні. Ен дасканальна выканаў гэту работу. Усе фігуры былі зроблены ў грэцкім стылю, з якім Таффі азнаёміўся ў часе бытнасьці сваей у Вэнэцыі, дзе ён бачыў здобленьне сьцен Сан Марко. Апрыч таго ён прывёз у Флёрэнцію грэка Апаллонія, які ведаў важныя сэкраты мазайкавага мастацтва. Гэты Апаллоній быў умец і выдатны мастак. Ен ведаў якія трэба даваць прапорціі рожным часьцям чалавечага цела, з чаго лепей за ўсё рабіць цэмант пад мазайку.

З боязьні, каб грэк не передаў сваей веды і сваей умеласьці каму колечы другому з мяйсцовых майстроў, Анрэа Таффі не адыходзіў ад яго ні днём ні ноччу. Кождую раніцу ён праводзіў яго ў Сан Джовані, і кожды вечар адводзіў да сябе ў свой дом супроць цэркві Сан Мікеле. Мейсца да спаньня ён яму празначыў у аднэй сьвятліцы з вучнямі Бруно і Буффальмакко; толькі перагародка аддзяляла гэту сьвятліцу ад спальні самога Таффі. Перагародка не даходзіла на чверць да столі; і можна было чуць усё, што гаварылася ў суседняй сьвятліцы. Таффі быў чалавек маральны і багабойны.

Ен зусім не подобен быў да тых мастакоў, што вышоўшы са сьвятыні, дзе яны рысавалі стварэньне сьвету і Хрыста ня руках прасьвятой яго Маці, ідуць у карчму гуляць у косьці і трубіць у трубы ды блазнаваць з дзяўчатамі. Ен заўсёды верны быў жане, хоць яна і не была створана дзеля насалоды мужчынам. Гэта была асоба невымоўна сухая і кіслая. І калі літасьцівы Бог узяў яе з гэтага сьвету і па бязьмежнаму міласэрдзю свайму прыняў на сваё лона то Андрэа Таффі ужо не браў сабе другой жонкі. Ен жыў у прыкладнай паўстрымлівасьці, якая прыстойна была яго сівізьне. Гэта збаўляла яго ад лішніх выдаткаў і клопатаў. А тым самым ён дагаждаў і Богу, які нагараджае нас на другім сьвеце за злыбяды, перажытыя на гэтым сьвеце. Андрэа Таффі быў чэсны і цьвярозы і не аддаваўся ніякім збыткам. Кожды вечар ён маліўся, і пературым як заснуць ўзываў да Мадоны:

„О, Ты, паводле заслуг сваіх ўзятая на неба, пряцягні сваю руку, поўную ўсякіх ласк, паднімі мяне ў сьвяты рай, дзе ты сядзіш на залатым пасадзе.“

Гэту малітву Таффі не бубніў скрозь зубы (іх у яго мала і асталося), а вымяўляў голасна басам: ён ведаў, што гэтак малітва яго была гармонічнай, і што трэба крычаць каб быць пачутым. Дзеля гэтага вячорную малітву Андрэа Таффі чулі кожды вечар і грэк Апаллоній і абодвы маладыя флёрэнтыйцы, якія спалі ў суседняй сьвятліцы. Апаллоній аказаўся такім-жа жартаўнікам як і Бруно і Буффальмакко. Усім траім страшэнна хацелася як колечы паджартаваць з вучыцеля, чалавека справядлівага і богабойнага, адначасна скупога і грубіянскага. Раз ноччу, пачуўшы звыклую малітву старога да Мадонны, тры таварышы пакаціліся з хохату пад сваімі коўдрамі і ўсяляк насьмяхаліся з вучыцеля. Як толькі стары захрапеў, яны пачалі ціха змаўляцца, якую-бы ім падстроіць яму штуку. Ведаючы, як стары баяўся чорта, Апаллоній запрапанаваў апранупца ўсім у чырвонае, начапіць рогі, закрыць аблічча маскай і ў гэткай постаці звалачы Таффі з пасьцелі. Але добры Буффальмакко сказаў на гэта:

— Трэба дабыць нам вяроўку і шпульгу; заўтра ноччу я вам уладжу відовішча.

Апаллоній і Бруно хацелі даведацца нашто патрэбна вяроўка і шпульга (блок); але Буффальмакко не сказаў. Ня гледзячы на гэта яны абяцалі яму дабыць, што ён прасіў. Яны ведалі, што ён быў самы спрытны паміж іх на ўсякія сьмешныя выдумкі, самым большім на сьвеце вясялуном, зашто яго і празвалі Буффальмакко. І запраўды ён ведаў многа добрых штук, аб якіх пасьля апавядаліся цэлыя гісторыі.

Абмяркаваўшы, ўсё троя сябоў заснулі. У слухавое акно на іх глядзеў месік; адзін з яго рагоў абернуты быў да старога Таффі. Яны спалі да сьвітаньня г. зн. да таго часу, калі вучыцель застукаў у перагародку, кашляючы і адкархіваючыся, як заўсёды.

— Уставайце, Апаллоній! Уставайце, вучні! Ужо дзень. Фэб пагасіў ўжо нябесныя сьвечкі. Хучэй! Час кароткі, а работа доўгая.

І ён пагражаў Бруно і Буффальмакко абліць іх сьцюдзёнай вадой.

— Вам так прыемна ваша пасьцель—казаў ён насьміхаючыся,—як дама з Барбанікі, нядзіва што вам так цяжка разстацца з ей?

Напрануўшы нагавіцы і накінуўшы старую туніку, ён выйшаў са спальні, і знайшоў траіх таварышоў на сходах, зусім гатовымі і з прыладамі ў руках. Яні ішлі ў Сан Джованьні. Руштаваньні ў саборы падыймаліся да самага купалу, Работа тэй раніцы ішла жвава. Восьмы дзень працаваў ужо вучыцель над хрышчэньнем Хрыстовым, кладучы шмат старэньня, каб вы-

абразіць яго згодна ўсім вымогам мастацтва. Ен ужо разьмяшчаў рыбу ў Іорданскіх водах. Апаллоній прыгатоўваў цэмант з горскай смалы і сечаный саломы, вымаўляючы пры гэтым словы, зразумелыя толькі яму аднаму. Бруно і Буфальмакко падбіралі патрэбныя каменьчыкі, а Таффі разкладаў іх паводле пляну, што быў нарысаваны на мармурнай дасцэ, якую ён трымаў у руках. Улучыўшы момант, калі вучыцель ўвесь панурыўся ў сваю работу, троя сяброў зыйшлі ціхусенька ўніз і вышлі вон з цэрквы. Бруно выбраўся за горад да Каляндрыно нашпульгу, па якой падыймалі ў падстрэшша збожжа. У той-жа час Апалоній пабег ў Руполі да старухі жонкі суддзі, якой ён абяцаў прыгатаваць чарадзейскі напітак прыцягаючый каханцаў. Ен упэўніў яе, што датэтага патрэбна пянька, і старуха дала яму добрую ад студні вяроўку.

Выпоўніўшы даручэньні таварышы зышліся ў доме Таффі, дзе іх чакаў Буффальмакко. Ен хутка прымацаваў шпульгу да бэлькі над перагародкай, раздзяляўшай абедзьве сьвятліцы. Пасьля накінуў на шпульгу вяроўку, адзін канец спусьціў у сваю сьвятліцу, другі ў спальню Таффі, і там за чатыры нагі прывязаў ложка. Вяроўку схавалі пад полагам; каб ня відаць было. Калі ўсё было гатова, ўсе троя вярнуліся ў Сан Джовані. Вучыцель, тым часам, быў так захоплены работай, што блізка не заўважыў іх нябытнасьці. Калі яны вярнуліся, ён сказаў ім вясёла:

— Паглядзіце, як блішчыць у мяне рыба: яна адлівае рожнымі барвамі, а асабліва золатам, пурпурай і лязурай; як і належыць гэтым жывёлам насяляючым акіяны і рэкі. Яны блішчаць таму, што першыя падпалі пад уладу Вэнэры; гэтак гаворыцца ў міфалогіі.

Гэтак развражаў вучыцель і развражаньні яго былі поўны прыгажосьці і праўдных мысьляў. Ен быў чалавекам розуму і веды, хоць і пахмурага характару, асабліва калі думаў аб зыску. Ен далей цягнуў:

— Зважце, як прыгожа праца мастака, якой пахвалы ён годзен! Яна дае багацьце на гэтым сьвеце і шчасьце на тым. Бо бязсумлеўна, што Госпад Ісус Хрыстос з ўдзячным пачуцьцём прыйме ў свой сьвяты рай працаўнікоў, якія як я, праўдна яго выабражалі.

І Таффі цешыўся са сваей вялікай работы, часьці якой захаваліся да гэтуль. Калі настала ноч, і было немагчыма разрожніваць барвы і формы, Таффі з жалям пакінуў Іорданскую раку і вярнуўся дамоў. Ен павячэраў у кухні двума памідорамі і сырам, пайшоў у сваю спальню, разпрануўся бяз сьвечкі і лёг у пасьцель.

Выцягнуўшыся на ложку, ён пачаў звыклую малітву да Мадонны.

„О, Ты, паводле заслуг сваіх жывой узятая на неба! Працягні да мяне руку, поўную ўсякіх ласк і паднімі мяне ў сьвяты рай!“

Толькі гэтага моманту і чакалі трое прайдох ў суседняй сьвятліцы. Яны схапіліся за вяроўку, што зьвісала са шпульгі на перагародку. І як толькі стары дакончыў сваю малітву, вучні па знаку, які даў Буффальмакко, пацягнулі за вяроўку, і прывязанае да яе ложка пачало падыймацца ў гару. Вучыцель, пачуўшы, што падыймаецца, і няведаючы прычыны, падумаў, што Мадонна споўніла яго жаданьне і бярэ да сябе на неба. Ен крэпка спужаўся і пачаў крычаць дрыжачым голасам.

— Пачакай, пачакай Матухна! Я ня прасіў у Вас гэтага так хутка!

Але дзеля таго, што рухам вяроўкі імкнуўшай па шпульзе, пасьцель усё яшчэ падыймалася ўверх, стары стаў вельмі жаласна маліць Мадонну:

— Не цягнеце так, добрая Матухна! Чуеце, спынецеся, спынецеся! Кажуць-жа вам, спынецеся!

Але яна, здавалася, нічога ня чула. Гэта яго вельмі ўзлувала і ён зазакрычаў:

Ці вы аглохлі! Кіньце ўжо, кажуць-жа вам Sporca Madonna!...

Бачучы, што ня глядзячы на нішто, ён аддзяляецца ад памосту сваей спальні, стары вучыцель спужаўся яшчэ больш, і, звяртаючыся да Хрыста маліў устаткаваць сваю Сьвятую Маці, Яшчэ акурат час, казаў ён, спыніць гэты няшчасны палёт. Грэшнік, сын грэшніка, якім ён быў, ён нямог ўзыйсьці на неба, пакуль не дакончыў Іордан ракі з яе хвалямі і рыбамі, і ўсё іншае з гісторыі нашага Госпада. Між тым бальдахім ложка блізка ўжо дакранаўся бэляк будынку. І Таффі крычаў:

Хрысьце! Калі вы дасьце вашай Сьвятой Маці цягнуць яшчэ хоць хвілінку, страха гэтага дому, якая абыйшлася мне ня танна, бязсумлеўна, будзе праломлена. Бо я добра бачу, што прайду наскрозь. Спынеце! Спынеце! Я чую як трашчаць кахлі.

Буффальмакко заўважыў, што ў гэты момант голас у вучыцеля зусім здушыла ў горле. Ен даў знак сваім сябром пусьціць вяроўку, што яны і зрабілі; і ложка, памкнуўшыся зьверху ўніз, звалілася на памост з аглушаючым грокатам. Ножкі паламаліся, дошкі разьехаліся, абваліліся і стаўбы, і бальдахім з полагам ськівуліся на вучыцеля, які равеў як чорт, думаючы што задохся. Перапужаны ўсей гэтай катастрофай, ён няведаў ці то зваліўся ў сваю спальню, ці то рынуў проста у пекла.

Тады тры вучні зьбегліся да яго, як бытцам іх разбудзіў грокат. Убачыўшы ў хмарах густога пылу абломкі ложка, яны ўдавалі, што вельмі зьдзіўлены, і замест таго, каб памагчы яму, выпытывалі вучыцеля, ці ня чорт тут ў яго набузаваў. Але вучыцель мог толькі прастагнаць:

— Я не магу больш! Выцягніце мяне адгэтуль. Я паміраю!

Урэшце, яны выцягнулі яго з пад абломкаў, пад якімі ён ледзь, запраўды, не аддаў Богу душу, і пасадзілі, прысланіўшы да сьцяны. Ен сапеў, кашляў, харкаў, пляваўся і пасьля сказаў з пераконаньнем:

— Дзеці мае, каб да мяне не прыйшоў на падмогу Госпад наш Хрыстос, калі-б ён ня ськівуў мяне на зямлю з гэткім імпэтам, якога вынікі вы тут бачыце, я быў-бы ўжо цяпер у тым кругу неба, які называюць крышталічным. Яго Прасьвятая Маці валакла мяне ў неба і не хацела нічога слухаць. Валючыся я ўтраціў тры зубы; яны, праўда, не былі саўсім цэлы, але усё-ж такі служылі мне. Апрыч таго, я чую крэпкую боль у правым баку і ў руцэ, ў якой трымаю пэнзлі.

— Вучыцель,—сказаў Апаллон,—мусі вы параніліся такжа і ў сярэдзіне; гэта вельмі небасьпечна! У Канстантынопалі, ў часе бунтаў, я меў зручнасьць пераканацца, што ўнутранныя раны больш небасьпечны чым зьнешнія. Але не пужайцеся, я іх зара загавару чарадзейскімі славамі.

— І ня важцеся,—ўсклікнуў стары.—Гэта вялікі грэх, лепш падыдзіце ўсе трое, і, зрабіце ласку, разатрыце мяне там, дзе крапчэй баліць.

Яны зрабілі так як ён прасіў, і разцерлі яго ды так добра, што на плячох і на бакох пазьдзіралі скуру.

Зара пасьля гэтага маладыя людзі пайшлі апавядаць па ўсяму гораду гэту гісторыю. На другі-ж дзень ва ўсей Флёрэнціі не было мужчыны, жанкі і дзяцяці, якія-бы пры сустрэчы з Таффі не разсьмяяліся бы яму ў вочы.

І раз раніцай, калі Буффальмакко прахадзіў па Корсо, мэссэр Гвідо, сын сіньёра Кавалькапці, які ехаў страляць журавоў на балота, спыніў свайго каня, паклікаў вучня і кінуўшы яму калітку з грашамі сказаў:

— Вось, мілы Буффальмакко, выпій за Эпікура і яго пасьледаунікаў.

Вольны перадклад В. Л.
з. А. Толстого.

# Чужое гора.

Імчыцца стралой, паўночнай парой,
Муж знатны ў багатым уборы,
Магутнае сілы, у зброі цяжкой
І гукнуў басьпечна ў глушы лесавой:
—„ Якое-ж мне можна быць гора!

Так едзе ён рысьсю, гудзіць глушыня,
Тутняць аб карэньні капыты.
Аж з дуба, няўзнак, хтосьці, скок, на каня--
—„Гэй, хто за плячмі там, яка чартаўня?
„Самной сьцеражыся і квіта!“

І шчупае войнік свае павужы,
Шукае у кождай аборы,
Аж чуе адказ ён:—„я тут ня чужы!
З мінуўшчынай, брат, ты дармо ня дружы--
Вязеш-бо Ўсяславава гора“

—„Ну, лжы сабе,--кажа,--ночна ты блаж,
Запраўды было-бы то дзіва!
Якая твая там з Ўсяславам то зьвязь?
Ў Сафійскім саборы, крывіцкі сьпіць князь,
А гора як бытцам йшчэ жыва?!“

І далей ён едзе, чакаючы дня,
З заплечнікам борзка па бору.
Аж, зноў, да яго хтосьці, скок, на каня
І шэпча на вуха:—„Той мне не раўня:
Я, вою, Масквіцкае гора“.

—„Ох, бачна, ня ў добры я выяхаў час!
Бач, напасьць якая бывае?!
Што шышак яловых тут сыплецца вас!“
Так думае войнік, хмарнейшы што раз,
А конь ужо крокам ступае.

І конскую сілу знурыла цягло,
Ен стаў патыкаціся скора—
А тут, вось, ізноў хтосьці, скок, за сядло.

—„Якога там беса яшчэ прынясло?!“
—„Я, брацейка, ляшскае гора!“

—„Далоў вас! І мейсца німа за сядлом;
Мне плечы зусім адушыла!“
—„ Не, вою, як селі далоў не зыдзем!“
І едуць яны на каню што вазом
І ломіцца конская сіла.

—„Эх,—думае войнік,—каб з лесу ды вон,
Ды ў поле,— памчаўся-б ў прасторы!
І як так бяз бою я трапіў ў палон?
Чужае, бач гора валоч прымушон—
Чужое, —мінуўшчыны гора!“

ВАСІЛЬ ЛЮЦЬВЯГ.

# Два Крыўска-Беларускія абрыўкі былінная эпоса.

Героі і магуты становяць у народоай паэзіі пераход ад багоў да людзей, які пераход адбываўся ў моманты вялікіх гістарычных пераваротаў. Гэткі пераварот усходняе славянства перажывала у X ст., калі старую веру замяніла новая, хрысьціянская вера. Эпічныя матывы і легенды у гэтым часе, ад X да XIII, а можа і шмат пазьней, народная фантазія перанасіла на гістарычныя асобы. „Поэтычная творчасьць ад багоў і мітычных герояў зышла да звычайных сьмяротных, але спынілася толькі на вышэйшых прадстаўніках пароду, на князёх, надаўшы ім мітычныя рысы знаёмых ідэалаў даўнейшага эпоса“*).

У агульна-рускім былінным эпосе, які кружыцца каля кіеўскага князя Валадзімера, ёсьць сьляды паказуючыя на істнаваньне асобнага цыклю Крыўска-Беларускіх былін. Да гэткіх належаць легенда аб Волату Валатовічу і быліна аб Волху Усяславічу.

Легенда аб Волату Валатовічу безпярэчна зьяўляецца легендай Крыўскага паходжаньня, а гэта на тэй падставе, што на ўсім абшары разсяленьня крыўскага племя капцы-магілы бронзавага веку народ называе „валатоўкамі“, ў якіх пахаваны, па пераконаньню народнаму, яго ў простай лініі прадзеды. Аб волатах істнуе ў нашым народзе многа рожнародных легенд. Урэшце слова „волат“ служыць дзеля абазначаньня вялікана, якой прыметай, як ведама, народы надзялілі сваіх продкаў, або даўшыхся ў памяць народу сільных заваёўнікаў. Прыкладам з найменьня народу Авараў—Обраў, утварылася польскае „olbrzym“, з найменьня народу Спалаў, расійскае „исполин“, ад найменьня чудзь ў валагодзкай губэрні ўжываецца слова „шчуд“—волат.

Легенду аб Волату-Валатовічу надрукаваў Буслаев („Русская народная поэзія“ Т. I. СПБ. 1861 г. стр. 455—463). У гэтай легендзе мейсца, звычайнага ў былінах кн. Валадзімера заступае Волат-Валатовіч. Вотчаства ад імя гэроя, звычаайна для эпічных магутаў. Гэтак у польскага Крака быў бацька

*) Буслаевъ. Русская поэзія XI и начала XII в.

Крак. „Калі герою хочуць выдумаць імя бацькі, то лепш за ўсё даць яму тое-ж імя, якое мае і сам герой. Гэтак атрымаў сваё імя Волат-Валатовіч". (Буслаеў 456).

Волат-Валатовіч вызначаецца ў легендзе нязвычайнай мудрасьцю: ён загадуе загадкі цару Давыду Іесеевічу, прапанаючы яму вытлумачыць сны і пасьля Давыд пытае Волата аб пачатку сьвета, пасьля ізноў Волат загадуе Давыду аб пяршынстве розных рэчаў і ўрэшце, Давыд задае Волату, відаць самае труднае пытаньне, аб страшным судзе. Не гледзячы на пазьнейшыя апокрыфічныя абставіны ў якія пастаўлен Волат Валатовіч,—сама легенда выяўляе сабой старэйшую рэдакцыю Галубінай Кнігі,—ён істота нязвычайная, пануючая: над усімі сарака двумя царамі якія зьехаліся на Сінайскую гару „набольшым" быў Волат Валатовіч „ты наш первы цар Волат-Валатовіч". Другі па ім быў Майсей-Майсеевіч, трэцьці Елісей Елісеевіч і чацьверты—Давыд Іесеевіч.

„Каліб гэта повесьць сустрэцілася паміж стара-нямецкімі поэтычнымі творамі, то ніхто не сумляваўся-бы прызнаць яе за падноўлены ў хрысьціянскую эпоху эпізод вядомай песьні старой Эдды аб Вафтрудніру (Vaftrudnismal): так паражаюча падобнасьць абодвых гэтых твораў, паводле аснаўных сваіх эпічных матываў. Як Вафтруднір-волат з племя Іотаў, гэтак сама і Волат па значэньню свайго імя ёсьць вялікан. Іоты паўночнай міфалогіі, слылі веданьнем ўсяго таго, што дзеялася з правеку, ў пачатку. Дзеля гэтага Вафтруднір разьвязуе пытаньні космаганічнага характару, а сам задае Одыну пытаньні, датыкаючыя больш імён рожных рэчаў і асоб паўночнай міфалогіі. Гэтак і Волат адпавядае Давыду аб тым чаму сьвятло сьвеціцца, з чаго сонца і зара, як ходзіць неба і начым апіраецца зямля; сам-жа ён пытае Давыда аб імёнах першага з нарадоў, зьвяроў, вазёраў, аб маці траваў, птахаў і г. п." (Буслаев 456).

Змаганьнеся загадкамі у Міфалогіі зазвычай мае вынік драматычны, або цікуе якую колечы мэту. Трэба думаць, што ў першапачатковай рэдакцыі быліны аб Волаце гэтае змаганьне між мудрацамі мела акрэсьленую мэту. Пачатак легенды навет намякае на гэта, паказуючы на будучую жанідзьбу паміж іхнімі дзяцьмі. Сын Давыда цар Саламон жэніцца з Саламанідай Валатоўнай і будзе валадзець царствам Волата.

„Асабліва важна для гісторыі народнага эпоса пасвачаньне Волата з Давыдам і Саламонам. Як у нашай повесьці Волат сват Давыду і цесьць Саламону, так паводле апавяданьня ад Кітаўрасе, гэты ваўкалака брат Саламону. І калі дапусьціць, што вялікан Волат—прадстаўнік мітычных ваўкалакаў, Воўкаў, якія атрымалі гістарычнае істнаваньне ў племю Велетаў, Вільцоў, Ваўчкоў; то Кітаўрас і Волат будуць аднаякімі істотамі: і той і другі ваўкалакі" (Буслаев 459).

Да гэтай легенды ўсім сваім зьместам прымыкае быліна аб ваўкалаку і чараўніку—(валхву) Волху Усяславічу. У Волху Усяславічу ня трудна адгадаць гістарычную асобу, крыўскага князя чараўніка (валхва) Ўсяслава, ўнука Рагнеды. У летапісях гаворыцца, што Ўсяслаў радзіўся „от волхвованія", знача ад нейкага дзіўнага, чарадзейскага способу, не як усе людзі.

У быліне аб Волху Ўсяславічу апавядаецца таксама нязвычайнае аб яго зачацьці:

Ой па садзе зеляненькім хадзіла-гуляла,
Хадзіла-гуляла малада княжна,
Яна з камяшка скочыла, на лютага зьмея—
Абвіваецца люты зьмей каля ножанькі

Каля ножанькі, шаўкоў назуткі,
Шаўкоў назуткі, каля бел—сьцягна.
От тады княжна дый зачэрала
А зачэраўшы дзяцё радзіла.
А на небе прасьвяціў ясны месік,
А на зямлі радзіўся вялікі магут,
Вялікі магут, малады Волх-Усялаўевіч
Задрыжэла маці дый Сыра зямля,
А і сіня мора скалыбалася,
Што радзіўся на сьвет вялікі магут,
Малады князь Волх-Ўсеслаўевіч;
Рыба пашла у марску—глыбіню,
Птахі ўзляцелі высока у неба,
Туры і лосі за горы пашлі,
Зайцы-лісіцы па узлесачках,
А ваўкі—мядзьведзі па ельнічках,
Саболі-куны па вострavах.

Далей чытаемо ў летапісях, што Усялаў на галаве меў нейкі знак, к-торы валхвы сказалі маці павязаць павязкай, якую ён і насіў да кан-жыцьця.

Авось як быліна апавядае аб адукацыі Волха-Ўсяславіча:

І вучыўся Волх усіх мудрасьцяў:
А вучыўся ён першай мудрасьці
Абяртацца сакалом птахай борздаю;
А вучыўся Волх другой мудрасьці
Абяртацца дый шэрым воўкам;
Трэцяй мудрасьці вучыўся Волх
Абяртацца Турам гнядым залатыя-рогі.

„Баян, пявец паходу кн. Ігара, ўмела зьліў у адно мастацкае цэлае эл-мэнт гістарычны з мітычным. У Баяна Ўсяслаў нятолькі гістарычная асоб-полацкі князь, які скочыў да Кіева і даткнуўся стружжом залатога Кіеўск-га пасаду; але і вешчы аваpоцень, мудрэц, які: „людзём суды судзіў, кн-зём гарады парадкаваў, а сам у ноч воўкам бегаў да Тмутараканя; вялікa-Хорсу воўкам шлях перабягаў“. Немаль тое самае гаворыцца ў старасьве-кіх казках аб Кітаўрасе: „звычай той цар меў: ў дзень царствуе над людз-мі а ноччу абяртаецца зьверам кітаўрасам і царствуе над зьвярамі“. Зара-гэтым гаворыцца аб борзкасьці Усяслава: ён у прадоўжаньні звону да ю-рані пасьпяваў у Кіеў; „таму ў Полацку пазвоняць на ютраню, а ён у Кіе-звон чуе“. Можа гэты сказ азначаць і чуткі слух, але ў кождым здарэн-ён адмячае цудоўную азнаку вешчага, нязвычайнага героя“ (Буслаеў 390-9-

Галоўнымі азнакамі Волата-Валатовіча і Волха Ўсяславіча зьяўляю-а) мудрасьць, б) ваўкалацтва. Як ведама пракаветным жыхаром краю па-ней прыбыўшыя плямёны прыпісуюць таёмную сілу і веду. Гэтаму па-жэньню адпавядаюць Іоты паўночнай міфалогіі і іх прадстаўнік Вафтрудн-а ў нас прадстаўніком племя мудрацоў зьяўляецца Волат-Валатовіч, а па-ней гістарычны волхв князь Ўсяслаў,

Этнографічныя данныя даюць нам довады, што суседзячыя з крыўс--беларускім народам—вялікарусы, украінцы, літвіны і ўрэшце палякі гэ-апінію чараўнікоў і вядуноў па сягоняшні дзень прыпісуюць беларус-асбаліва-ж крэпка устанавілася за беларусамі, ў вачах суседніх народнасьц-апінія уменьня перакідацца самім і другіх перакідаць у ваўкалакаў.

Аб племю Воўкаў найдаўнейшая зьменка знаходзіцца ў Гэродота, які ак апавядае: „У краю, на паўночны-захад ад выплываў Днястра, жыў народ Нэрвы. За сто гадоў да паходу Дарыя супроць Ськіфаў, яны прымушаны былі зьмеямі, якія часьцю расплядзіліся у іхнім краю, часьцю якія прылі з паўночных пушчаў, пакінуць свае папярэднія сялібы і шукаць прытулку ў суседняга і кроўнага ім племя Будынаў“. Гэродот азначыў мейсца асяленьня Будынаў з поўначы вялікай пушчай і аграмадным зборышчам од, ў якім „зборышчам вод“ гісторыкі дабачаюць цяперашняе Палесьсе.

Паводле Шафарыка (Славянск. Старажытнасьці II) магутны славянскі арод Люцічы або Ваўчкі (Вълцы, Вълчки, Вильцы) жыў ў краю, дзе былі ялібы і племя Нэрваў, і гэты край называўся Вілкомір (воўчы-мір).

Кастантын Парфірародны, апісуючы славянскія плямёны, якія жылі ў ярхох Дняпра называе і Люцічоў. (Доўнар-Запольскі—Очерк ист. Кривичкой и Дреговичской земель). Вышэйсказанае дае падставу думаць, што ў іку славянскіх плямён лёгшых у аснову Крыўскага народу былі і Люцічы, кія насілі такжа назову Велятаў або Волатаў. Ад іх то і асталіся капцы—алатоўкі і абрыўкі быліннага эпоса, які ў гістарычныя часы быў, як на атомка іх, перанесен на князя Усяслава.

---

# Што такое „Русь“ смаленскай турговай граматы 1229 г.?

Як відаць са Смаленскай турговай граматы 1229 г., і, наагул, з граат заключаных з немцамі крыўскімі гарадамі—Смаленскам, Вітабскам і Поацкам,—са стараны гэтых гарадоў выступае жыхарства пад найменьнем Русь“, „роуски“, „роусин“. Якой-жа катэгорыі гэта найменьне? дзяржаўнае, лемянное, ці адначасова злучае абодвы паняцьці разам? Нажаль, гэты сашыя граматы паказуюць нам, што найменьне „Русь“, ўкладаўшымі гэны граааты дэлегатамі, ужыта было ў саўсім іншым значэньні.

Для абазначаньня нямецкай стараны ў граматах ужываецца не адно, а ва найменьні „немци“ і „латинеськии“. Першае найменьне ў нашы часы, азумеецца як назоў германскай нацыі і ўжываецца цяпер толькі ў гэтым начэньні. Даўней-жа, тэрмін „немец“ меў значэньне падвойнае: як, наагул, алавек другой, чужой, незразумелай мовы, з якім нельга было згаварыцца, і к спэцыяльная назова для людзей лацінскага (каталіцкага) абрадку. Словы немецьки“ і „латинеськи“ ў нашых турговых умовах стаўляюцца як аднаначныя, прыкл.: „оу немецкои божницы“, „у латинеськои церкви.“ І гэта ўсім згодна з гісторыяй. У гэткім значэньні словы „немец“, „нямецкая ера“ ўжываліся ў нас да XV ст., што відаць з летапісаў, бо немаль адзіымі прадстаўнікамі рыма каталіцкага абрадку, на крыўска-беларускіх земях, былі ў тыя часы, прыхадзіўшыя з захаду, купцы з нямецкіх гарадоў,

Слова „латинеськи“ само сабой ясна, —яно азначае лацінскую веру.

Турговыя умовы і граматы, названых вышэй гарадоў, даюць перавагу лову „латинески“ над словам „немецки“, апошняе ўжываецца даволі, стаункова, рэдка.

З гэтага адзіна праўдны вывад, што прадстаўніцтва ганзэйскіх гарадоў, ры заключаньні умоў з Крыўска-Беларускімі гарадамі выступала пад адзіай, злучаючай іх усіх, веравызнаўчай азнакай. У данным здарэньні са ста-

раны Рыгі выступаюць прадстаўнікі не нямецкага „языка“ а лацінскага абрадку, аб якіх дзе-недзе зазначана „немцы„.

Зьяўляецца пытаньне: калі адна старана выступае як прадстаўляючая людзей азначанага абрадку, то, паводле законаў лёгікі, і другая старана павінна была ўжыць назоў адпавядяючый па зьместу першаму, г. зн. выступіць пад назвам аб'еднуючай рэлігіі. Толькі ў гэткім значэньні тэрміны „латинеськи“ і „русин“, стаячыя побач, будуць натуральны і зразумелы. Калі-ж дапусьціць, што адна старана называе сябе рэлігійнай азнакай, а другая процістаўляе ей свой этнографічны назоў, то гэткая рожнаякая тэрміналёгія будзе абсурднай ў так важным дакумэнце.

І гэткая тэрміналёгія саўсім згодна з тагочаснымі паняцьцямі. У вачах старадаўнай інтэлігенцыі, як заходна-эўропэйскай, так і нашай, рэлігійныя азнакі мелі шмат болшае значэньне, чым якія іншыя. Кождая старана, шукала, ў элемэнтах даступных тагочаснаму разуменьню, ў праціўнай старане азнак агульных, гэты азнакі былі знойдзены ў пануючых, у тэй і другой стараны, абрадах. Для крыўскіх дэлегатаў, сьпісываўшых умову, ўся праціўная старана была, ясна, веры „нямецкай“, або што адно і тоеж-ж „лацінскай“ Немцы-ж і ў Смаленскай і ў Вітабскай і ў Полацкай валасьцёх сустрачалі адзін агульны „рускі“ абрадак.

На гэтай аснове тэрміны „латиньски“, і тэрмін „руски“, былі прызнаны адназначнымі па зьместу, бо першы і другі падкрэсьляюць азнакі рэлігійныя умаўляючыхся старон.

Гэткім чынам тарговыя умовы XIII—XV ст. з Рыгай даюць нам яшчэ адзін лішні доказ, што тэрмін „Русь“ ужываўся і разумеўся ў нас, не як этнографічная а як веравызнаўчая азнака.

---

ЮРЫ ВЕРАШЧАКА.

# Хто у каго запазычае?

Няма больш папулярнай і больш няпраўдзівай басьні, як басьня, на жаль вельмі дагэтуль пашыраная, аб польскай цывілізацыі на Беларусі. Паводле гэтай басьні да прыходу палякаў у Беларусь, быў тут край дзікі, з „простай“ мовай, якую польская цывілізація „ушляхэтніла“. Гэту басьню паўтараюць ня толькі польскія фальсыфікатары гісторыі тыпу бр. Студніцкіх, кс. Мацеевічаў, ды сьвежа спольшчаных Обстаў і Брукнэраў, але і расійскія вучоныя „казённай“ школы. Тым часам ход гістарычных падзей, гэты праўдзівы сьведка, нам апавядае саўсім адваротнае.

Перадамной ляжыць кніжка аднаго з выдатнейшых польскіх вучоных Б. Хлебоўскага (Pisma Bronisława Chlebowskiego T. I. Studya historyczno-krytyczne z zakresu dziejow literatury, oświaty i sztuki polskiej. Warszawa 1912), пісьменьніка т. зв. рэалістычнай школы, якая ставіла сабе мэтай, адкінуўшы ўсякія басьні, абмежыцца праўдай, асабліва на полю пазнаньня сваей, польскай, гісторыі. І вось што мы чытаем ў гэтага, стараючагася быць об'ектыўным, польскага вучонага аб найдаўнейшай гісторыі польскіх плямён.

„Беднасьць рэлігійных паняцьцяў і форм культу, якія відаць з нячысьленых зьменак, што сустрачаемо ў гістарычных помніках, а такжэ з таго, што перахавалася ў народных песьнях і абычаях, як і з бедных астаткаў ў фігурах божышч і сьлядох сьвятынь, паказуе нам ме, у нізкой ступені умысловага развіцьця первабытных Палянаў і тлумачыць чаму яны ня вытварылі

сваей літэратуры і свайго мастацтва“... „У той час калі Сэрбы і Русь, ў далёка цяжэйшых варунках, перахавалі многія і цікавыя помнікі народнай творчасьці прадаўных часаў, чамуж Палякі павінны былі загубіць іх? Шпаркасьць і пышнасьць пазьнейшага розквіту пазваляе нам з большай лёгкасьцю прызнацца да ўбогасьці нашай першапачатковай культуры з часаў дахрысьціянскіх“ (стр. 14—15).

Гэткі абраз ляшскіх плямён у дахрысьціянскія часы. Польшча прыняла хрысьціянства з заходу ад немцаў і, паводле таго-ж Хлебоўскага (стр. 16), да XIII ст. нямела свайго польскага духавенства, чужаземнае-ж духавенства, пераважна немцы, ня зналі польскай мовы. „Найпышнейшымі помнікамі культуры гэтай эпохі, зьяўляюцца захаваныя дагэтуль монумэнтальная рэштківі манастыроў“... „Тады як ад драўляных княжых гарадкоў не асталося і сьледу“... „Культурнае жыцьцё і пісьменніцкая дзейнасьць, гэтага, пераважна чужаземскага духавенства, не пасуе з яго матэрьяльнай і палітычнай сілай. Адцятае ад культурнага жыцьця заходу, між якога ўзрасьло, бэнэдыктынцы і цыстэрьянцы забываюць у Польшчы аб сваей асьветнай місіі і не адудзячуюцца барбарскаму краю за дастаткі, якімі ён іх абсыпае“... Калі што пісалася тады ў Польшчы—пісалася па лаціне. Першыя пісаныя па польску памятнікі, паходзяць з XIV ст. Але і гэты памятнікі (XIV і XV ст.) блізка ўсе, зрэшта ня чысьленныя —пераклады з чэскай мовы“.

Гэта ў той час, калі „малакультурная“ Беларусь пісала ўжо кнігі свае ў XI ст.,—знача на 200 гадоў раней. Довадам служаць, захавны да нашых часаў: „Супрасльскі рукапіс“ XI ст., „Тураўскае Евангельле“ XI ст., і шм. іншых.

Да XIV ст., г. зн. да таго часу, калі палякі пачынаюць першыя пераклады з чэскай мовы на мову польскую, беларуская пісьменнасьць мае ўжо сотні рожнародных кніг у сваей мове, і сотні рожнародных грамат пісаных па беларуску.

Для цікавасьці зраўняем мы мову польскую і беларускую з XV ст., як яны выяўляюцца, паводле помнікаў аднэй і другой літэратуры.

Прыклады польскай мовы возьмем з працы аднаго з лепшых знаўцоў польскай мовы Адама Крыньскага (Adam Antoni i Mirosław Kryński. Zabytki języka stropolskiego z wieku XV-go i początku XVI-go. Warszawa 1918). у першы чарод, надрукаваны на 243 стр., польскі мілосны ліст, ў якім, па інтымнаму характару найбольш павінен праяўляцца элемэнт народны.

Kachyndczo ma namyleysyą vyecze eszy welykw boleszczy mamy mysłączy szawzdy o thobey przetho czebye proszą nyą raczymą zapomneczy le mą raczi szobe szobe przypyszaczy wodnyw szyrdcza theffgo mą namileyszą. A Kachynczko Kaczyncko thoczesz mą mą vdrączyla yszez my thy szgasyla plomeny tfey myloscczy. Jesus Maria N R I. Jacob.

Я праектаваў-бы нашым палякуючым беларусам пераказаць сваімі славамі, што ў гэтым лісьце, пісаным бязспорнай польшчынай XV ст., гаворыцца? Думаю не шмат будзе такіх, якія яго зразумеюць...

Але, можа гэта мова такая таму, што пісьмо сьвецкае, пісанае, можа, без належнага веданьня мовы. Для пэўнасьці возьмем, песьню „Boga-Rodrica Dziewica“, адзін са слаўнейшых і старэйшых помнікаў польскай літэратуры. (стр. 409).

Bogv rodzicza dzewicza bogem slavena maria
u twego syna gospodzina matko swolena maria
Siszczi nam spwczi nam Kyrieleÿson

Twego dzela krzcziczela boszicze
Vslisz glosi naplen misli czlowecze
Slisz modlitwo yosz (або yanz) nosimi
O dacz raczi gegosz prosimi
a na swecze zbozni pobith
posczıwocze raski przebith Kyrieleyson.

Цяпер спробуем памесьціць побач два тэксты: польскі і беларускі легенды аб св. Аляксею.

тэкст польскі:

гл. Крыньскій—„Zybytki języka staropolskiego." (стр. 421).

W rzymye gyedno panıją bilo,
Czosch bogv rado sluzilo,
A myąl barszo wyelky dvor,
Procz panosz trzisztha riczerzow,
Czo szą mv zawszedi sluszyli,
Zawszdi k yego stolu bily;
Cchowal gye na wyelebnoszczy y na krasze
Ymyąl koszdy szwe szlote paszy.
Cchowal szyroty i wdowy,
Dal gym oszobne trzy stoly,
Za czwerthim pyelgrzymi gyedli,
Czy do bogą przywyedly.
Fvfamyan gyemv dzano
Wyelkyemv themu panu
A źenye gyego dząno Aglias,
Tha byla wboszthw w czas.

Тэкст беларускі:

„Выпісы з Беларускай літэратуры" В. Ластоўскага. (Вільня 1918).

Святый Олексій был сыном Евфимляновым, мужа прешляхотного римлянина у дому цѣсарском перший, перад которым три тысячи дѣтей стояло, которие снурами золотыми препоясовалися, а в рубіе шолкове облачалися. А тот Евфимлян был вельмы милосердный а на всяку днину у его дому тры столы убогім, сиротом, перграмом і вдовам поставливаны, которим-же мужне служила его жона іменем Аглаяс, тогоже закону и тогож умыслу была.

Дзеля больш поўнага зраўнаньня літэратурнай мовы польскай і беларускай XV ст., прывядзем яшчэ пару адрыўкаў. Возьмем для прыкладу адрывак з арыгінальнага польскага пісьменства, не перакладнога, прыкладам „Kazannia Jana z Szamotuł" (Krynski, стр. 298—300), пісаныя між 1509 і 1518 г., а знача ужо у Пачатках XVI ст.

O począnczyu maryey panny czysthey.

Tho slouo zakladam wszystkha czudna yestesz przyaczyolko moya a zmaza nyeyesth w thobye A wthych slovyech throyaka chwala panny maryey syą vyslavya gdzye movy wszystka czvdna yesthesz, bo kozda czvdnoszcz dusze rozvmney pochodzy od boga s pelnosczy lasky. A gdysz ona byla pelna lasky byla naczudnyeyscha, a to ysch nyetelko od ynszych grzechow ale thesz y od pyervorodnego byla oczyszczyona Wthora chwala syą vkazvye they panny gdy movy przyaczyolka moya bo ona od vyekow byla mathką bozą przeszrzana, Trzeczya chwala syą vypysvye gdzye mouy a zmaza nyeyesth wtoby dla vyelkyey chądogoszczy. O kthorey pysacz bądą A tv pyerve pythanije czynyą.

Для беларускага прыкладу возьмем адрывак з рукапісу XV ст. „Мука Ісуса Хрыста", апублікаванага прафэсарам Перетцам. (Выд. О-ва Любителей Русских Древностей СПБ.)

Мука Господа нашого Ісуса Хрыста от переворотных жидов таким обычаем сталася ест. Колиж немилостивые, а окрутныя жыдова, гадали о смерти Господа какобы его лстиве зымали да убили, але коли были

вельми таемнае рады Юдаш убачыл тое да натыхмест притекл до них· смѣле, без всякое боязни и рекл: я ведаю горазд вы чините, а которіе суть рады вашы. О Ісусе говорите, а радите, как бы могли есте зымати и убити его."

Цікавы прыклад беларуткай мовы дае пераклад з лацінскай мовы на беларускую „Вісьліцкага Статуту", зроблены каля 1438 г. (Прыведзен у праф Янчука „Нарысы па гісторыі беларускае літэратуры". Менск 1922 г.)

Миколай жаловал на Матѣя, ижъ ему, яко приятелю, коня позычыл здорового на дорогу, а коли же ему зася вернул, и тот конь хромал; а рекл тот Матѣй, ижъ ховал его, як же и своего властного, а не вѣдал тоѣ ему хромоты. Тогды мы сказуем: Матѣеви того коня 2 недѣли ховать, а будеть здоровъ за тые 2 недѣли, ино добро, а не будеть здоровъ, имѣеть ся пріятельски росправить" (арт. 55).

З прыведзеных вышэй прыкладаў мы бачым, што: 1. Мову беларускую старых нашых памятнікаў можа кожды беларус зразумець без вялікай труднасьці, а знача за апошнія 400 гадоў наша мова не зьмяніла свайго характару; 2. Мова польская за гэты самы час зьмяніла свой характар і, асабліва, слоўнік, а дзеля гэтага, помнікі старога польскага пісьменства зразумелы толькі спэцыялістам, філалёгам.

Якія-ж чыннікі аддалілі польскую мову ад мовы чэскай і ўплынулі на зьмену самога характару мовы? Адповедзь на гэта пастараемося даць вуснамі польскіх вучоных, якія так апавядаюць аб культуры ў Польшчы XV ст.

Сталіца Польшчы, „Кракаў у XV ст. робіцца інтэрнацыянальным вогнішчам культурнага жыцьця, адносін палітычных і тарговых, зьбіраючы рожнапляменных вучоных і вучняў, мастакоў, рамесьнікаў і купцоў. Палякі, чэхі, русіны, сілезцы, немцы, вэнгры, італьянцы складаюцца на гэту мяшаніну паняцьцяў моваў, характараў і абычаяў і пабуджаючa ўплываюць на розквіт польскай пісьменнасьці ў XVI ст. (Chebowski 23).

Але, аднак жа, гэта мяшаніна народнасьцяў і паняцьцяў ня выклікала творчага духа ў польскай нацыі, ня гледзячы на тое, што тут істнавала вышэйшая вучомная установа Кракаўская акадэмія.

На гэта заважылі не пітомыя польскія чыннікі, а зблізжэньне Польшчы спярша з Галічынай,*) пасля з Беларусьсю і Літвой.

„У той час калі прастарыя малапольскія гарады: Вісьліца, Сандомір, Стопніца, Корчын, Олькуш, і ў канцы сам Кракаў даюць ня чысьленных і зрэшта другарадных працаўнікоў, то маладыя (Для палякаў, не для галічан. Ю. В.) сялібы: Самбар, Пільсна, Санок, Ярслаў, Пераворск, Перамысьль і інш. славяцца цэлай грамадой гуманістаў, паэтаў, лекараў" (Chlebowski 27.)

На сьвежым для палякаў грунце, пад ўплывам старой, поўтысяча летняй, славяна Украінскай літэратуры, і пад ўплывам чужой крыві—пачынаюць выходзіць геніі польскага адраджэньня. Прыкладам гэткія аснаўныя стаўпы польскага адраджэньня XVI ст., як Рэй і Ожэхоўскі, радзіліся на Украіне і з матак Украінак.

Тут, на Украіне, пачалося польскае адраджэньне XVI ст. „Вогнішчамі гэтага жыцьця былі двары багатых паноў: Замойскіх, Фірлеў, Лешчынскіх, Гэрбуртаў, Вішневецкіх і заможнай шляхты: Пшонкаў, Гарайскіх, а такжа

*) Галіцкія ўплывы на Польшчу пачаліся ад часаў польскага караля Казіміра (1340); беларускія ад Ягайлы (1386).

гарады—Львоў і Люблін. Розквіт паэзіі польскай і лацінскай, акадэмія ў Замосьці (на Украіне), досьледы філолёгічныя і пераклады клясыкаў, падтрымліваныя Замойскім, рэчыпаспалітая бабінская, *), розквіт кальвінізму і соцыянізму, надворныя друкарні, якія закладаліся з мэтай рэлігінай прапаганды, але якія служылі такжа мэтам асьветы і літэратуры (Дабраміль, Баранава, Лашчова)".

Гэты украінскія ўплывы відаць на групе тагочасных польскіх паэтаў зложанай з Шаржынскага, Клёновіча, Шымановіча, Твардоўскага і Зімаровіча. Творчасьць іх разьвівалася сярод украінскай прыроды, а дзеля гэтага і:

„ Народнасьць гэта (украінская) выступае на старонках твораў названай групы паэтаў у сымпатычным і, разам, даволі праўдным асьвятленьні. Гэтак у „Roxolanii" як і ў „Sielankach,' Шымановіча і Зімаровіча, а навет у „Danfis", паэты паказуюць нам рожныя староны жыцьця русінскага народу на асноведзі багатай прыроды і разквітшай культуры, якой яны забавязаны развіцьцём сваіх талентаў" (Chlebowski 29).

Але ня толькі паэты падлягалі ўплывам рускім (украінскім і беларускім), сьляды гэтых ўплываў відаць і на „групе зложанай з Папроцкага, Стрыйкоўскага**), Горскіх, Красінскага, Гржэбскага". (Chleb.) Сарбеўскі ў сваіх песьнях пераносіць свае ідэі і пачуцьці на грунт „Літоўскай Русі". Бо адраджэньне полскае чэрпала жывучыя сокі ня толькі ў Галіцкай але і ў „Літоўскай" Русі. Дзе: „На разлеглых тэрыторыях В. Кн. Літоўскага культурнае жыцьцё паяўляецца і разьвіваецца, ў даўным ваяводзтве Новагрудзкім і Менскім. Вогнішчамі гэтага жыцьця былі калегіі езуіцкія, манастыры і двары багатых сямей: Радзівілаў, Сапегаў, Хрэбтовічаў, Хадкевічаў, Тышкевічаў" (Chleb.).

Прыкладная польшчына Берасьцейскай кальвінскай Бібліі, надрукаванай у гэтым горадзе Мікалаем Радзівілам, заўдзячуе сваю наўзорную польшчыну таму, што ў ліку колькідзесяці перакладчыкаў, блізка палавіна было ўраджэнцаў Русі, знаўшых добра як славянскую літэратуру, так і мясцавую народную мову.

Наўзорная польшчына Пятра Скаргі, які быў сьпярша рэктарам полацкай, а пазьней віленскай Акадэміі, таксама шліфавалася не ў Кракаве ці Познані, а ў Полацку і Вільні, не глядзя на тое што ён запярэчаў права на істнаваньне „русінскай" мове.

Цікавую ўвагу робіць Хлебоўскі (стр. 32) аб Клёновічу: „Клёновіч становіцца паэтам толькі сярод прыгожай прыроды Чырвонай Русі (Украіны) і прыймае чынны уздзел у разквітаючым, ў канцы XVI ст., умысловым і літэратурным жыцьці. Вякапалінін (чытай—паляк) адзываецца ў ім толькі тады, калі цяжкія варункі гарадзкога жыцьця (купецтва і местцкі урад), стлуміўшы палёт фантазіі, далі перавагу першапачатковаму ўгрупаваньню паняцьцяў вынесеных з роднага краю" (Cheb. 32—33). словам, на роднай глебе ў яго занікае талент.

Чаму-ж на землях Украінскіх і Крыўскіх разквітаюць польскае адраджэньне і таленты, а ў самой Польшчы ўзгадоўвуюцца толькі пасярэдныя здольнасьці? Хлебоўскі гэта тлумачыць вось чым:

---

*) братства лгуноў і фантастаў.

**) Стрыкоўскі пісаў сваю „Кроніку Сармаціі Эўропэйскай" у трох арыгіналах: лацінскім, беларускім і польскім. Рукапісны экземпляр беларускай кронікі Стрыйкоўскага, пераховуецца ў Петраградзкай публічнай бібліатэцы.

„Першага нямецкай стыхіі і нямецкай культуры ў гарадох, як—Лешна і Пазнань, а так сама і па магнацкіх дварох, якія утрымлівалі духоўнікаў, лекараў, вучыцяляў, музыкантаў, немцаў або анямечаных сілезцаў, мараўцаў, чэхаў, пастрымлівала разьвіцьцё націянальнай пісьменнасьці і літэратуры". (стр. 32).

Словам, заваяваная палякамі Галічына, а пасьля далучэньне да Польшчы Беларусі, зрабілі цывілізуючы ўплыў на палякаў. Польшча накінула Галічыне, а пасьля Люблінскай Уніі (1569) і Беларусі, формы дзяржаўнага ладу (дыктатуру шляхты), але з боку мовы і культуры ўплыў украінскі і крыўскі на Польшчу быў так вялікі, што ў якіх 200 гадоў, ад XIV до XV ст. утварылася аграмадная літэратура на асобнай „літэратурнай" мове, якая і пасягоняшні дзень ня сходзіцца з ніводным польскім народным дыялектам, мова штучная, ў склад якой ўвайшлі формы чэскія, беларускія і украінскія і аграмадны засаб чэскага, лацінскага, нямецкага і украінска-крыўскага лексычнага матэрьялу, што відаць нават з пабежнага зраўнаньня цяперашняй польскай мовы з мовай старой".

Фонэтыка дыялектаў рускіх і польскай мовы у нашы часы акуратна устаноўлена; г. напр. і украінскай у беларускай мовах пануе поўнагалосьсе, нястача насавых гукаў,—а насавыя гукі характэрная азнака польскай мовы. Характар польскай мовы паказуе, што такія словы як: łuk, żubr, запазычаны з русінскіх моваў; бо ў польскай мове гэты словы павінны быць łąk, ząbr, Сустрачаныя ў польскай мове поўнагалосныя словы: czereda, czerep, deren, hałas, sobor, sojusz, запазычаны ад нас. Гэтак сама запазычаны ад нас словы з цьвёрдым г, напр.: hulać, hultaj hołota, hruby, rubacha, rubaszny (з грубаха), bohater, hreczka, hospodar, hodi, hubka, druh, rozhowor, buhaj, hajdamak, hałas, hornostaj, hory, czerha. Бо ў польскай мове на мейсцы цьвёрдага г, павінна быць g. І наадварот некалькі польскіх слоў з польскім G, увайшло ў беларускую мову, дзе яны, дзеля адрожненьня ад сваіх, і пісаліся даўней праз к г—кганак, кгрод.

Польскія словы radło, mydło, адпавядаюць нашым—р а л о, м ы л а. І калі ў нас чуецца слова б ы д л а, то яно польскага паходжаньня, што паказуе прыростак d ł o. Гэтак сама слова sielanka запазычанае, бо па польску павінна быць—siedło (сяло), siedlce, siedlaczka, зраўняй — wies, wiesniaczka. Усе словы з прыросткамі іч, овіч—panicz, krolewicz (старапольскае — panic. ojczyc, dziedzic, rodzic, krolewic) узяты ад нас.

І вось ў літэратуры польскага адраджэньня XVI ст. мы натыкаемося на такія, украінскія і крыўска-беларускія словы: imienie, ułożenie, zakon, gospodin, gospoda, gospodza, żeńszczyzna, rzecz (рѣчь), niedziela, łeż (лож) lubezny, wen (вон), słza (сьляза), nielzia, kupia (купля), junoch, junoszka (junak, junaczka) młodziec (маладзец), nożny, żdać, wrzemię, brzemię, (бярэмя) kłodnik w ciemnicy, pobiedrć prytcza, szłom, przystaw, cyrkiew, cerkiew, sbór, pop, chrzebt, chrzybiet, dziewica, gęsli, gorze (гора!) jęctwo (нятство, ятство), kaki, kako, lubic się, miłosc, mołwa, myto, nynie, obiata (сл. обѣт) ostrow, piać, pienie, smrad, ssąd (сосуд), iskać, odiskać, isciec, pirżwieniec (первенец), płoszczyca, posledni, skot, smieś, teszno, tesznica (тошна) trzem (церам), wieliki, zapad, zaszczycic, (зашчыціць), zaszczytca, zelie, znamienity, zwąk, zwięk (зьвяк), żądny (жадны), żyzń, żyznosć, jętry, jętrew, jątrew (ятроўка), świekry żełw, żelwica, żolwica (залоўка), dziewierz, ćma (тьма), wiodro, robionek, prok (стар. пращча, порок, польск. proca), posuły, utolic, żmieńnik, rzewniwy, pisany (malowany), rozbojca, najmit, bies, і г. д. і г. д.

Акром гэтага: narocznie, oberwaniec, rąbież, dzwierze, niewiasta, szczuka,

żdać, sulica, rohatyna. (Сьпісак гэты узяты мной з кнігі „Славяне ихъ взаимныя отношенія и связи“ І. Первольф Т. III. ч. II. стр. 35—46).

Прыведзеныя вышэй словы далёка не вычэрпуюць польскіх запазычаньняў з беларускай і украінскай моваў, бо на гэта трэба было-бы пасьвяціць шмат месца. У адным слоўніку Ліндэ (Linde „Słównik języka Polskiego), іх налічаецца да 10.000, разам з выводнімі. Там, у Ліндэ, ў ліку польскіх слоў знаходзяцца і такія, як: rupiało, kousz і г. п.

Мы вышэй бачылі, з прыведзеных сказаў Хлебоўскага, што польскае адраджэньне чэрпала жывыя сокі з Русі. Упамянута было аб Берасьцейскай Бібліі, выданай ў 1563-м гаду, Мікалаем Радзівілам, над перакладам якой працавалі ў значнай меры Русіны. Цяпер трэба нам прыпомніць, што ад абраньня Ягайлы на караля польскага, ў Кракаве пачала функцыянаваць яго прыбочная, літоўская канцалярыя, якая пісала ўсе дакуманты па беларуску, і, што, пераходзячы ад лаціны і нямеччыны да пісаньня ў сваей мове, палякі бралі жыўцом формы дакумантаў, юрыдычныя тэрміны і сказы з з беларускай мовы. Урэшце прыпомнім пераклад Статуту Вял. Кн. Літоўскага з беларускай мовы на польскую, і тое, што тэрміналёгія беларуская была ўзята да польскага перакладу жыўцом у мову польскую.

Узяўшы ўсё гэта пад увагу мы зразумеем які аграмадны запас лексычнага беларускага і украінскага матэрьялу быў прысвомлены палякамі ў працягу, ад XIV да XVII ст. Але польскія запазычаньні на XVII ст. не спыніліся. І у XVIII ст. найбольшы культурны уклад ў польскую літэратуру зрабілі людзі ўзгадаваныя ў нашым краю. Чыж, Kończa, Korotynski, Iżycki, Sakowicz, кс. Семяшка (Mowy Cicerona, Wilno 1781), кс. А. Толочка (другі пераклад прамоў Цыцэрона 1778, 2 томы), кс. Борэйка (выдаў аб красамоўстве з кніг Ціцэрона 1763), кс. Пільхоўскі (даў пераклад Сэнэкі: O krótkości życia, 1771; o łaskawosci i gniewie, 1775—1782, Listy 1781, 4 томы), Сыруць пераклаў прамовы Квінтыльяна (1769—71, 2 томы), Салюсьціяна пераклаў спамянуты ўжо кс. Пільхоўскі (Wilno 1767) Голяньскі (выдаў 4 т. Плютарха), Нагурскі с Піншчыны пераклаў Дэмостэна (Варшава 1774) Гомэра і Віргілія, Dzieje Aleksandra W. Kurciusza (выданы у Несьвіжы 1763, 3 томы), Historya rzymska Frorusa (Вільня 1790 г.).

Кожды з гэтых перакладчыкаў, а яны-ж пісалі і арыгінальныя рэчы, абаруч чэрпалі лексычны матэр‘ял з акружаючай іх народнай беларускай стыхіі.

Найбольшыя захваты беларускага лексычнага матэрьялу ў польскую мову прыпадаюць на XIX ст., калі палякі, утраціўшы палітычную незалежнасць і будучы разьдзелены на тры часьці, паставілі сабе сьвядома заданьне, у мэтах зьбліжэньня ўсіх быўшіх ў межах Польшчы зямель, лучыць іх на грунце адзінай літэратуры. А дзеля гэтага пастаноўлена было дасканаліць польскую мову пры помачы „провінціяналізмаў“. Як ведама найбольшы лік польскіх пісьменьнікаў XIX ст. былі родам з Беларусі, пачынаючы ад Богамольца, Агрызкі, Каранеўскага, да Міцкевіча, Сыракомлі, Крашэўскага, Быкоўскага, Чэчота, Даніловіча, Глінскага, Ельскага, Ходзькі, Карловіча, Кіркара, і канчаючы Оржэшковай і цэлай плеядай навейшых пісьменьнікаў.

Спэнцар кажа, што найбольш вычурны пісьменьнік ужывае ня больш 12.000 слоў, з беларускай-жа мовы ў польскую перайшло больш чым у трая болей гэтай лічбы слоў. Дык ня дзіва, што польская мова прыблізілася да беларускай формамі і слоўнікам, але тут не беларусы запазычалі ад палякаў, а наадварот-палякі бралі у нас; ня мы іхнімі славарнымі багацьцямі карыстаемося, а наадварот—яны нашымі. Хоць за 500 летняе сужывецтва і ў нашу мову увашло шмат польскіх слоў.

Усё вышэйсказанае не навіна, ведама гэта ўсім філолёгам, але прамаўчываецце, або з палітычных мэт шырыцца ў мссах, сярод народу, навыварат, асабліва карыстаючы з цемнаты тых якія слухаюць. Вазьміце сягоньня ўсе беларускія і украінскія словы з польскай мовы і з яе ападзе ўся краса, астанецца яна як голае дрэва ў восень.

Мала таго, яна адразу страшэнна аддаліцца ад беларускай і украінскай моваў і прыблізіцца да чэскай, стане, як і ў XIV—XV ст., дыялектам чэскім.

---

# Літоўска-Беларускае войска Цэсаря Напалеона *).

Пасьля пераходу р. Нёмана каля м. Коўны, Вялікая Армія не затрымалася ў Літве, але рушыла зараз-жа на ўсход, ўздагон за расійскімі 1-й і 2-й арміямі, якія адыходзілі ў кірунку Смаленска. Па літоўскіх і беларускіх мясцох пакідаліся толькі невялічкія залогі са слабых француcкіх ці нямецкіх частак. Яны займалі важнейшыя месты. Цэсар Напольён даручыў уладу, у перанятым з пад маскоўскага панаваньня Вялікім Княжстве Літоўскім Часоваму Ураду (Gouvernement provisoire), які больш мянавалі на Літве і Беларусі „Урадовай Камісіяй“. На чале яе стаяў, прэзэс Маршалак, Літоўскі Солтан.

Між рожнымі Камітэтамі, складаўшымі Камісію быў і Вайсковы Камітэт, каторым кіраваў князь Аляксандар Сапега а пасьля яго сьмерці палкоўнік (пазьней брыгадны генерал) Грабоўскі. Літва і Беларусь былі падзелены на чатыры дэпартаманты: Віленскі, Горадзенскі, Менскі і Беластоцкі. У складзе Адміністрацыйных Камісій дэпартамантаў былі Вайсковыя Адздзелы.

Дзенным загадам ад 5 ліпня 1812 г. Напольён даручыў Часовому Ураду Сфармаваць на яго (Ураду) кошт пяць палкоў, пяхоты і чатыры палкі кавалерыі, дзезя чаго трэба было набраць 14,000 рэкрутаў, з іх—4,000 дзеля кавалерыі.

Адначасова быў заложаны 3-ці лёгка-конны полк Цэсарскай Гвардіі, куды запісалася шмат ахвотнікаў—шляхоцкае моладзі. Шэфам палка быў брыгадны генерал Канапка. Напальён выдаў 400,000 франкаў на сфармаваньне гэтага палка. Фармаваўся ён у Варшаве.

На сфармаваньне палкоў пяхоты па бранцы паступіла рэкрутаў: з Віленскага дэпартаманту—3,000, з Горадзенскага 2,500 і з Беластоцкага—1,500. Усе рэкруты мелі ад сваіх паноў вопратку, боты, хусьцё і запас ежы на два тыдні.

Кавалерыя фармавалася вось як: ад кождых 75 дымоў ішоў адзін коньнік з канём, на іх ўзбраеньне зьбіралася па 486 ½ залатых польскіх.

Тэрмін службы Часовы Урад усталіў аднальковы—шасьцірочны.

Гэтыя літоўска-беларускія палкі атрымалі нумарацію, чародную пасьля апошніх нумараў палкоў войск Вялікага Княжства Варшаўскага, г. зн.— пяхота 18.-22. Nr. Nr., а Кавалерыя (уланы), 17. 20. Nr. Nr. цікава адмецiць штаб-кватэры палкоў, іх шэфаў і з якіх паветаў рэкрутаваліся палкі. Гэта відаць з ніжэй паданай табліцы.

---

* Крыніцы: Богдановичъ. Исторія Отечественной войны.
Iwaszkiewicz, J. Litwa w roku 1812.
Kukiel. Dzieje Wojska Polskiego w dobie Napoleonskieji
Михайловскій-Данилевскій. Описаніе войны 18122.

| №№ палкоў | Штаб-кватэра | Імя і прозьвішча шэфа | якія паветы далі рэкрутаў у полк. |
|---|---|---|---|
| 18. пяхотны | Вільня | Граф Аляксандар Хадкевіч | Віленскі, Завілейскі, Вількамірскі, Браслаўскі, Ашмянскі, Вілейскі. |
| 19. пяхотны | Росіены | Граф Кастантын Тызэнгаўз | Троцкі, Ковенскі, Упіцкі, Расіенскі, Шавальскі, Вількамірскі. |
| 20. пяхотны | Горадня | Барон Адам Біспінг | Гарадзенскі, Лідзкі, Новагрудзкі, Слонімскі, Воўкавыскі, Пружанскі, Пінскі. |
| 21. пяхотны | Беласток | Антон Гелгут [пасьля ў паўстаньні 1831 г. адзін з слаўнейшіх яго правадыроў] | Кобрынскі, Берасьцейскі, Беластоцкі, Сакольскі, Бельскі, Дрогічынскі. |
| 22. пяхотны | Менск | Граф Станіслаў Чапскі | Менскі, Дзісенскі, Барысаўскі, Ігуменскі, Бабруйскі, Мозырскі, Рэчыцкі, Слуцкі. |
| 17. уланскі | Купішкі | Граф Міхайла Тышкевіч | Віленскі, Завілейскі, Браслаўскі, Вількамірскі, Упіцкі, Расіенскі, Шавальскі, Тэльшаўскі. |
| 18. уланскі | Несьвіж | Граф Кароль Пшэздзецкі | Менскі, Барысаўскі, Дзісенскі, Вілейскі, Ігуменскі, Бабруйскі, Мазырскі, Рэчыцкі, Слуцкі. |
| 19. ўланскі | Навагрудак | Кастантын Раецкі | Ашмянскі, Троцкі, Ковенскі, Горадзенскі, Лідзкі, Новагрудзкі, Слонімскі, Ваўкавыскі, |
| 20. уланскі | Пінск | Ксавэры Абуховіч | Пінскі, Берасьцейскі, Кобрынскі, Пружанскі, Беластоцкі, Бельскі Дрогічынскі, Сакольскі. |

На фармаваньне усіх гэтых палкоў Цэсар даў 500,000 франкаў. Полк пяхоты меў—паводле этату 2.487 людзей і складаўся з трох батальёнаў, па шэсьць кампаній у кождым. Полк уланаў меў паводле этату 823 чалавекі, ён быў чатырохшвадронны, швадрон дзяліўся яшчэ на дзьве кампаніі. Па звычаю таго часу шэф палка прадаваў афіцэрскія пасады, іх куплялі ахвочая да службы шляхта. За капітанскую рангу плацілі 900-1000 дукатаў, за рангу паручніка—400; падпаручніка—200 дукатаў. Часьць афіцэрскіх пасадаў была замешчана афіцэрамі, пераведзенымі з польскіх палкоў Віялікага Княжства Варшаўскага, адтуль жа была ўзята і падафіцэрская кадра, радавыя ўсе былі сяляне—літвіна і беларусы.

Гэнеральным інспэктарам войска быў генерал, князь Ромуальд Гед-

ройць, інспэктарам пяхоты,—брыгадны генерал Несялоўскі, інспэктарам кавалерыі—брыгадны генерал Язэп Вавржэцкі.

Апроч фармаваных палкоў браліся так сама людзі і да батальёнаў стральцоў (bataillons des chausseurs-tirailleurs), галоўным чынам з палясоўшчыкаў і паляўнічых. Гэтакіх батальёнаў было шэсьць, шэфамі іх былі Язэп Касакоўскі, Ракіцкі, граф. Казімір Плятар, Курчэўскі, Абуховіч і Ганьскі:

Каб падтрымаць парадак і абараняць басьпечнасьць у самым краю была утворана ва ўсіх дэпартамантах (і ў Магілёўскім)—народная старожа, *) якая, вучылася ваяўніцтва ў сьвяты. У Вільні сфармавалася 2 батальёны яе, пад правадырствам палкоўніка Кесельскага. У лістападзе складаліся батальёны з 1450 людзей, былі гэта мяйсцовыя часьці і ў іншых гарадох прыкл. Горадне мелі дзьве кампаніі.

Утвораны былі на француздкі лад павятовыя кампаніі жандармэрыі, кождая ў складзе 107 душ мяйсцовай шляхты. Жандары атрымоўвалі па залатому ў дзень і корм каню. Шэфам літоўска-беларускіх жандараў быў палкоўнік князь Радзівіл. Пасьля лік жандараў у кампаніях быў зьменшаны да 50 людзей, разам з падафіцэрамі, вахмістрам і трубачамі.

Бранка адбылася ад 5 жніўня да 10 верасьня і ўсюды ў заходніх дэпартамантах прайшла добра, асабліва ў Горадзеншчыне: затое ў Меншчыне былі выпадкі, калі рэкруты ўцякалі дамоў. Тутака часьць паноў не спагадалі свайму Часоваму Ураду і французам, а гэта, зразумела, адбівалася і на настрою іх падданых. З амуніцыяй і вопраткай было горш, цяжка было іе набраць,—конскі рэмонт у кавалерыі быў дрэнны.

Але ж ня гледзячы на ўсе перашкоды да паловы верасьня пяць палкоў пяхоты мелі ўжо ўсё патрэбнае і маглі вырушыць на ворага. Гаспадарку у часьцёх вялі па французкаму прыкладу палкавыя гаспадарчыя камісіі, *) Зброю набывалі са зброень**) у Вільні і Коўне,

Паны выставілі так шмат рэкрутаў што з астаткаў людзей было распачата фармаваньне ў Меншчыне 23 палка пяхоты. Фармаваліся так жа але не дачакаліся канца фармаваньня с прычыны расійскага наступленьня,—літоўскія гусары Абрамовіча, конныя стральцы Любаўскага.

Кавалерыя закончыла сваю арганізацыю ў канцы кастрычніка, зусім гатовымі былі 17., 18. і 19. уланскія палкі, да іх далучана конная батарэя, 20 уланскі полк напалову быў зфармаваны Татарскі мурза з Віленшчыны, шляхціц капітан Мустафа Ахматовіч, набраў татарскі швадрон. Ен складаўся з татарскай моладзі, з нашчадкаў татараў, пераселеных у Літву і Беларусь, яшчэ Вялікім Князям Вітаўтам. З часам гэты швадрон ўліўся у 1-шы лёгка-конны полк гвардыі (польскай) і істнаваў пры ім аж да 1814 году. Зьлішкі людзей і ў кавалерыі пазволілі на фармаваньне ў Віленшчыне 21-га конна-стралецкага палка, пасаду шэфа атрымаў ў ім палкоўнік Малюшка.

Усяго ў пяхотных і уланскіх полкох і батальёнах стральцоў было да 20.000 людзей. Часткі мелі значны працэнт благой, нават зусім нягоднай зброі.

Доля ня была прыхільнай гэтаму літоўска-беларускаму войску, ня доўга давялося яму ваяваць: паварот расійцаў спыніў яго дзейнасьць.

---

*) Нацыянальная гвардыя.

**] Як і дагэтуль у вайсках Рэчы паспалітай **] Арсэналаў.

Першая сутычка з маскалямі адбылася неспадзеўна хутка—20 кастрычніка 1812 г. каля м. Слоніма, дзе стаяў, пераведзены з Варшавы 3-ці лёгка—конны полк брыгаднага генерала Канопкі. Маскалі разьбілі маладую гвардію. Сам генерал Канопка, 17 іфіцэраў ды 217 падафіцэраў і лёгкаконьнікаў трапілі ў палон.

Пяхота, стральцы і 18-ты уланскі полк, з пад Вільні, былі высланы бараніць Менск ад зближаючыхся маскалёў. У Менску былі вялізарныя магазыны на 100.000 армію. Непамыснай была атака Менска: шмат мацнейшыя расійцы зьнішчылы уланаў. Тады 22-гі полк пяхоты, і адзін батальён стральцоў, злажылі зброю. Усе людзі былі ўзяты ў палон.

18—21-шы палкі пяхоты прылучыліся да адыходзячага ў Польшчу польскага-ж корпусу генерала графа Язэпа Панятоўскага. З ім дайшлі яны да Варшавы, а пасьля бралі дзейны удзел у абароне Модліна.

Уланы 20 палка і малая часьць уланаў 19 палка вайшлі ў склад 9-га польскага уланскага палка, каторы быў пры корпусе Макдональда, і сядзел з ім разам у Гданску.

На долю 17 і 19-га уланскіх палкоў выпала цяжкая і вельмі адпаведная служба. Добра укамплектаваныя і ўзброеныя яны павінны былі засланяць пры адходзе праз Прусію да ракі Лабы тую малую жменьку зморaных, галодных і слабых жаўнераў Вялікай Арміі, што засталіся жывымі пасьля паходу ў Масковію. То яны, гэтыя харобрые уланы графа Міхайлы Тышкевіча і Раецкага, прыймалі на сябе і адбівалі напады мацнейшых і больш чысьленных казакаў і паўдзікіх башкіраў—маскоўскай кавалерыі. Ня лёгкае было іх заданьне, выканалі яго уланы сьвята, толькі людзей засталося ў палках ня шмат. Пасьля абодвы палкі былі ў корпусе маршалка Даву, былі Гамбургу, далей трапілі ў Голштынію і Шлезьвіг, дзе і стаялі з французскім войскамі аж да Парыжскага міру. Мір гэты даў магчымасьць уланам вярнуцца перш у Польшчу, дзе яны мусілі даслужыць два гады ў польскім войску пад камандай Цэсарэвіча Кастантына, тагочаснага Намесьніка у Царстве Польскім, а пасьля ўжо вярнуліся на Бацькаўшчыну ў літоўскія і беларускія вёскі.

Гэты мужныя літоўскія і беларускія сяляне, якія прайшлі паходам аз азыяцкай мяжы да сталіцы сьвету—Парыжа, мелі шмат чаго цікавага разказаць сваім вясковым братом. Жыве памяць аб іх і дагэтуль у нашай вёсцы. Ня так даўно, ў 1920 г., давялося мне у Браслаўшчыне асабіста бачыць і гаварыць з двума старымі ўжо сялянамі, якіх дзяды служылі пад Напальёнам зім разам былі на краю сьвета.

Аляксандар Ружанец.
Маёр Войск Літ.

1923. XII. 7.

---

ВЛАСТ.

# Крыўска-Беларускі Іменнік.

Летапісі, а часьцю і этнографія перахавалі памяць аб пастрыжынах перамене імён, пры пераходзе з аднаго ўзросту ў другі. Праўда, ні летапісі ні этнографія не даюць нам поўнага абраза гэтага цікавага абраду. гісторыі мы ведаем, што некаторых княжых дзяцей пастрыгалі на восьмы

гаду жыцьця. Але наша этнографія паказуе, што пастрыгаюць моладага і ў часе яго жанідзьбы. Есьць і абрадовая несьня, пры пастрыжынах маладога:

„Пастрыгайся Яначка з рабяцкага стану,
„Ды ў мужскую славу.

Як ў многіх пытаньнях этнографіі, этнолёгіі і міфалёгіі, чаго няма ў сябе, то можна знайсьці ў другіх народаў, ці то зродных, ці то навет далёкіх, але стаячых на такой ступені культуры, якая адпавядае шуканай эпосе. І ў нашым здарэньні зьвярнуўшыся да параўнаўчай этнографіі (Спэнсэр, Гарвід, Тэйлер) мы лёгка установім, што пастрыжыны адбываліся тры разы ў радавы пэрыод: на 8 м годзе, калі сын з пад апекі маткі, пасгупае пад апеку бацькі, на 18-19 гаду, перад жанідзьбай і на 40 (прыблізна), калі жэніць сына. Калі гэту вестку зраўняем з бытам нашых сялян, то пераканаемся, што дагэтуль яшчэ ў нашым народзе перасьцярагаюцца звычаі далёкай радавой эпохі.

Гэтак малому хлопцу, да нідаўна яшчэ лічылася у нашых сялян, непрыстойным шыць да 7 гадоў порткі. Надзяваньня-ж першых портак зьвязвалася з пастрыжынамі валасоў, пераменай імя і, ўрэшце, порткі азначалі, што хлапец пераходзіць пад апеку бацькі. Маткі, як ведама, дзяцям падбіраюць самыя песьлівыя імёны, або іначай кажучы выводзяць гэты імёны ад хросных, паводле законаў, мовы і прынятага абычаям спосабу. Гэтак Антон будзе—Анцік, Юры—Юрцік, Міхайла—Місь, Міхцік, Гаўра—Гаўрык і г. д. Гэта т. ск. асноведзь, на якой як узорам вытыкаюцца розныя песьлівыя тонацыі на ч ы к, ч ы ч о к, а ч о к, і ч о к, у ч о ч а к, у с ю ч о к, а с ю ч о к, я т к а, і с ь к а, л ё к, уся у т а і г. п.

Каліж хлапца апранулі ў порткі і ён ужо стаўся мужчынам, каб зьмену гэту ў яго жыцьці яшчэ крапчэй зазначыць, яго ўжо больш не называюць Юрцік, Петрык, Анцік, ён ужо не мамчын пястун, не дармаед, а ўжо работнік: будзе гусей, ці курэй пасьвіць, пёры скубаць, паедзе разам з бацькам у поле, дык і імя яго ўжо з гэтага часу дзелавое: Пятрук, Антук, Юрка і г. д. Гэта форма імён т. ск. пастускага стану. Але, вось, хлапец падрос, ён ужо не пастух, а дзяцюк, маладзён, тут ці сам уцерся, ці яго мо хто ўвёў у кавалерскую і дзявоцкую кампанію, на вечарынку ці йгрышча. У дзявоцкай кампаніі такая форма імён, як Антук, Пятрук яўна не прыстойная і не стасоўная, і, зрэшта, старадаўны абычай вымагае, у зносінах, маладзежы паміж сабой, тону уважлівага, ветлага. І, вось, тут, у гэтай сфэры, самі сабой замяняюцца Антукі у Антоляў, Пятрукі у Петрасёў, Юркі у Юрасёў, і, ў свой чарод, дзявочыя імёны з дзіцячых адпавяюць хлапцоўскім, пе ратвараючыся ў: Пятруся, Югася, Глося, Дося, Алеся і г. п.

Урэшце прыходзіць час жанідзьбы; пераход, будзь што будзь „з рабяцкага стану ды ў мужскую славу". Тут ужо і сам Бог судзіў Ігнасю, Місю Аркасю, Кастусю, ператварыцца у Ігната, Міхайлу, Аркада, Кастуша і г. д. Гэта час, як кажа прыказка „мужаваньня і баяваньня". Але час ідзе. Падрасьлі дзеці, Міхайла і Ігнат і Пятро ажаніў сына.

Нявестка прышоўшы ў новую сямью, стараецца быць да ўсіх ветлай, уважлівай, а ў першы чарод да бацькоў мужа, і, вось, Аўгей становіцца Аўгіяшом, Астап—Асташом, Баўтрамей—Бутрымам, Грыгор—Грынём і ня толькі ў сваей сямьі, і але ў суседзяў.

Гэткая самая градацыя адбываецца і з жаночымі імёнамі, адпаведна да ўзросту і грамадзкага techn становішча.

І калі, дзеколечы ў глухім кутку лепэльшчыны, ці каля Сенна, сойдзецца грамада сялян, то з гутаркі іх адразу відаць аб кім яны гавораць, калі называюць чыё імя. Гэтае багацьце мовы нашай, пад нівэлюючым чужым уплывам, ў апошнія часы, пачало руйнавацца. Першымі і даўнейшымі азнакамі гэтай руйнаціі было ўжываньне жаночых канчаткаў у мужскіх зробленых імёнах (па прыкладу—лаўка, галоўка):—Янка, Генька, Стаська і г. п. Гістарычная літэратура паказуе нам, што даўней гэткіх жаночых форм у мужскіх імёнах не ўжывалі. Там маем Янусь, Генюсь, Стасік, або: Янцісь, Генцісь і г. п. Любілі даўней у нас також форму мужскіх імён з канчаткам на О пад націскам: Янко, Станько, Грынько і інш., якія ужывалі часта ў 3 і 4-й ступені. Згэтуль імя Олелько магло быць старшай ступені. Другая форма выказуючая руйнацію, гэта атрофія у грамадзян пачуцьця нелёгізму, калі старыя людзі называюць сабе Кастусь, Юстусь, Алесь, або малых хлапцоў называюць—Альгерд, Тумаш, Антон. Мне здарылася быць сьведкам цікавай сцэны пры хрышчэньні: бацькі хацелі хрысьціць сына канечна імем Януш, а сьвятар даводзіў, што гэткага сьвятога ніколі ня было, а знача і хрысьціць гэтым імем нельга. І інтэлігент —сьвятар і інтэлігенты бацькі папісываліся перадсабой ўзаемна сваім няведзтвам, што імя Януш, гэта толькі выводнае ад Ян.

Дзякуючы заміраньню роднай старасьвеччыны ў народных массах і адарванасьці інтэлігенціі ад народу, многія формы ў нашых імёнах, асабліва першае і чацьвертае ступені, вымагаюць шмат працы дзеля іх адшуканьня. Як відаць з прыложанага іменніка, жаночыя імёны больш пацярпелі утрат, чым мучынскія. Гэтак мала захавалася форм жаночых імён 4-й ступені, што гаворыць у некарысьць павагі жанкі ў крыўска-беларускай сямьі, навейшых часаў. Да вельмі цікавых збольшаных (4-й ступені) жаночых імён належаць такія, як: Марыніца, Анісіца, якія захаваліся у XIV Т. Актаў выдаваных Вілен. Археографічн. Каміс.

Паскольні мне ведама, над крыўска-беларускім іменнікам дагэтуль ніхто не працаваў ні ў польскай, ні ў расійскай літэратуры, тымчасам праца гэта можа даць назвычайна цэнныя данныя дзеля зразуменьня многіх гістарычных імён і прозьвішч, якія у нас пераважна тварыліся з бацькаўскіх імён, прыкл.: Яраславіч, Глебовіч, Сангушка (Сонгушко, Сендюшко, Сенькушко, праўдападобна ад Санко, Сенко і Семко—Сімон), Олельковіч (Олелько—Аляксандар), Олізар (Елеазар), Грыневіч (Грынь—Грыгоры), Алехновіч (Олехно—Аляксей, ці Аляксандар), Мялешка (Малетій, Тышкевіч (Тышко, Цішка—Тимафей), Хадкевіч (Ходка—Федар), Касьцюшка (Косьць, Касьцюш—Кастантын), Міцкевіч (Міць, Міцько—Мікалай), Дашкевічы (ад Адаш—Адам), Юхневічы (ад Юхно-Акім), Арцімовічы (ад Арцім—Артемій) і г. д. і г. д.

Пры апрацаваньні гэтага іменьніка я карыстаўся ніжэйпададзенымі матэрьяламі:

1. Акты относящіеся к исторіи Сѣверо-Западного Края издаваемыя Виленской Археографической Комиссіей Т. V—XXXIV.

2. А. Сапунов. Витебская Старина Т. I—V.

3. Носович. Словарь Бѣлорусского Нарѣчія.

4. Полн. Собр. Русск. Лѣт, Т. XVII. Западно-Русскія Лѣтописи.

5. Stryikowski. Historya Sarmacyi Europejskiej. 1885.

6. T. Narbut. Dzieje Narodu Litewskiego T. I.—X.

7. Архив Минского Петро-Павловского Монастыря; 2 кн.

8. Рукапіснымі мэтрычнымі запісямі: а) Новасілкаўскай цэркві, вілейск. пав.) 1827—1860 г.г. б) Шкунцікаўскай цэркві, (дзіс. пав.) 1771—1840. Асаб-

ліва багаты матэрьял мае пазвонная кніга запісяў гэтай апошняй цэрквы, дзе мясцовы сьвятар сыстэматычна адмячаў народрыя формы імён, дадаючы побач: „во сьвятом крещеній“ так-то. Прыкладам: „младенец Вольтік, во сьвятом крещеніи Александр“, або „Данут Шышка, во святом крещеніи Даніил“ і г. пад.

9. Сваімі запісямі, сабранымі пераважна ў окаліцах Дзісны.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Авгій | Аўгік | Аўгук | Аўгусь | Аўгён (ей) | Аўгіяш |
| Августа | Аўгуня | | Аўгуся | Аўгута | |
| Август | Аўгісь | Аўгустук | Аўгусь | Аўгустын | Аў(Г)густым |
| Авдій | Аўдзік | Аўдзук | Аўдзіясь | Аўдзей | Аўдзіяш |
| Авдотья | (Аў)Дзюча | (Аў)Дзютка | (Аў)Дося | Аўдоля | |
| Авксентій | Аксік | Аксюк | Аксісь | Аксём | Аксайла |
| Авраам | Абрасьцік | Абрук | Абрась | Абрам | Абраш |
| Аврелія | Аўруня | (Аў)Рэлька | Аўруся, Раліся | Аўрэля, | Раліна Раіна |
| Аврелій | Аурык | Аўрук | Аўрусь | Аўрэль | Аўрыяш |
| Агафон | (А)Гасьцік | (А)Гапук | (А)Гапусь | (А)Гапон | Гапіян(ш) |
| Агафія | (А)Гаська | (А)Гапка | (А)Гася | Агата | |
| Аггій | | | (А)Гіясь | (А)Гіян | (А)Гіяш |
| Аглаіда | (А)Глоська | | (А)Глося | | |
| Агнеса | | | (А)Гнеся | Агнешка | Агнета |
| Аграфена | (А)Груська | | (А)Груся | (А)Грыпіна | |
| Адам | Адзік | Адук | Адась | Адам | Адаш |
| Аделайда | Адзька | Адэлька | Адэльца | Адэля | |
| Адольф | Адзік | Адолюк | Адолюсь | Адольф(п) | |
| Адріан | Адрык | Адрук | Адрыясь | Адрыян | Адрыяш |
| Аким | | Юктук | | Якім, Юхім | Юхша |
| Акулина | (А)Кульця | | (А)Куліся | (А)Куліна | (А)Куліта |
| Александр | (В)Ольцік | Валюк,Олек | (В)Алесь | (В)Алех Алехна [1]) | |
| | | | | | (Г)Вольша |
| Алексій | Ольцік | Алёшка | Алесь | | Алёкса |
| Алёізій | Альзік | Альзюк (дзюк) | Альдзісь | | Алёйза |
| Анастасій | Асьцік | Астук | Астась | Астас | Асташ |
| „ | Насьцік | Настук | Настась | Настас | Насташ |
| Анастасія | Наська | Настка | Настуся | Наста | |
| Андрэй | Андрык | Андрук | Андрусь | Андрэй | Андрыяш, Андрых |
| Анисим | Анісік | Аніська | | Аніс | Анісім |
| Анисіля | | | Аніска(сця) | | Аніста |
| Анна | (Г)Анця | (Г)Анка | (Г)Ануся | (Г)Анна (нуля) | |
| „ | „ | „ | „ | Анэта | |
| Антоніна | Анця | Антолька | Антося(ля) | Антаніна | |

1) Александр або Олелько Валадзіміравіч кн. Капыльскі +1455. Стрыйкоўскі 1885 ч. II. р. 74. Жаргоннай вымовы гэтага імя, як Ляксандра, ня падаю ў рубрыцы.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Антон | Анцік | Антук | Антось(ль) | Антон | Антух |
| Аполина | Польця | Полька | (А)Палюся | Паліся(юта) | |
| Апполин | Польцік | Палюк | (А)Палюсь | (А)Палім | (А)Палінар |
| Аркадій | Арцік | Артук | Аркась | Аркад | |
| Асеній | Арсік | Арсук | | Арсім | Арсайла |
| Артемій | Арцік | Артук | Арцісь | Арцім | Арціш |
| Афанасій | Панцік | Панук | (А)Панась | (А)Панас | |
| Бернадій | Борцік | Барнук | Барнась | Барнат | Барнаш |
| Богуслав (міл) | Богцік | Багук | Багусь | Богуш | Богша |
| Богуслава (міла) | Богця | | Багуся | Багута | |
| Борис | Борцік | Барук | Борка | Барыс | |
| Балтасарій | (Б) Вольцік | (Б) Вальцюк | (Б) Вальцісь | Бальцар | |
| Варвара | Варця | Варка | Варуся | Варвара | |
| „ | Барця | | Барціся | Барбара | |
| Варлаам | | Барлюк | Барлюсь | | Баркулаб |
| Варороломей | | Баўтрук | Баўтрусь | Баўтрамей | Бутрым |
| „ | | Бахрук | Бахрусь | Бахрамей | Бахрым |
| „ | | | Будрысь | | Будрыс |
| | | Варлук | Варлась | Варлам | Варламей |
| Василій | Вася | Васька 2) | Васілька | Васіль | |
| „ | | | Базылька | Базыль | |
| Вассіан | Басьцік | Бастук | Басьцісь | Басьцей | |
| Венедикт | | Бан(ад)ук | Бана(ды)сь | Банад(ын) | Банаш |
| Венцеслав | Вацік | Вецюк | Вацька | Вацлаў | |
| Викентій | Вінцік | Вінцук | Вінцусь | Вінцэ(н)т | |
| Викторія | Вікця | | Віктуся | Вікта | |
| Виктор | Вікцік | Віктук | Віктусь | Віктар | |
| Владимир | Валодзік | Валодзька | Валодусь | Валадар (імір) | Валодша |
| „ | Ладзік | (У) Ладук | (У) Ладысь | (У)Ладар [імір] | Ладша |
| Владислав | „ | (У) Ладук | (У) Ладзісь | (У) Ладыслаў | |
| Власій | Ўлась | Ўласук | Ўласцісь | Улас [Блажэй] | |
| „ | | | Аўлась | Аўлас | |
| Вѣра | Верця | Верка | Варуся | Вера | |
| Гавріил | Гаўрык | Гаўрук | Гаўрусь | Гаўрыла | Гаўра |
| „ | Габрык | Габрук | Габрысь | Габрэль | Габра |
| Геновефа | Гэська | | Гунэся | Гунэта | |
| Георгій | (Я) Юрык | (Я) Юрук, Юрка | (Я) Юрысь | Юры(ла) Ярыла, | Юрага |
| Герасим | | | Гарась | Гарасім | |

2) Цікава мяркаваньне Нарбута (Dzieje Nar. Lit. T. III. стр. 479), што імя Вячко „толькі папсаванае, зьменшанае імя Васіль. У нашых крыніцах знаходзім (кн. Вячко) пад імем Wasskonius і Wasskon г. зн. Васька, зьменшанае ад Васіль „Васілій". Зраўняй Войшэль, або Волштиник (Lat. Lit. Kron. Rus. 148).

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Гервазій | Граўцік | Гравук | Гравась | | Граўша |
| Григорій | Грысь | (Г) Рыгук | (Г) Рыгась | (Г) Рыгор | Грынь, Грыдзь |
| Давид | Додзік | | Давыдзка | Давыд | |
| Даміан | | Дзямук | Дзямісь | Дзямід | Дзямаш |
| Даніил | Дольцік | | Данель | Даніла | Дануль |
| „ | | Данук | Данусь | Данут | Дануйла |
| Дарія | | (А) Дарка | Даруся | Дарота, Адарья | |
| Дмитрій | | Зьмітр(о)ук | | Зьмітра | Зьмітрым |
| Діонисій | | Дзянук | Дзянісь | Дзяніс | |
| Дорофей | | Дарук | Дарцісь | Дарацей | |
| Евва | (Э)Еўця | Еўка | Яўціся | | |
| Евгеній | | Аўгук | Аўгусь | Аўгей | Аўгіяш |
| „ | Геньцік | Гянюк | Генісь | Гянят | Генюш |
| Евгенія | Геньця | | Гянюся, Аўгуся | | Аўгіня |
| Евдоким | Аўдзік | Аўдук | Аудось(доль) | Аўдот | Аўдыяш |
| „ | „ | Данук | Данісь | Данут | |
| Евдокія | Аўдзіся | Аўдотка | Аўдольця | Аўдося (ля) | |
| „ | | Донька | Дануся (та) | Дануля | |
| Емельян | | Амелька | | Амельян | |
| Евпраксія | Прося | Проська | Праксэся | Праксэда | |
| Евстахій | | | Астась | Астап | |
| Евтихій | | Аўтук | Аўтусь | Аўтух | |
| Евфимій | Хімцік | Хімук | (Аў)Хімтусь | Аўхім, | Хімко |
| Евфимія | Хімця | Хімка | Аўхіся | Аўхіня | |
| Ефросинія | | (П)(Ф)Хрузька | (П)(Ф)Хрузіся | (П)(Ф) Хрузына | |
| Екатерина | | Кася(ця) | Каця | Кацярына | |
| Елена | Альця | | Аліся | Алена | |
| „ | Гальця | Галь(ш)ка | Галя, Гэля | Галена | |
| Елисавета | | | Альжуся | Альжбета | |
| Елисѣй | | Гілюк | Гальясь | | Гальяш |
| Еремій | Ярык | Ярмук | | Ярэма | |
| Ермолай | | Ярмук | | Ярмол | Ярмойла |
| Ефим | | Яхімка | | (Аў) Яхім | |
| Ефрем | | Ахрук | Ахрусь | Ахрэм | Ахрамей |
| Жозефина | Юзя | Юзька | | Юзэфа | |
| Жанетта | Анця | | Ануся | Анэта | |
| Захарій | | Захарка | | Захар | Захарьяш |
| Зиновій | Зецік | Занук | Занцісь | Занон | |
| Зиновія | Зіця | Зенька | Занціся | Зіта | |
| Зосіма | Зосьцік | Застук | Засьцісь | Засьцём | |
| Иван | Івась | Івашка | | Іван, Івон 4) | Іваш |

4] „Я Ивон схимник"... Вит. Стар. Т. V. R .I. стр .13.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Исидор | Сідзік | Сідук | Сідзісь | Сідар | |
| Иларіон | Лаўрык | Лаўрук | Лаўрысь | Лаўрын | Лаўрыш |
| „ | Гілік | Гілюк | Гілясь | Гіляр | Гіляруш |
| Ипполит | Гіполісь | Гіпалюк | Гіполюсь | Гіпаліт | |
| Иродіон | Радзік | Радук, Радзюк | Радзісь | Радзім | Радзівон |
| Іаков | Янцік | Яктук | Якусь, Якута | Якаў(уб), Якта | Якша, Яц |
| Іакинф | | Кантук | Канцісь | Якант | |
| „ | | Юхнук | Юхцісь | Юхінт, | Юхно |
| Іоаким | | (Ю) Як (х)імка | [Ю] Як [х] цісь | (Ю) Як (х)ім | Якша, |
| Іоанна | | | (Ю) Ягася | (Ю) Ягата | (Ю) Яга |
| Іоанн | (Ю) Ягцік | (Ю) Ягук | (Ю) Ягась | (Ю) Ягайла | (Ю) Ягаш |
| „ | Ясь | Ясюк | Яська | Ясюль | |
| „ | Якцік | Янук | Янка | Януль | Януш |
| Іосиф | Юзік | Юзюк, Еська, | Язэпусь | Юзуль | Язэп |
| Іуліан | Юлік | Юлюк | Юлісь(цісь) | Юльян | Юльяш |
| Іуліанна | Юльця | Юлька | Юльціся | Юля | Юляся |
| Казімір | Казік | Казюк | | Казімір | |
| Карл | | Карук | Карусь | Каро(у) х | Корша |
| Каролина | | | Каруся | Карута | |
| Кирилл | Кірык | Кірук | | К(у)ирила | Кирьяш |
| Киріак | Кірыл | Кірук | | Карэй | Кірша |
| Кипріан | Купрык | Куп(Цып)рук | Куп(Цып) рысь | Купрэй, | Цыпрыян |
| Клавдій | Клаўдзік | Клаўдук | Клаўдусь | Клаўдыян | Клаўдзіяш |
| Клементій | Клімцік | Клімук | Клімась | Клім | Клімаш |
| Кондратій | | Кандрук | Кандрась | Кандрат | Кандраш |
| Константин | Косьцік | Касьцюк(стук) | Кастусь, Косьць | Кастуль | Касташ |
| „ „ | | | Канстась | Канстант | Канстайла |
| Константія | Косьця | | Кастуся | Кастуля | |
| Косьма | Кузік | Кузюк | Кузьмісь | Кузьма | Кузьмей |
| Кристин | Крысь | Крыстук | Крыстусь | Крыстын | |
| К(Х)ристина | Крыся | | Крыстуся | Крыста | |
| Ксенія | | Аксюта | Акціся | Аксёна | Аксініца |
| Канон | | Канук | Канцісь(нась) | | Канаш |
| Лаврентій | Лаўрык | Лаўрук | Лаўрусь | Лаўрын | Лаўрыш |
| „ | Гільцік | Гільтук | Гілярусь | Гіляр | |
| Лев | Леўцік | Лявук | Лявось | Лявон | |
| Леонія | | Леўка | Лявося | | |
| Лолій | Лёлік | Лёлька | Лёлюсь | Лу(ы)нгвён | Лелюш |
| Лонгин | | Лу(ы)нгук | Лу(ы)нгась | Лу(ы)нгвён | |
| Лука | | Луктук | Луцэсь | Луц | Луктш |
| Лукіан | Люцік | Лютук | Лютысь | Лют, Люціян | |
| Лукерія | Люцька | Лютка | Лютысе | Луцэся | |
| Людовик | Людзік | Людзк | Людовісь | Людвіг | |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Маврикій | Маўрык | Маўрук | Маўрусь | Маўра | Маўрыяш |
| Магдалена | Магдзя | | Магдзіся(уся) | Магда | |
| Макарій | | Макрук | | Макар, | Макрэй |
| Максим | Максюга | Максімка | | Максім. | |
| Маланія | | Маланка | Малася | Маляньня | |
| Мамій | | Мамук | Мамцісь | Момат | |
| Маргарита | Маргуся | | Магарэся | Магарэта | |
| Марія | Марка | | Маруся | Марья (яна) | Мара |
| „ | Марця | | Марыся (ля) | Марыня | Маріница |
| Мартин | | Мартук | Марцісь | Марцін | Марцей |
| Мартіана | Марця | Мартуся | Марц(э)ія | Марцэля | |
| Марфа | Марця | | Мартуся | Марта | |
| Матвѣй | | Матук | Мацісь | Матыс | Матыяш |
| Матрена | | | Матруся | Матруна | Мотра |
| Мелетій | | Мялешка | | | |
| Мина | Мінцік | Мінук | Мінась | Мінайла | |
| Мірон | Мірцік | Мірук | Мірась | Мірон | Міраш |
| Михаил | | Міс(у)юк | Місь | Місай | Міхайла |
| „ | Міхцік | Міхалка | Міхась | Міхал | Міхайла |
| Михей | „ | Міхук | | Міхно | |
| Мойсей | | Майсюк | | Мойжа | |
| Настасія | | Настка | Настуся | Наста | |
| Наталія | | Наталка | Натася | Наталя | |
| Никита | | Мітка, Міцька | | Мікіта | |
| Никифор | | | | Мікіпар | |
| Николай | | Міколка | Міколя | Мікола | Мікалай |
| Олизарій | | | | Алізар | |
| Ольга | Вольця | Волька | Вальціся | Вольга | |
| Онисим | | Аніска | Анісь | Аніс | |
| Онуфрій | | (А) Нупрук | (А)Нупрысь | (А)Нупрэй | (А)Нупрым |
| Остафій | Асьцік | Астук | Астась | Астап | Асташ |
| Осип | Юзік | Юзюк | Юзусь | Язэп | |
| Павел | Паўцік | Паўлюк | Паўка | Павал | |
| „ | | Пашка, Пацька *) | | Пашко | Пац |
| Параскева | | Параска | | Парася | |
| Парфеній | | | | Пархом | |
| Пелагея | | Паласка | Палася | Паланея | |
| Петр | Петрык | Пятрук | Пятрусь | Пятро | Пятраш |
| Полина | Польця | Полька | Палюся | Палюта | |
| Прокофій | | Пракопка | | Пракоп | Прокша |
| Протасій | | Процька | Пратась | Пратас | Прот |

*] ... Павел инако прозываемый Пацько... полацк. мешч. В. Стр. Т. V ч. I стр. 15.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Радіон | Радзік | Радзька, Радзюк | Радзісь | Радзівон | Радзівойла |
| Рафаіл | | Рап(ф)ук | Рап(ф)ась | Рап(ф)ал | |
| Регина | Рася | Раська | Ра(ю)іся | Раіна | |
| Рихард | | Рышка | Рысь | Рышко | |
| Розалія | | Рузька | Рузя | Р(а)узаля | |
| Роман | Ромцік | Рамук | Рамась | Раман | Рамаш |
| Рустик | Русік | Русук(ак) | Русьцісь | Рус | Рустым |
| Савелій і Савва | | Саўка | Саўцісь | Савель | |
| Севастіан | | Сабук | | Сабоста | Сабасьцей |
| Самуил | | Самук | Самусь | Самуль | Самойла |
| Сасоній | | Сас(ц)ук | Сацісь | Сацько | Сац |
| Софроній | | Супрук | Супрусь | Супрон | Супраш |
| Семен | | Сё(і)мка | | Сымон | Сімаш |
| Сигизмунд | | Зыгмук | Зыгмусь | Зымунт | |
| Симеон | | Сімка | Сімась | (С) Шымон | (Ся) Шымаш |
| Силуан | | Сенька | Сільвась | Сілаш | |
| Софія | | Зоська, Сонька | Зося, Соня | | |
| Софроній | | Супрук | Супрусь | Супрон | |
| Станіслав | Стасік | Стасюк | Стась | Станіслаў | Станіш |
| Степан | | Сьцёпка | | Сьцяпан | |
| Сусанна | | Зулька | Зуліся | Зуля | |
| Тимофей | | Цімук (мка) | Цімусь | Цімон | |
| Тихон | | Цішка | | Ціхон | |
| Юстын | Юсьцік | Юстук | Юстусь | Юстын | Юстыян |
| Устиная | Юсьця | | Юстуся | Юста | |
| Урсула | | | Аршуся | Аршуля | |
| Федор | Ходзік | Ходка | (Хвя)- Хадась | (Хве) Ходар | Хадаш |
| „ | | Хвядук | Хвеська | Хвядос | Хведша |
| Филимон | | Халюк | Халюсь | Халімон | |
| Филипп | | (Хві) Піліпка | | (Хві) Піліп | |
| Флорентій | | Хролька (люк) | Хральцісь | Хрол | |
| Франциск | Пронцік | (Ф)Пранук | (Ф)Пранціс | (Ф)Пранціш | Пронь |
| Христина | Крыся | | Крыстуся | Крыста | |
| Христіан | Крысь | Крыстук | Крыстусь | Крыстын | Крыстым |
| Христофор | | Крыштук | Крыштусь | Крыштапор | |
| Цецилія | Цэся | Цэська | | Цыцыля | |
| Эдуард | Эдзя | Эдзюк, Эдзька | Эдзісь | Э(А)двард | |
| Эмиліан | Мільцік | Амілюк | Амільясь | Амільян | Амільяш |
| Эмилія | Мільця | | Амільця | Аміля | Мільцэся |
| Юлій | | Юлюк | Юльцісь | Юльян | Юльяш |
| Юльянія | Юльця | Юлька | Юльціся | Юля | |
| „ | | | Улціся | Ульяна | |
| Яков | | | Якусь(та) | Якуб, Якаў | Якуш |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Фадей | | Хвядук | Хведась | Хвядос | Хведзь |
| ,, | Ходзік | Хадук | Хадась | Ходар | Ходша |
| Фекла | Тэця | Тэцька | Таклюся | Тэкля | |
| ,, | Хвеся | Хвеська | Хвяціся | Хвекла | |
| Федора | Ходзька | | Тадося | Тадора | |
| ,, | | | Хадося | Хадора | |
| Феодор | Тодзік | Тадук | Тадусь | Тодар | |
| ,, | Хведзік | Хвядук | Хведась | Хведар | |
| Феодосій | | | Хвядось | Хвядос | Хведзь |
| Фома | | Томка | Тумась | | Тумаш |
| ,, | Хомцік | Хомка | Хомцісь | Хама | Хамаш |

# Аднасловы.

Кахаць, любіць. Слова кахаць ужываецца толькі ў тасунку да людзей а любіць—да рэчаў стварэньняў. Нельга напр. кахаць рэдзку, бярозу, рыбу, капусту з салам; іх можна любіць, а кахаць можна кагосьці з людзей-бацькоў, радню, дзяўчыну. Слова кахаць некаторыя памылкова лічаць запазычаным з польскага, што не сусім згодна з праўдай, бо хоць палякі ўжываюць яго, але ў нас гэтае слова мае выводныя формы, якіх няма у палякаў. Насовіч падае гэткія адмены гэтага слова: Каханенькі, каханка, каханьне, каханак, каханы, кахаць, кахацца, але побач з гэтым і—выводныя: кохаць, кохнуць, кох Першае тлумачыць вось як: кохнуць, дзеяслоў сяр. р. (гукапатураючы: 1) квактаць як курыца што водзіць курчат; 2) пераноснае—падобна курыцы каля пісклят клапаціцца, туліць, стагнаць. Кохнуць—мець пал· да каго колечы. Кохне па дзяўчыне, кохне па дзяцёх і 3) Уздыхаць, смуціцца. Кохне па матцы, па мужу. Кох, згукапатур. якое выражае квактаньне курыцы што водзіць курчат. Нешта курчаты пішчаць, а коху курыцы не чутно. Жонка кох, а гаспадар вох.

Рубеж, граніца, мяжа, дукт. Найраней у нашай літэратуры выступае слова рубеж, пазьней мяжа і граніца і ўрэшце дукт. Слова рубеж праўдападобна агульна-славянскае, прынамні многія славянскія мовы ўжываюць яго ў тым-жа значэньні як і ў нас, дзеля абзначаньня граніцы. Паходзіць яно ад славян. „рубить“, сеч. Часта ў старой нашай літэратуры ўжывалася ў значэньні рас. „предѣл“, польск. „kres“. У народнай нашай мове цяпер не ўжываецца, хоць ведама ей слова руб, ў значэні рас. „грань“. Граніца, паяўляецца ў актовай мове не пазьней XVI ст., слова аднаго і таго-ж караня з: гранка, кантовы скрыль вузы пчалінай, даўней-а ў некаторых беларускіх гародах і дагэтуль,—зьвязка шрыфту набранага да друку; грань, востры выступ, вугол на чым колечы; граніць рабіць канты на рэчы не канцястай, а такжа, у ратайстве, ўзначэньні дзяліць поля на лехі. Цікава адмеціць, што ў некаторых мясцох, прыкл. каля Вяліжа, граніцай называюць ляху, рас. „грядка“. Пасеяў граніцу калапень і 10 граніц капусты пасадзіў. Паскольки у старой літэратуры рубеж і граніца ўжываюцца дзеля абазначаньня лініі раздзяляючай зямлю, то мяжа ня мае гэтага значэньня. Яна абазначае не заарануюбаразну зямлі, як разьдзел паміж ральлёй. У значэньні разьдзяляючай лініі слова

мяжа пачало быць тасаваным толькі ў апошнія часы. Слова дукт у значэньні граніцы, рубяжа, пачынае сустрачацца ў актах XVII ст. У жывой мове ўжываецца, больш паміж інтэлігенціі, ў Лепэльскім павеце. Дукт слова лацінскае.

Цяміць, keміць, дукрыць. Цяміць і кеміць, словы аднаго караня, паходзяць ад „цемя",—верх галавы; ужываюцца ў значэньні, рас. „понимать", „соображать", „смѣкать". Пад уплывам навейшай беларускай літэратуры паміж гэтымі аднастайнымі словамі адбываецца разьдзел: слова цяміць больш пачало тасавацца ў значэньні „сообразительности", а—кеміць ў значэньні „смѣтливости" „примѣталивости" Выводныя ад цяміць маюць шмат адценкаў. Гэтак уцяміў—запамятаў, зразумеў; ня ўпрыцям, не ўдагад „невдомек„; цямкі „понятливый"; ісьці на цямкі (памылкова на цянькі), знача ісьці не вядомай дарогай, а наодум, кіруючыся мысьлю; цямешыць з трудом успрыймаць нешта ў галаву; ацяміцца, прыйсьці ў памяць, у прытомнасць, апамятацца; абязцяміць—пазбавіць памяці; прытомнасьці; бязцямны—безпамятны, непрытомны; высьцямак—варьят, непрытомны чалавек; нацям—на памяць. Нацям зьлічы сколькі будзе: сем-сямярэй па семяра дзяцей. Палякі асобліва здольны народ да перакручаньня чужых слоў надаючы ім зьняважлівыя адценкі (прыкл. з грамата, зрабілі ,,ramota"—няўмелая пісаніна, з гаманіць—,,gomonic"—бяз сэнсу вярзьці і ,,gamon"—дурань і ш. інш.), не абышлі і слова ,,цяміць", але надалі яму значэньня на выварат: ,,ciemięga"— чалавек цяжкі, цяжка думаючы, ,,ciemiężус" уціскаць, прыгнятаць.

Кеміць таксама мае шмат адценкаў у выводныя словах. Гэтак: закмеў— прымеціў, запамятаў, заўважыў; закмеўка--прыметка: Закмеўкі засек на дрэве. Закмеўкі парабіў на мяшкох; кемкі=„смѣкалистый" здагадлівы, панятлівы здольны; здакмець—выразумець, пасьцігнуць. Дукрыць (з Лепэльшчыны і Барысаўшчыны), слова паходзіць не ад лацінскага „дукт", а ад крыўскага „дудукаць"—гаварыць; яно бліжэй па значэньню да думаць, разумець. Выводныя: дукрыц, дукры, здукрыў, ўдукрыў, надукрылі, выдукрыў

Кузурка, кузулька, кузяўка. Кузуркамі называюць наземных поўзаючых овадаў („insektum"), кожды жучок, мяккакрылае і бязкрылае наземнае стварэньне, калі гэта не чарвяк, не мятлік, не камар і ня муха—носіць агульную назову кузурка, ў адрожненьне ад такіх-жа дробных водных стварэньняў, якім даецца агульная назова—кузяўкі. Кузулька гавораць у горадзеншчыне замест—кузурка. Былі спробы у навейшай нашай літэратуры, ўжываць слова кузулька замест рас. ,,насѣкомое", аднак гэтае слова не адпавядае данаму значэньню. Магчыма, што ў каторымсь з вышэйпададзеных слоў крыецца карэнь паняцьця інсэкт, але дагэтуль гэтае заданьне нікім не разьвязана. Трэба сказаць, што і рас. слова „насѣкомое", не народнае, штучна утворанае, гэта ёсьць літэральны пераклад лацінскага слова, insektum якое ў свай чарод штучнае, яно знача—,,насечанае", бо азначала спачатку толькі адну адмену дробных стварэньняў, цела ў якіх пакарбаванае, як бытцам зложанае з паасобных пярсьцёнікаў.

Брахаць, гаўкаць, зьвягаць, дзяўкаць. Брахаць, азначае сабачы крык, гаўканьне. Брэша курта брэша! Брахлівы сабака; сабачы брэх. У пераносным значэньні гаворыцца аб гутарцы лжывай, злосна-пустой. Гаўкаць, рэдка брахаць. Гаўкае, як сабака с пад лавы. У пераносным зн. гаворыцца аб не-

ўважлівай адповедзі. Ты да яго ветла, а ён гаўкне табе, як сабака. Зьвягаць, брахаць ценкім голасам ды надарэмна, без дай прычыны, але надаедліва, доўга. Воўк сабакі не баіцца, а толькі зьвягі ня любіць. У перан. а зн. гаворыцца аб пустой гутарцы, аб бязсільнай напасьці. Дзяўкаць, тое-ж што і гаўкаць, але ценкім голасам, рас. „тявкать“.

Бароцца, змагацца, ходацца, доляцца, тузацца, дужацца. Бароцца, знача сіліцца, боручыся фізычна, валіць, ламаць, кідаць на зямлю, пробуючы сілы і спрыту; барукацца, старацца паваліць адзін на адзін праціўніка. Змагацца працівіцца усімі сіламі цялеснымі і духовымі, супроць якога колечы гвалту, або ўплыву, сіліцца перамагчы адпор, перашкоду, нападку. Ходацца, цягацца з праціўнікам меручыся сіламі. Доляцца, тое-ж што і ходацца, з адценкам сьвядомасьці сваей слабасьці. Адалела старасьць. Мошка адалела сады. Нас што год вада адалевае. Тузацца цягацца з кім торгаючыся. Дужацца, мерацца сіламі, гаворыцца ў значэньні барукацца.

Шкеліць, галузаваць, кпіць, шабункаваць. Шкеліць, ашчарацца, насьмяхацца, рас. „острить“, „трунить“. Насовіч (стр. 711) дае: шкель насьмешнік -ца. Шкель баба. Абсадзі ты гэтага шкеля, Шкеліць, сашкеліць—сьмяяцца. Досіць табе шкеліць каля бабы. Ты сашкеліў каля нас. Шкелі—жарты, насьмешкі. Досіць табе шкелі строіць. Свае шкелі кішані аб'елі. Слова абыдзеннае у Смаленшчыне. Выводныя: шкельнік-ца, шкуляць, дашкуліў, сашкеліў. Галузаваць, гэтае слова,—мяркуючы з народных песьняў і с таго ў якім значэньні ужываюць яго у Вітабшчыне і паўночных паветах Віленшчыны,—ў Насовіча няпраўдна вытлумачана. Праўдападобна ён зьмяшаў яго з другім словам—„галус“, што знача абарванец, дуронік, а такжа гультай і бяздзельнік.-Слова галус паходзіць ад „голы“. Слова-ж галузаваць, ад „галы“-вочы. Ужываецца яно ў значэньні рас. „зѣвать“, з адценкам насьмешкі і злосьці, а такжа маўклівую насьмешку. Не надзявай гэтага, а то будуць людзі галузаваць, вытыкаць пальцамі. Галузуе з нашай баднасьці, зайшоўшы ў хату. Куды не паткніся усюды будуць з цябе галузаваць, хоць у вочы нічога ня скажуць. Кпіць, кепкаваць, высьмяваць злосна. Кпіны, злосныя насьмешкі, перасьмевы. Шабункаваць, жартаваць, насьмяхацца дебрадушна, не абразьліва; гаварыць ў жартаўлівым тоне; перакідацца жартамі.

Ілгаць, хлусіць, маніць, клюдзіць. Ілгаць, гаварыць няпраўду, сьвядома перакручаць пруду. Хлусіць, маніць, лгаць жартуючы, насьміхаючыся, выдумляючы няпраўду цікавую, або забаўную; памыляць каго колечы маной. Мана, безпадстаўная няпраўда, лганьнё, чыста здуманае здарэньне, фантазія. Клюдзіць, крывіць, выкручацца няпраўдай, мыляючы слухача фальшывымі, або падтасаванымі даннымі. Гавораць аб заблутанным зайчым тропе „наклюджана“, „наклюджаны сьлед“, зблутаны. Ужываецца такжа ў значэньні крывадушыць. Клюдзіць дзеўка, праўды ня кажа.

Гадаваць, выховываць. Гадаваць адносіцца да фізычный стараны, выховываць—да духовай. Узгадаваў дзяцей, але ня даў ніякага ім выхаваньня.

Слабы, кволы. Слабы, ня сільны, ня сьціслы, бязьсільны, не тугі. Слабога здароўя і слабой сілы чалавек. Слабога характару. Хлеб замясіла слаба, таму ён і расплюх. Слаба нацягненая вяроўка. Кволы, высходнае „квіль“ —слабы дзіцячы пляч. Квіліць дзіцятка, пташка: знача адзываецца слабым, жаласьлівым голасам, згэтуль кволы—слабы, жаласьлівы, пісклівы. Квяліць-даводзіць да плачу, да сьлёз, сердзіць, крыўдзіць. І Бога хвалі і чарта не квялі. Мусі ўквяліў чым дзіцятка. Квелкі—далікатны, рас. „нѣжный“, польск. „tkliwy“. Калакут—птаха квелкая. Квель—рас. „нѣга“. Квель па целе разыходзіцца ад сонечнага прыпару. Любіць, то і квеціць жонку. Квеліцца ў

пасьцелі да поўдня. Пястунок, мамчын квялюта, квялюсь, яму ўсё можна. Квеляцца маладыя сабе перад жаніdзьбай. Глянь як Анцік да цябе квеліцца, відаць ўжо нечага хоча. Паквольча, паслабліва, ня жостра, ня груба, памалу Як відаць з прыведзеных тут прыклядаў ёсьць рожніца паміж—кволы і квелы.

Пах, водар, вохнасьць. Пах-прыемны водар, супраціўнае: сморад. Панюхай, чым гэта пахне. Глядзіць лісіцай, а пахне воўкам. Пчолка пахне мёдам, а жук сьмярдзіць навозам. Водар—пахнасьць, рас. „аромат“. Гарбата ня мае водару. Водар смалы чуваць ў сасновым лесе. Вохнасьць, вотхнасьць, добрапахнасьць, рас. „благоуханіе“, „душистость“. Прыемная вохнасыць тхне з поля, дзе жыта красуе. Пасеяла павохны гарошак. Разрожнююць павохную і сабачую мяту.

Ўсесьвет і сусьвет. Усесьвет, тое-ж што па расійску „мір“, „міровой“. Сусьвет, тлумачыцца па рас. „вселенная“. Прыстаўка „су“ надае адценак ўсеагульнасьці, зыходжаньня многіх элемэнтаў, як і ў словах—сумеснасьць, сугалоснасьць, суседзтва, сужывецтва і мн. інш.

В — т.

## Аб камянях-краўцах.

Героі і магуты становяць у міфалогіі пераход ад багоў да людзей. Гэтак, мы бачым ў эпічнай творчасьці чыста мітычную сілу і дзеяньні апяваных магутаў. Магутамі-ж у гэтай творчасьці зьяўляюцца арганізатары плямён і заснаўцы дзяржаў, ці іх абаронцы. Ихнія дзеяньні ў вуснах пяўцоў вырастаюць да дзеяньняў багоў, а іх імёны прыймаюцца за назоўныя для славіўшых іх народаў. Памяць аб гэткіх героях-прашчурах захавалася да нашых дзён у найменьнях народаў, якія утвораны ад ўласнага назоўнага, бацькаўскага з канчаткамна іч, ічы. Нэстар апавядае: „былі два браты ў ляхаў, Радзім а другі Вятка; і прыйшоўшы аселі Радзім па Сожу, прэзваліся Разімічы, а Вятка асеў з родам сваім па Ацэ, ад яго празваліся Вяцічамі“. Гэта ўжо вельмі позны адгалосак эпічнай повесьці; ня ўходзячы цяпер ў яго ацэну, нам гэта повесьць важна як пацьверджаньне вышэй высказанай мысьлі, што найменьні народаў з канчаткам, на іч ічы, утварыліся з назоўнага бацькаўскага. З назоўнага бацькаўскага утварылася, праўдападобна і найменьне—Крывічы.

Эпічныя Волаты і магуты, паводле народных пераказаў, паперакіданы былі ў камяні і скалы.

Гэта апошняе цьверджаньне насувае дагадку, што нашы камяні-краўцы, не былі першапачаткова камянямі-краўцамі, а—эпічнымі магутамі. З выміраньнем роднай старасьвеччыны, асабліва з разпадам былiннага эпосу на казкі, гэткая замена крыўца на краўца вельмі лёгка магла стацца, дзякуючы падобнасці гэтых двох слоў. Наша этнографічная літэратура перапоўнена апавяданьнямі аб камянях-краўцах, ў якіх ня трудна заўважыць загадковую мітычную постаць. Для прыкладу падаю тут адну з гэткіх аповясьцяў. Каля дарогі з в. Стары Пагост (Дзіс пав.) у засценак Замосьця, ляжыць на пожанцы даволі вялікі камень, блізка ў рост чалавека. Гэта камень-кравец. Калісь у камяні быт цам было аконца ў якое, калі палажыць тканіну і сказаць што пашыць, то на другі дзень знойдзеш пашытае. Дзеялася гэта датуль, пакуль нейкая ліхая баба не накідала ў сярэдзіну аконца навозу, кажучы пашыць ей чарвікі. Бабу на месцы-ж скорчыла, але аконца зачынілася і ніхто ўжо больш ня бачыў яго. Побач з гэтай легендай, істнуе аб гэтым камяню і другая

відаць з ранейшага пэрыоду, што камень-кравец хадзіў па сьвеце. Вось абрывак апавяданьня з гэтых падарожаў: Дзесь, у якімсьці горадзе будавалі царкву і што не навозяць людзі каменьня, то чорт, за ноч, і паперакідае іх на другі бок ракі. Людзі вельмі непакоіліся гэтым; калі дачуўся камень-кравец аб прайдоху-чорце ,перакінуўся з камяня ў магута і пайшоў на тое мейцса, дзе чорт бузаваў. І, вось, што чорт перакіне праз раку камянь, то ён яму назад кіне два камяні, чорт сколькі не стараўся, ня мог асіліць „краўца“, і ўрэшце, здаўся. А ад гэтай гульні собралася там, дзе патрэбна было, гэтулькі каменьня, што з яго і пабудавалі царкву.

Гэта аповесьць пазваляе нам бачыць у краўцу магута, нязвычайнай сілы, які перамагае, праціўную, благую сілу. Падобных рысаў „краўцоў“ можна сабраць шмат, навет унадрукаванай крыўска-беларускай этнографічнай літэратуры, ў народзе-ж іх шмат больш.

Відаць спачатку гэтым камяням крыўцам,—а не краўцам,—складалі ахвяры. Пацьверджаньне гэтай думкі знаходзім у Романава („Бѣлорусскій Сборнік“ Вып. IV. Витебск. 1891 стр. 172), дзе ён апавядае вось што: „Каля в. Камяня, камянецкай вол. і в. Загорья, шуміхаўскай вол., Себежскага пав., Віт. губ. ёсьць камяні Пястун і Бабка, якіх багомяць акалічныя сяляне. Камяням гэтым складаюць ахвяры: кавалачкі хлеба, дробныя манэты, палатно, ягады і стужкі Паводле народнай пагудкі абодвы камяні—скамянеўшыя людзі“.

З гэтай зьменкі мы даведываемся ня толькі аб тым што гэткім камяням складаліся ахвяры, але, ў дадатку, што ахвяры складалі палатном і стужкамі. На падставе памяці аб складаным у ахвяру палатне, лёгка адбылася замена імён, тым больш, што праўдзівае крывец—пакрывалася што раз большай цемрай забыцьця, а другое—кравец,—было саўсім рэальным. Далей ужо, на аснове адносін краўца да палатна, вытварылася навейшая пагудка, што камяні шылі вопратку.

Дык з усей праўдападобнасьцю трэба бачыць ў цяперашніх камянях—краўцах, магутаў крыўцоў, ці крыўца, мітычнага націянальнага героя нашага крыўскага племя. Дзеля гэтага на абавязку беларускіх этнографаў, якія маюць магчымасьць працаваць у краю, ляжыць сабраць народныя легенды аб гэтых камянях. З абрыўкаў, з аддзельных эпізодаў, можа, з часам, злажыцца цэлае, якое будзе адным в найцаннейш[illegible] укладаў у націянальную нашу скарбніцу.

---

# Запіскі.

**Крыўска беларуская кавалерыя.** З нйдаўнейшых часаў найвыдатнейшае месца ў крыўскім войску займала конніца. У паходах Полацкіх, Смаленскіх, Пінскіх Князёў галоўна, калі не выключна, войска складаецца с конніцы. Войска ў княжыя часы дзялілася на княжую дружыну і земскае войска. Першае належала да князя, другое склікалася ў момант небасьпекі па пастанове веча, з асобнага земскага вайсковага стану ваяраў ў або бояраў. Князь і дружына станавілі асобны стан у дзяржаве і былі моцна паміж сабой зьвязаны. Ня любы вечу князь калі выходзіў з зямлі забіраў з сабой і сваю дружыну. Нававыбраны князь прыходзіў са сваей дружынай. Пазьней зьвязь паміж князямі і дружынай, памалу, траціцца. Конніца XII—XIII ст. дзялілася на

дзьве катэгорыі: капійнікаў і стральцоў. Кожды капійнік павінен быў мець копію 9 локцяў даўжыні; стральцы былі узброены лукамі. У першых радох ехалі капійнікі, за імі стральцы, якія маглі лукаць стрэлы ў ворага па над галовамі капійнікаў. Першая стычка войск адбывалася на копіі, калі пераламаны былі копіі, дабывалі мячы; ў гэтым здарэньні стральцы біліся разам с капійнікамі. Паводле ездакоў, дзялілі і коней: пад капійнікаў бралі цяжэйшых, а пад стральцоў лягчэйшых. Абозы акружалі некалькімі радамі дазорчых. Пяхота, калі бывала пры войску, памагала конніцы займаючы мейсца спераду.

Ад 1486 году пачалі заводзіць ў пяхоце самастрэлы, але конніца нейкі час не паддавалася гэтай навізьне. У пачатку XVI ст. утвораны былі у нас гусары. З гэтага часу наша кавалерыя дзеліцца на гусараў і панцырных, або цяжкую і лёгкую конніцу. Урадова назова усараў (гусары—назовя пазьнейшая) выступае ў нас за Баторага, ў часе вайны з Масковіяй. Зброя усара складалася з панцыра, прылбіцы, шчыта і копіі. У 1514 гаду, пад Оршай, усары былі узброены шчытамі і копіямі. За Баторага копіі скарацілі да 8 локцяў і завялі пісталеты. З рэестру інфлянцкага паходу бачым, што ў 1551 галу усарыя складалася з 3.350 чалавек: каралеўскіх—1.000, Віленскага ваяводы 400, Троцкага ваяводы 400, Віленскага біскупа—300, Дзяржаўнага падчашага 800 і крайчага 50.

Конніца лёгкая г. зн. панцырная стральцы, празначаны былі да пачынаньня бітвы і пагоні за ворагам, уброены былі лукам, або самастрэлам, шчытом, крывой шабляй з левага боку і копіяй доугай 4 локці. Ад 1546 году пачынае паяўляцца ў стралецкіх ротах копія званая „рагацінай“ і лук званы „сідаком“, згэтуль лучнік называўся сагайдачнікам, сагайдачым. Гэтман сагайдачны значыў тое ж, што пазьней гэтман польны. У бітвѣ пад Оршай, Сокалам і Невелям баявыя калонны фармавалі ў 4 да 6 радоў.

У тагочаснай вайсковай дысцыпліне кара на чэсьць была ўважна за большую ад кары „горлам“ (сьмерцьцю). У 1591 гаду была ухвалена канстытуція на моцы якой гэтман і вайсквыя суды маглі „караць тольскі горлам“ караць на чэсьці, ніхто нямог акром сойму, за пацьверджаньнем сэнату і караля. За войскам зазвычай цягнуліся доўгія абозы з жыўнасьцю. Калі жыўнасьць выйшла вайсковыя павінны былі куплаць са свайго „жолду“. Баторы плаціў у тры месяцы кавалерысту 18 залатых, казаку 12. Слаўныя нашы лесаўчыкі належалі да лёгкай конніцы; узброеньне іх складалася з копіі, крывой шаблі, „самапалу“ і 2 пісталетаў.

Л. А.

## Першыя беларускія слоўнікі.

Першы Крыўска-Беларускі слоўнік апрацаваў Лаўрын (Лаврентій) Зызаній і надрукаваў яго ў Вільні ў канцы XVI ст. Загаловак кніжкі гэткі: „Лексисъ сиречь реченія, въ кратцѣ събранны и изъ словенскаго языка на простый рускій діялект истолкованы. Въ Вильнѣ 1596). Як відаць з загалоўка гэта ёсьць слоўнік славянска-беларускі. Гэты слоўнік маецца панова перадрукаваны ў Сахарова „Сказанія русского народа“ (СПБ. 1849 г. Т. II.). Акром гэтага ёсьць яшчэ другі падобнага тыпу слоўнік значна абшырнейшы, які быў надрукаваны у Кутэйнскім манастыры (Могілеўская губ.) у 1655 г., гэты апошні уложан Памвай Бэрындай і першы раз быў надрукаваны ў Кіеве ў 1627 годзе. Мова ў абодвых слоўніках не жывая народная беларуская, а такая якую мы сустрачаем ў актах і ў тагочаснай літэратуры, усёж-такі абодвы слоўнікі маюць ня толькі вялікую гістарычную вагу, але і практычную, навукавую, асабліва для нашых і украінскіх філалёгаў бо

літэратурная і актовая мова ў тыя часы была немаль адна і тая-ж у нас і ў украінцаў.

С. Т.

**Што такое „Артсана“ арабскіх пісьменьнікаў.** У арабскіх географаў IX—X ст. упамінаецца аб дзяржаве і паўночным горадзе усходных славянаў, якія, паводле іх, мелі тры свае цэнтры: Слаба, ці Слава, Куяба і Артса. Пісьменьнік Хаўкаль кажа: Арта (паводле другіх— Артса, Артсана, Артсанія) ляжыць між Хазаранам (Хазарыяй) і Вялікім Баўгарам (Вялікай Баўгарыяй, якая істнавала на Волзе), што зара на поўнач за Румам (Візантіяй), але другі араб, Іздры, бліжэй азначае палажэньне Артсаніі: „трэйці народ называецца Артсанія, а цар іх жыве у горадзе Атсан) гэта прыгожае места разкінута на недаступнай гарэ; яно ляжыць між Славаю (Ноўгарадам Вялік.) і Куябаю (Кіевам), ад Куябы да Артсана 4 дні дарогі (ведама-ж чоўнамі або на конях), а ад Артсана да Славы 4 дні. Гэта дало повад некаторым гісторыкам у Артсаніі бачыць Смаленск. Іншыя выводзілі „Арта“ ад Мардвінскага племя Ерзь. Ці не далёка прасьцей і праудападобней зраўняць перакручанае Арабамі—Артса з цяперашняй Аршой, Воршай або Оршай? Тым больш, што найменьне Арша самае праўднае, як выводнае ад „аржа“, балотная руда, чым багаты яе ваколіцы; істнаваньне-ж ў яе ваколіцах чысьленных капцоў, і другіх сьлядоў старадаўнага жыцьця, даюць права думаць, што тут істнаваў калісьці вялікі дзяржаўны ці плямянны цэнтр.

О. У.

**Волаты-Анты.** Костомараў („Богдан Хмельницкій“ СПБ. 1870, стр. XIV—XV) зьбліжае найменьне Волаты з найменьням, — вядомага з гісторы Візантыі і Рыму IV—VI ст., —славянскага народу Антаў. А гэта вось якім чынам: „Па украінску в я л і н н ы й—вялікі. Есьць у народзе цёмны пераказ аб тым, што ў Палуднёвазаходнай Русі некаліс жыў народ в е л е т н і — вяліканы; слова А н т, каторым у Пракопія і Іорнанда называюцца славянскія народы, што жылі у краю, ў якім, пазьней, мы застаем палуднёва-рускі народ, мае па готску тое-ж значэньне“. Знача з Велянты (Вельанты) атрымалася—Анты. За Костомаревым і праф. Міхайла Грушевскі хоча бачыць у Антах прабацькоў цяперашняго Украінскага народу, але дае на гэта слабыя аргуманты:—„мы ня ведаемо як далёка сягала імя Антаў на поўнач, яно магло абыймаць усе усходна-славянскія плямёны, але мы гэтага ня ведаем і такіх фактаў не маем, сустрачаем гэтае імя толькі ў падзеях і комбінаціях, якія маюць датычнасьць да самай палуднёвай колёнізацыі гэтых плямёнаў“. (М. Грушевський, „Історія України-Руси“ Т. І. Льов, 1898 стр. 101). У рымскіх і візантыйскіх пісьменьнікаў наагул німа нічога аб народах, якія жылі за Палесьсям на поўнач, дый навет на сярэднім Дняпрэ, дык нястача вестак у гэтых крыніцах, ня ёсьць факт, які можа служыць довадам не істнаваньня далей на поўнач Антаў. Магчыма, яны тады (IV —VI ст.) і не істнавалі яшчэ за палескімі балотамі, магчыма, што яны тут аселі толькі ў VII ст. г. зн. тады, калі назаўсёды зыходзяць са страніц візантыйскай і рымскай гісторыі. Калі-ж дагадка Костомарава запраўды мае пад сабой грунт і запраўды племя Анты і племя Волаты, Воўкі—адно і тое самае, то істнаваньне іх на поўнач ад Прыпяці па цьвярджаецца многімі топографічнымі найменьнямі як: Вількомір, Ваўкавыск і г. п., а пазьней фактам, па моему першай вагі, што на крыўска-беларускай тэрыторыі капцы бронзавага веку прыпісвае народ Волатам, называючы іх „валатоўкамі“. Зрэшта ўсё гэта пытаньне чакае яшчэ сваіх дасьледчыкаў. С. К

**Навец, наўскі.** Наўцом называюць, ў аколіцах Мёраў, Шаркаўшчыны і Відзаў (Віленск. губ.), сьвежа памершага нябошчыка, а такжа нябошчыка які па сьмерці ходзіць ў сваім целе і ссе кроў (рас. вурдалак, польск. upior). У гэтых ваколіцах навец процістаўляецца мярсьню, даўно памершаму які „разсыпаўся“ і ня мае ўжо цела, а паказуецца толькі як дух „сьцень“ (мярсьцень, мерсьціцца прымярэсьціўся). У даным здарэньні слова „навец“ так сама эпітэт, як і слова „сьвежаніна“, „сьвежаваць“, „асьвяжыць“, уякое жываецца ў тасунку да статку. Наш селянін, не скажа: зарэзаў, заябіў карову, вала; гэта лічыцца груба, дзеля гэтага кажа— асьвяжыў вала, карову, барана. У мысьль гэтага непрыстойна казаць —„мярцьвец“, „труп“, на сьвежа памершага, а трэба казаць: „нябошчык“, „навец“. Наўскі, яму прыналежачы, прыкл. „Наўскі Вялікдзень (памінкі у праводную нядзелю). У штодзеннай мове можна чуць падобныя сказы: „Наўца праводзілі на могілкі“. „Наўца памылі“. Пры гэтым істнуе пераконаньне, што ходзячага па сьмерці наўца, трэба адкапаўшы яму, прыбіць яго да труны асінавым („асовым“) калом.

І. Л.

**Палчанін, палачанін.** У аколіцах мястэчка Старыя Крыжы (Вяліжск. пав.) дружкаў маладога і маладой называюць „палачанамі“ і „палачанкамі“ (мабыць даўней палчанамі і палчанкамі), так сама як у іншых мясцох Беларусі называюць „дружынай“ і „дружкамі“. Першае і другое найменьне выражаюць паняцьце арганізаванай вайсковай адзінкі. Малады, маладзён (князь) прыбывае, ў дом маладой (княгіні) акружаны сваім войскам--„палком“, „дружынай“, звычай гэты ёсьць вотклік тых часаў, калі жон „умыкалі“, або дабывалі сілай. Гэта пазваляе зрабіць дапушчэньне, што і найменьне стара Крыўскай сталіцы, Полацак (даўней—Полтеск, Полътск), знаходзіцца ў зьвязку са словам „полк“ (стар. полъкъ), знача: войска, вайна, бітва, вайсковы стан, а магчыма— крэпасьць. (Зраўняй: „Опыт областного Великорусского словаря“, Выд. Акад. Наук СПБ. 1852 г., дзе маецца запісь з Тверскай губэрні „полкъ“, „полчане“ ў значэньні вясельнай дружыны. Праф. Карскі паказуе у Тверскай губ. даволі значны лік беларусаў.

А. С.

**Выцябкі і поцябкі** Выцябкамі называюць мейсцы разчышчаныя з пад лесу, поцябкамі розныя адпадкі пры сечыве, сучкі, веткі і інш. У слова „выцябка“ кладзецца ў аснову паняцьце „цяць“, „цяпаць“. Першае Носовіч тлумачыць—рубануть, ударыть. Цяў абухом у лоб і капут кабану. Цяў, каб зубы сьцяў. Другое слова у Насовіча вытлумачана няпраўдна, яго тлумачыць ён гэтак: „Хватать зубамі свойственно кусающимся жывотным“: Сабака цяп і ўкусіў. Тут слова „цяп„ ня што іншае як беларуск. „цап“, рас. „хвать“, што не адпавядае значэньню слова, бо кажуць: „Цяпнуў яго абухом“, знача сякануў. Цяпае сякерай, знача сячэ ударае. Рожніца паміж аднасловамі выцябкі і выцярабкі тая, што пад першым разумеецца выцяты лес, пад другім дробны парасьнік. Гэты два аднасловы адпавядаюць расійскім „подсѣка“ і „чищоба“. Мне здаецца, што і найменьне гораду Вітабск, стар. Вытьбеск, паходзіць ад слова выцябка, знача мейсца высечанае, разчышчанае ад лесу.

Т. О.

**Ярасьць і юрнасьць.** Паводле тлумачаньня Афанасьева („Поэтическія воззрѣнія славян на природу „Масква“ 1865 т. І. стр.“ 441) слова Ярасьць азначае гнеў і похаць, ярун пахотлівы, паяры прыстаронны да чаго колечы („ён паяры да выпіўкі да жанок“,) ярыцца пачуваць похаць, сэрбскае јарич, любоўны пал,

але такжа—жар ад печы. У нашай мове слова ярасьць разпалася на дзьве формы: ярасьць і юрнасьць. Першае—ярасьць, утрымала паняцьце буйнасьці, палкасьці, жарчыстасьці, гарачнасьці гранічачай з пахотлівасьцю, другое—юрнасьць, затрымала пры сабе выключна значэньне пахотлівасьці. „Хоць стары, але яры“ аб чалавеку старым, але яшчэ сільным і палкім. Ярыцца, знача—жарыцца, гарыць, кіпіць. Пераяраны, перагарэўшы, перапылаўшы, station перакіпеўшы. Ярун, яруха, ярны, у тымжа значэньні што і яры, але з адценкам намякаючым на пахотлівасьць Юрны, знача пахотліві, Юрыцца, дурэць, бушаваць: „Бычкі Юраць“. „Юр бабу бярэ“, „На цябе юр напаў“ (прыклады з Насовіча 725 стр.) Выходзячы з вышэйсказанага нашае слова Ярасьць будзе азначаць тое-ж самае, што лац. „Pasia“, ням. „Leidenschaaftlichkeit“, рас „страсть“, польск. „namiętnosc“. Юнасьць-жа тое што рас.—„похотливость“.

Ў. С.

**Істба**. Першапачатковыя хаты славянскіх народаў будаваліся з бярвеньня зьбітага гваздамі па вуглох. С чатырох сьцен атрымлівалася чатыравуглавае памяшчэньне, якое называлі „ізбоінай“, „ізбой“. Таксама як ад слова „клеціць“—будаваць, атрымалася слова „клець“. Памяшчэньні бывалі халодныя і цёплыя,—цёплыя атапліваліся, і ад слова „таціць“ атрымаўся назоў цёплага памяшчэньня,—„істоба“, „істаба“, „істопка“. З развіцьцём культуры і заможнасьці пачалі будаваць большія дамы, не ў адну „ізбоіну“, „клетку“ ці „істопку , а ў некалькі, Паявіліся і новыя назовы: „Сьвятліца“, „бакоўка“, а далей пайшлі назовы паводле назначэньня:—пякарня або варыўня—дзе пяклі і варылі, чалядная—дзе жыла чэлядзь, спальня—дзе спалі, страуня або сталовая—дзе сталаваліся,—елі страву, гасьцінная—дзе прыймалі госьцяў. У замках былі істбы-князеўскія, соймавая, сэнатарская, пасольская, судовая, пісарня, прымніца або паслухальня, дзе прыймалі інтэрасантаў, бавяльная—дзе адбываліся забавы.

У XVI сталецьці правадаўчая установа, Рада Вялікага Князьства Літоўска-Беларускага, распалася на дзьве палавіны: істбу сэнатурскую і істбу пасольскую. У першай засядалі князі, ваяводы, гараднічыя, міністры і біскупы, ў другой выбраныя шляхтай земскія паслы.

К. І.

**Пакута**. Слова-пакута паходзіць ад слова „кут“. У старасьвецкай Беларусі амаль ня пры кождай царкве ў „бабінцы“ прытворы былі прыкаваны ў кутох да сьцяны жалезныя ланцугі, ў якія замыкалі яўных грэшнікаў. Гэткія ланцугі ў царквох істнавалі яшчэ ў канцы XVIII сталецьця і наводзілі страх на просты народ. Пры многіх старасьвецкіх манастырох, замест ланцугоў у бабінцы, былі скляпы пад званніцамі, куды запіралі каючыхся, або яўных грэшнікаў (Носовіч. Словар).

Л.

**За што нішчылі Лесаўчыкоў?** Лесаўчыцкі рух дагэтуль яшчэ чакае свайго дасьледчыка, які-бы выцягнуў на сьвет Божы з архіваў праўдзівую гісторыю гэтага беларускага казацтва. Бо ва ўсіх датыхчасовых польскіх (а іншых німа) працах аб лесаўчыках, як выражаецца польскі гісторык Стадніцкі „прыложана старэньня да таго каб праўду скрыць“. Аднак і з таго, што ў перакручанай постаці падаецца, відаць, што гэты вайсковы беларускі рух меў свае яркія страніцы. Не пазбаўлена цікавасьці з гэтага боку пастанова Варшаўскага сэйму з 1624 году: „Banitem kto-by był, a Lisowszczykaby zabił eo ipso od banicyi ma byc wolny“ (Volumina Legum T. III., 463). (Хто-бы быў бані-

там, а забіў-бы Лесаўчыка гэтым самым мае быць ад баніціі вольны). Знача Рэчыпаспалітая шляхэцкая гатова была найгоршых прастунікаў унявінніць за забіцьцё беларускага казака-лесаўчыка. Што-ж паставіла шляхту ў такую непрымірымую пазыцію ў стасунку да лесаўчыкоў? Гэтай адповедзі чакае беларускае адраджэньне ад нашых будучых вучоных канчаючых цяпер вышэйшыя школы заграніцай і ў краю.

А.

**Полацкая сьв. Сафія.** Старэйшай і галоўнай сьвятыняй у крыўска-полацкай дзяржаве была сьвятая Сафія ў полацкім Верхнім Замку, ці як даўней называлі Крамлю, яна была азнакай, сымвалам, свабоды і самаістасьці Полацка, каля яе групавалася ня толькі рэлігійнае жыцьцё крыўскага народу, але і жыцьцё нацыянальна-дзяржаўняе. Пры ей вісеў вечавы звон і акружаў яе абшырны „дзяцінец“, дзе адбываліся народныя вечы, ці як выражаецца грамата В. Кн. Казіміра „дзе здаўна сымаваліся палачане“. Акром гэтага св. Сафія полацкая стаяла ў найбольш моцнай краёвай крэпасьці з добра забудаванымі сьценамі, кругом аблітымі вадой. На Сафійскім дзяцінцу Крывічы выбіралі сваіх князёў, ў сьв. Сафіі князі прыймалі прысягу і адбывалася тут урочыстасьць вянчаньня князя, дзяржаўна-націянальнымі рэгаліямі: ўскладаньнем на галаву Вяліка-Князеўскай мітры і апаясываньне старасьвецкім мячом. У сьв. Сафіі пераховывалася крыўская летапісь, перапісаная, як кажа гісторыя, св. Ефрасініяй, якая тут у гэтай сьвятыні і пачала сваё затворніцтва. Пад саборам у глыбокіх скляпох клалі на вечны спачын Крывічы сваіх памершых князёў і заслужаных людзей. Нічога дзіўнага, што гэткая агульна-націянальная сьвятыня славілася свам багацьцем, ўнутраннай аздобнасьцю. Пасьля заваяваньня Полацка Іванам Грозным, полацкія цэркві былі маскалямі аграблены, у тым ліку сьв. Сафія, і 300 вазоў сярабра і золата адпраўлена было у Маскву. Пры здабыцьці Полацка у 1563 г. камандавалі кн. Курбск і 2 цары казанскія, арміяй 280.000 (у гэтым ліку большасьць было татараў). Пры 80.000 абозных людзей і 200 гармат. Горад быў узяты пасьля двохтыднёвай аблогі: 15 лютага, які дзень доўга абходжан быў як нацыянальная жалоба).

Заснавана сьв. Сафія полацкая ў X сталацьці. Зпачатку была праўдападобна, будавана з дрэва, а пазьней перабудавана з цэглы. У сярэдзіне была ўся пакрыта фрэскамі, часьць якіх адкрылі, пры папраўцы ў 1913 гаду. Ад 1839 году да 1913 сьв. Сафія была зачынена. У 1913 г., пасьля барбарскага рэмонту, назначана філіяльнай царквой. Аграмадны Вялікакнязеўскі Замак, пазьней уніяцкі манастыр, пасьля скасаваньня уніі ў 1839 г., быў спалены. Руіны яго былі яшчэ у 1913 г., але расійскі урад прадаў іх на цэглу, якая была вывезена на продаж у Двінск і, галоўна, ў Рыгу.

С.

**Нашая костка.** „Многа тутака такіх ёсьць, што хоць наша костка, аднак сабачым мясам абрасла і ваняе“, кажацца ў вядомай прамове кашталяна Мялешкі, якую ён гаварыў на сойме ў Варшаве ў 1589 г., кідаючы гэты словы ў старану Паноў Рады, што засядалі ў Радзе Гаспадарскай, а між якімі былі ўжо, каторыя „паляшыліся“. На сколькі адносіны да гэтых „паляшаных“, адрокшыхся свайго народу, былі няпрыязныя, можна мяркаваць з таго што гэты настрой адбіўся навет у тагочасных польскіх пісьменьнікаў. Прыкладам, польскі паэт XVII ст., І. Зіморовіч, фіксуючы гэтае настраеньне да „паляшаных“ даў гэткую штрофку:

Żeś ty rusin, kotiuho, niedoszły;
Bo mięsem lackim ruskie kośce twe obrosły;
Przeto jezli się dostać chcesz z nami do nieba,
Obić ci mięso lackie z ruskich kości trzeba.

Тут, як і ўсюды ў тыя часы, слова „русін“ ужыта ў значэньні веравызнаўчым, бо тады пад сьцягам веры ішло змаганьне за нацыянальнасьць.

Т.

# Агляд Культурнага жыцьця Беларусі.

Год 1923-ці пачаўся пад знакам, які варажыў багатшы ўраджай на ніве беларускай културы чым ранейшыя гады вайны. Найбольш абяцяньняў давалі культурныя установы Савецкай Беларусі, якія спадзяваліся на сталы выдавецкі бюджэт, на друкаваньне школьных кніг за межамі Радавых Рэспублік, пашырэньне выдавецкай справы у краю, на Беларускі Дзяржавны Унівэрсытэт з яго профэсурай і студэнтамі. З гэтых шырокіх надзей збылоля ня шмат. Мы думаем не дзеля нястачы энергіі у беларускік културных працаўнікаў, а ўсё дзеля тых непазбытных „незалежных прычын“, аб якія, як чуваць, у „вольнай і незалежнай“ Рад Беларусі ( з $5^1/_2$ паветаў меншыны) разьбіваецца шмат якіх надзей беларускай правінціі, калі даходзіць справа да ўзаемаадносін з цэнтрам. Акром Рад. Беларусі былі надзеі на сарганізаваньне шырэйшага выдавецтва ў Літве і наагул заграніцай. Тут так сама памяшаліся „незалежныя прычыны„ і надзеі ў поўні не апраўдаліся. Найменш абяцалася зрабіць у дзедзіне выдавецкай, часьць Беларусі апынуўшаяся пад. „братняй“ польскай апекай і, як нічога не абяцаўшая, ўсё-ж такі зрабіла шмат, так што дзялілася нават сваім культурным дабыткам з Менскам, у які пасылала друкаваныя у сябе школьныя падручнікі і другія кнігі.

У ўсё-ж такі 1923-ці год—самы раджайны на полі беларускага выдавецтва, супроць ўсіх гадоў нашага ліхалецьця. У гэтым гаду нятолькі быў надрукаваны першы беларускі лемантар, які адпавядае ўсім вымогам навейшай пэдагогікі (Лемантар Некрашэвіча, выданы Менскім Камісарятам асьветы), надрукаваны першыя кнігі на матэматыцы для сярэдніх школ (у Менску і Вільні), першая хрэстомація беларускай літэратуры (Максіма Гарэцкага), але паявіліся на сьвет і першыя беларускія месячныя часопісы сурьёзнага зьместу („Адраджэньне“. Літэратурна-навуковы весьнік Інстытуту Беларускае Культуры у Менску. Сшыток 20 аркушаў друку. „Полымя“ Беларуская штомесячная часопісь літэратуры, палітыкі, культуры, эканомікі і публіцыстыкі, у Менску; сшыткамі па 6 аркуш. друку, і „Крывіч“ месячнік літэратуры і грамадскага жыцьця, які выходзіць у Коўне, сшыткамі па 4 аркушы друку). З выдавецтваў найэнэргічней у гэтым гаду працавілі: ў Менску“ Беларускае Коопэрацыйнае Выдавецтва, ў Вільні Выдавецтва Клёцкіна і, пад канец году, ў Коўне Выдавецтва Міністэрства Беларускіх Спраў у Літве.

Немаль уся выдавецкая беларуская справа 1923 году ходалася, з усякімі „праціўнымі ветрамі“, каб абслужыць беларускую пачатковую і часьцю сярэднюю школу. Год гэты не даў нам ніводнай сурьёзнай працы беларускіх вучоных і профэсуры беларускіх вышэйшых асьветных устаноў, што выглядае даволі дзіўна, калі прыняць пад увагу ўсе

тыя відныя імёны, пад засьцю якіх буцее і пляніцца культурная беларуская справа ў Сувязных Радавых Рэспубліках, на чале з Менскім Унівэрсытэтам. Адзіная кніжачка (Нарыс па гісторыі бел. літэратуры) праф. Янчука, як пасьмертны яго помнік, дакорліва пазірае на жывых, роджаных з патрэб цела а ня з духа, верхавадаў беларускай навукі. Ніхай шаноўная профэсура не абражаецца за гэта, але мы, пакульшто не маемо грунту да іншага тлумачэньня данага зьявішча. Працуюць-жа і плодна працуюць ў такіх самых і варунках расійскія і украінскія вучоныя (калі гэту яласьць тлумачыць недагоднымі варункамі працы). Зрэшта можа мы мыляемся, можа маюцца працы, аб якіх мы наведаем.

Тае-ж самае трэба сказаць і аб чысленных беларускіх асоцыяцыях і установах, раськіданых як па самой Беларусі, так і па ўсей Расіі. Было многа квету, абяцаньняў, але ў восень засекі іх немаль пустуюць. Што там, якія пошасьці і напасьці спрычыніліся гэтаму,—няведаем.

Чуваць было шмат аб доследах і распачатых працах: у першы чарод, аб працах гэткага сурьёзнага працаўніка на ніве беларускай этнографіі, як Сержпутоўскага, аб паезцы заграніцу праф. Пічэты для дасьледаваньня беларускай гісторыі і сабраных ім багатых матэрьялах, і многіх працах маладых беларускіх вучоных, якія, як відаць з „Савецкай Беларусі“ намагаюцца зазначыць свой сьлед на культурным полі. З паміж апошніх асабліва вызначаюцца творчай энэргіяй маладыя беларускія вучоныя Мялешка і Канчар. Аб навуковай працы, сярод беларускага студэнцтва пад польскай окупацыяй і заграніцай, акром адзінага Брачыслава Скарыніча, глуха і нема...

Не раджайны быў 1923 год на полі беларускай повесьці, драмы і паэзыі. Выданыя у Менску зборнікі вершаў Цішкі Гартнага, Ясакара (Зьмітрака Бядулі), Я. Купалы, Я. Коласа, не зьяўляюцца, ў пераважнай часьці, плодам цяперашніх іхніх духовых перажываньняў, гэта ўсё—мінуўшчынына, сягаючая каранямі 1905 году. На беларускім Парнасе формай і зьместам падаўнаму пануе Я. Купала, рэшта трымаецца меншбольш да ваеннай роўні, асабліва гэта датыча цішкі Гартнага, якога зборнік вершаў „Песьні працы“ ні са стороны мовы, ні формы не прынясе славы ні аўтару, ні бацькаўшчыне, а будзе навекі помнікам нейкага недаразуменьня. Даволі цікавы, сьвежы і арыгінальны ў сваей творчасьці паэт. Міхась Чарот, які першы раз выступіў са сваей кніжкай у 1922 г. („Босыя на вогнішчы“). Повесьць беларуская нічым выдатным у гэтым гаду ня вызначылася. „Сокі цаліны“ Цішкі Гартнага лепшыя за яго вершы, але, думаю, што перакладаць яе на чужыя мовы ня будуць. Надзея беларускай прозы Максім Гарэцкі, большага нічога не апублікаваў. З новых выступіў Нарцызаў („Важная Шышка“), які даў даволі цікавыя літэратурныя нарысы са стараны, ня гэтулькі мастацкай, сколькі са стараны мовы, ў якой словы характэрна баларускія памяшаны з самымі безнадзейнымі барбарызмамі. Усёж- такі творчасьць яго уносіць сьвежую струміну ў беларускую белетрыстыку і гэтым зьяўляецца цэннай.

Над беларускім тэатральным рэпэртуарам найбольш працуюць усім вядомыя Голубок у Менску і Алехновіч у Вільні. Акром іх даў пару цэнных сцэнак, нажаль малапладавіты, Л. Родзевіч.

Беларуская навука концэнтруецца каля Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту ў Менску, які ў гэтым гаду мае ўжо ўсе прафэсарскія катэдры абсаджанымі даволі добрымі сіламі. Унівэрсытэт перапоўнены маладзежжу. Зьбіраюцца бібліотэка

музэй, лабораторыі. У размаху працы чуюцца маладыя буйныя сілы„ Побоч з унівэрсытэтам групуюцца рожныя культурныя і навуковыя установы і асоцыяціі, ў якіх так сама варыцца і глюкочэ энэргія.

Усяго у Рад. Беларусі 1210 школ, з якого ліку 57 польскіх, 47 жыдоўскіх і 1107 школ знаходзіцца у працэсе пераходу на чыста беларускую выкладовасьць; дагэтуль саўсім перайшло на беларускую мову ўжо 400 школ. Акром гэтага ёсьць 40 беларускіх дзіцячых дамоў. Па-за граніцамі Рад. Беларусі у Вітабшчыне, Смаленшчыне, Гомельшчыне гэтак сама шырацца школы з беларускай выкладовай мовай. Другім з чароду вогнішчам беларускага школьніцтва зьяўляецца Латгалія у Латвіі, дзе істуюць 2 гімназіі і 50 пачатковых школ. Годнае увагі, што ўсё гэтае школьніцтва ў Латгаліі утворана старэньнем і ініцыятывай аднаго чалавека, вядомага беларускага дзеяча К. Езовітава. Цяпер-жа гэта прасьветная праца ў Латгаліі сабрала шмат добрых беларускіх пэдагогічных сіл. Маюцца 2-3 пачатковыя школы ў Літве, дзе такжа, магчыма значна пашырыць беларускіе школы, асабліва у Троцкім і Новаалександраўскім паветах. Найгорш стаіць школьная беларуская справа пад польскай окупацыяй. На блізка 3.000.000 беларускага жыварства тут істнуюць, ледзь перабіваючыся, 5 гімназій і... 44 пачатковыя школы.

Словам, год 1923-ці быў годам культурнай беларускай працы ў надта цяжкіх варунках, як палітычных так і эканамічных. У гэтым гаду лік беларускіх працаўнікоў пашырыўся, прадукція працы большая, вымогі стаўляныя да працаўнікоў пяра і навукі павялічыліся, што, асабліва апошняе, сьведчыць аб тым, як за гэты гады грамадзянства беларускае узрасло духова. Год 1924-ты прыходзіць на зьмену 1923-му не на пустое мейсца, а на мейсца абагрэтае духам потам і крывёй, а гэта ёсьць запаведзь і варунак, што надыходзячы год зможа папоўніць нястачы свайго пяпярэдніка.

---

# Агляд прэсы.

**Загранічная палітіка эндеціі.** У эндэцкім месячніку „Przegląd Wszechpolski“ зьмешчаны артыкул п. Петрыцкага аб загранічнай палітыцы. Дзеля таго, што на чале міністэрства загранічных спраў стаіць найвыдатнейшы эндэк Р. Дмовскі, а яго бліжэйшым памочнікам зьяўляецца вядомы эндек М. Сэйда, дык можна думаць, што думкі выказаныя п. Петрыцкім, якраз і будуць праводзіцца ў жыцьцё сучасным польскім урадам. Дзеля гэтага варта бліжэй прыглядзецца тым мэтам, якія сабе ставіць у загранічнай палітыцы эндэцкая партыя.

Эндэцкая палітыка лічыць на тое, што ў Расіі зноў запануе буржуазія і дзеля гэтага ўжо цяпер імкнецца наладзіць добрыя адносіны з гэтай будучай буржуазнай Расіяй, але да гэтага часу трэба абавязкова п е р а т р а в і ц ь К р э с ы, г. зн. апалячыць беларускі і ўкраінскі народ. Вось што аб гэткім піша п. Петрыцкі;

> Нашая палітыка на ўсходзе— гэта перад усім унутраная праблема. Абсалютнае зьліцьцё (zespolenie) ўсходных крэсаў з рэштаю Польшчы, гэта наша задача. Палітіка адміністрацыйная, рэлігійная, прасьветная і калянізацыйная—павіна быць так кіравана, каб, калі будучая Расія зьявіцца на арэне і пачне адыгрываць ролю ў між народнай палітыцы, ня было ўжо ў Польшчы праблемы ўсходніх крэсаў, а прынамсі ня была такой вострай, як цяпер“.

Як выглядае гэтае „zespolenie“ крэсаў з „Macierzą“ мы добра ведаем з штодзеннае практыкі. Вядомы эндэцкі публіцыст Ст. Грабскі ў сваей кнізе „Uwagi o bieżącej historycznej chwili Polski“ паміж іншымі піша так:

„Беларуская і русінская (украінская) справа—гэта праблема зьліцьця земляў у большасьці цяпер заселеных чужой люднасьцю, з нацыянальнай польскай тэрыторыяй.

Дзеля гэтага няма іншага разьвязаньня гэтай задачы, як толькі праз утварэньне на гэтых землях польскай нацыянальнай большасьці, або прынамсі гэткае перавагі польскага элемэнту, каб ён меў перавагу ў грамадзка-палітычным жыцьці Краю“

Пан Грабскі таксама падкрэсьлюе, што „zespolenie“ павінна адбыцца шыбка:

„Найвышэйшаю жыцьцёваю неабходнасьцю зьяўляецца для Польшчы, каб у працягу ўжо найбліжэйшых гадоў увесь адрэзак нашай усходняй граніцы на поўнач ад Прыпяці быў ня толькі граніцаю Польскай дзяржавы, але і граніцаю нацыянальнай польскай тэрыторыі“.

Гэта ськівавана проста проціў беларусаў. На поўдзень ад Прыпяці на ўкраінскіх абшарах п. Грабскі таксама прапануе калянізацію: трэба парцэляваць абшарніцкія двары паміж польскага сялянства і такім чынам асабліва ў прыграничных паветах стварыць абсалютную польскую большасьць.

Апрача калянізаціі пан Грабскі жадае моцнай улады;

„Усё ўрадаваньне павінна адбывацца ў польскай мове, школы павінны вясьціся ў духу запраўды польскім“... „Што ўрадовае—то павіна быь польскае. Бо Рэчпаспалітая ёсьць дзяржавай польскай“.

Практыка паказуе, што польскі ўрад запраўды точна выпаўняе гэту праграму і ня толькі сучасны ўрад Хьена-Пяста, але і „дэмакратычныя“ ўрады, падтрымліваныя т. зв. польскай лявіцай. У гэтым ўсе польскія палітыкі сходзяцца, і рожніцы вялікай няма паміж крайнімі правымі і панамі сацыял-эндэкамі.

Зазначыўшы патрэбнасьць згоды з будучай буржуазнай Расіяй, пан Петрыцкі лічыць, што ўвесь свой імпэт Польшча павінна ськіваваць на захад. Заходняя і паўночная граніцы Польшчы надта некарысныя і не забясьпячаюць уплыву на балтыцкае пабярэжжа, Усходняя Прусія зьяўляецца „вялізарнай скалою якая душыць Польшчу зьверху“, а дзеля гэтага трэба Гданьск далучыць да Польшчы, а Усходнюю Прусію адабраць ад немцаў, чаго дамагаўся цяперашні міністар заграничных спраў Р. Дмоўскі яшчэ ў 1917—18 г.г. у сваіх мэморьялах, паданых Бальфуру і Вільсону. Дзеля таго што Літва зьяўляецца „пярэдняй стражай Нямеччыны ўва ўсходнім кірунку“, дык, ясная рэч, што трэба і Літву далучыць да Польшчы.

Здабыцьцё Гданска ня выстарчыць для эканамічнага разьвіцьця Польшчы на Балтыцкім моры, цьвердзіць п. Петрыцкі і дадае:

„Разьвязаньне балтыцкай праблемы ў сэнсе злучэньня з гаспадарчага боку балтыцкага пабярэжжа з Польшчай ляжыць у інтарасе таксама Заходняй Эўропы і Амэрыкі... За гаспадарчым злучэньнем пойдзе палітычнае.

Якія краі разумее аўтор пад выразам „балтыцкае пабярэжжа“ знаходзім у іншым мейсцы яго артыкулу, дзе ён кажа аб патрэбе саюзу з Румыніяй і Чэхіяй, праз які

„Гварантуем Польскай дзяржаве

абарону перад Нямеччыннай, а таксама імкнемся да ўмацаваньня і павялічаньня нашага „stanu posiadania“ над морам Балтыцкім. Праз Бухарэшт і Прагу вядзе дарога да Гданска, Клайпэды, Коўні і Рыгі.

Як відаць, эндэцкі імпэрыялізм не задаваляецца Гданскам і Усходняй Прусіяй, але хоча „zespolić“ і Літву і нават Латвію. Ясна што ставячы такія шырокія заданьні, аўтор лічыцца з магчымасьцю вайны з Нямеччынай, а дзеля гэтага прапануе „шыбка зьліквідаваць „niemczyznę“ у заходніх ваяводзтвах.

Што-ж суліць гэтая загранічная палытіка эндэцыі? У-ва ўнутранай палітыцы: бязьлітасную барацьбу з украінскім, беларускім і нямецкім народамі, хутчэйшую дэнацыяналізацыю іх „zespolenie“ і „ліквідацыю“, а ў вобласьці міжнародных адносіна ў—пагрозу вайны з Нямеччынай, Літвой і нават Латвіяй.

К. („Змаганьне“).

**Замах на культуру.** „Зьліквідаваўшы“ беларускую народную школу ў Заходняй Беларусі: давёўшы лічбу гэтых школ з некалькіх сотняў да дзесятка і зусім назбавіўшы беларускае насяленьне магчымасьці адкрываць новыя школы ў беларускай мове, „паны палажэньня“ рыхтуюцца зрабіць новы ўдар істнуючым яшчэ беларускім школам: пяцём гімназіям і гэнай маленачкай астачы народных школ.

Справа вось у чым. Галоўны орган урадовае партыі „Gazeta Warszawska“ зьвярнулася да міністра асьветы, заклыкаючы яго „правясьці хоць-бы такое важнае заданьне, якое прадстаўляе ўвядзеньне ў рускія (разумей: украінскія) і беларускія школы лацінскіх літараў“, бо гэта, па думцы газэты, „зьяўляецца неабходнай умовай дзеля таго, каб уцягнуць тутэйшы народ у арбіту заходняе культуры“.

Ня першы раз сустракаем мы з гэткімі дамаганьнямі зьвярынага польскага нацыяналізму ўчыніць самы дзікі гвалт над беларускай культурай, якім была-бы забарона ўжываньня нашага адвечнага, гістарычнага шрыфту. Ня першы раз эндэкі маняцца гэткім спосабам паглыбіць той падзел беларускага народу, які зроблены ў Рызе, навязываючы заходным беларусам зусім чужую для іх лацініку, каб яны не маглі карыстацца багатай беларускай літэратурай, друкаванай у Усходняй Беларусі выключна „кірыліцай“. Але дагэтуль эндэкі ня мелі ўлады, а п. Пільсудскі ня гледзячы на ўсё сваё безазрусудзтва, не адважаўся на такі дзікі гват над усей культурай нашага народу.—Цяпер, калі ўтварыўся эндэцкі ўрад, лятуценьні эндэкаў могуць зьдзейсьніцца: sic volo, sic jubeo (так хачу, так прыказую).

Пагроза забароны ўжываньня беларускага гістарычнага шрыфту, апрача чыста прынцыповага значэньня, апрача забойчага ўплыву на разьвіцьцё адзінае, усенароднае беларускае културы, пагражае вытварэньнем „друх народаў“ —усходніх і заходніх беласаў, падобна тату, як на грунце прыналежнасьці да розных рэлігіяў (праваславія і каталіцтва) і ўжываньня розных шрыфтаў (кірыліцы і лацінікі) адзіны сэрбскі народ падзяліўся на два: сэрбаў і харватаў, якія гавораць аднэй мовай, але зьяўляюцца адны адным чужымі. На грунце прыналежнасьці часткі беларусаў да каталіцкага вызнаньня так-званыя „паляка-літвіна-беларусы“ хацелі ў свой час гэту частку нашага народу адарваць ад праваслаўнае большасьці. Польскія-нацыяналісты йдуць далей: яны ўсіх заходніх беларусаў маняцца адарваць ад іх усходніх братоў, навязаўшы і каталікам і праваслаўным—лацініку.

Да гэтага трэба дадаць і яшчэ адно. З нязвычайнымі труднасьцямі, з нязвычайным напружаньнем сваіх інтэлектуальных і матэрыяльных сі-

ллў беларускае грамадзянства .Заходняе Беларусі стварыла школьныя падручнікі ў беларускай мове, друкаваныя кірыліцай. Гэтыя падручнікі—падстава нашае пачатковае і сярэдняе школы: бяз іх ня можа істнаваць беларуская школа наагул. Аўтары праекту навязаньня нам лацінікі дужа добра разумеюць што забарона карыстацца ў беларускіх школах кірыліцай раўназначна пазбауленьню школы падручнікаў наагул: бо беларускае грамадзянства ня мае ні магчымасьці, ні грошы, каб перадрукаваць увесь наш літэтурны здабытак лацінскімі літарарамі замест кірылічных. Зрабіць гэта магла-бы толькі дзяржава, але хіба-ж няма такіх наіўных якія хоць на момант паверылі-бы, што Польская дзяржава будзе друкаваць беларускія кнігі! І можам з поўным пераканаленьнам сказаць, што навязаньне беларускай школе лацінікі —гэта ёсьць пэўная ліквідацыя беларускае школы ў межах Польскае рэспублікі. Калі-б урад даў послух аўтарам гэтага барбарскага праекту і разаслаў адпаведныя інструкцыі паном куратарам, дык тыя скванна пазачынялі-бы ўсе істнуючыя беларускія гімназіі і народныя школы на тэй простай падставе, што ўвядзеньне лацінічных падручнікоў немагчыма, бо... яны ня істнуюць-

Мы ўжо сказалы ,што польскі праект лацінізацыі нашае школы абыймае адначасна і беларусаў-каталікоў і праваслаўных. Для апошніх гэта зьяўляецца падвойным ударам: бо кірыліца зьвязана для праваслаўных ня толькі з роднай культурай, але і з рэлігіяй--з прычыны ўжываньня кірыліцы ў царкве. І аб гэтым, відаць, польскія кіраўнічыя сфэры ўжо падумалі: каб падгатаваць грунт дзеля „ўвядзеньня беларусаў у арбіту заходняе (разумей: полькае) культуры", віленская праваслаўная духоўная сэмінарыя, за розныя пасулы кіраўнікам яе, узгадовывае сваю молодзь — будучых сьвяшчэнікаў—ужо ня толькі ў духу польскае дзяржаўнассці, што было-б зразумелым, але і ў духу польскае нацыянальнасьці. Мы мелі першую дэманстрацыю-паказ, як прышчапляецца польскі нацыянальны дух гадунцам сэмінарыі: на сваім публічным вечары хор сэмінарыстаў „с чуством и толком" прапяяў вядомую польскую патрыятычную песьню, у якой, паміж іншым, гаворыцца:

Polski my naród, polski lud,
Królewski szczep Piastowy...

Ад гэтага ўжо толькі адзін малы крок да пераходу ня толькі па лацініку, але і на польскую выкладовую мову: пяюць-жа сэмінарысты, што яны—„польскі народ і польскі люд"...

Чытаючы эндэцкі праект лацінізацыі беларускіх школ, прыходзіць у галаву думка, што эндэцыя,—зьняверыўшыся ў італьянскім фашызьме, які дагэтуль быў для яе ўзорам паступаньня, але цяпер аказаўся лішне „германафільскім", прыхільным да Нямецкага народу,—пачала браць прыклад з так добра нам знаёмае маскоўскае чорнае сотні. І праект эндэкаў — гэта толькі пераробка вядомага загаду царскага ўраду, каб усе літоўскія кніжкі, у тым ліку і малітвенікі, друкаваліся абавязкова рускімі літарамі. Маскоўская паліцыя ўрывалася ў касьцёлы, вырывала літоўскім сялянам іх малітвенікі, друкаваныя лацінікай і гвалтам утыкала ў рукі кніжкі, спэцыяльна надрукаваныя ўрадам „гражданкай". Вось, так, як маскалі навязывалі літвіном „гражданку", каб „далучыць іх да расійскае культуры", так палякі зьбіраюцца навязываць нам лацініку „дзеля далучэньня да польскае культуры".

Гожа прыпомніць, што маскалём не ўдалося гвалтам прымусіць літвіноў карыстацца „гражданкай". Яны толькі збудзілі сярод літвіноў дзікую ненавісьць да ўсяго маскоўскага. Так сама польскі гвалт над бе-

ларусамі, калі-б урад і наважыўся зрабіць яго, не дапне сваей мэты так лёгка, як можа думаюць „лаціньнікі“: беларусы будуць змагацца проці яго ўсімі магчымымі спосабамі, не выключаючы звароту па абарону да Лігі Нацыяў і ўсяго культурнага сьвету. І мы думаем, што ўвесь культурны сьвет, ня гледзячы на агульную барбарызацыю Эўропы, з агідай закляйміць эндецкі замах на культуру беларускага народу.

(Змаганьне).

# Спад Расіі.

**Пашырэньне граніц Рад. Беларусі.** Маскоўскае тэл. агет. „Роста ад 17. XII. павядамляе: Зьезд Рад Гомэльскай губэрні прыняў ніжэйпісаную рэзолюцію:

Прыймаючы пад увагу, што у Гомельскай губэрні, выключаючы Новазыбкаў, Клінцы і Старадуб, значная большасьць жыхарства ёсьць беларуская і што паказаная часьць губэрні экономічным, этнографічным і бытавым характарам арганічна зьвязана з Беларусьсю, а такжа надаючы вялікую вагу разьвіцьцю націянальнасьцяў, губэрнскі зьезд пахваляе пастанову губэрнскага выпаўняючага камітэту аб прылучэньні Гомэльскай губ. да Рад. Беларусі.

Пасьля прыняцьця рэзолюціі выбраны 100 дэлэгатаў на беларускі зьезд рад.

**Жыдоўскае тэрыторыяльнае воска.** У Гомелі утвораны першы жыдоўскі тэрыторыяльны полк чырвонай арміі. Жыдоўскія тэрыторыяльныя батальёны творацца таксама у Менску і Смаленску.

**Прызнаньне Рад. Соц. Рэспублік.** Да гэтага часу прызналі de iure зьмену ўстрою Расійскай Радавай Социялістычнай Рэспублікі на Сувязь Радавых Социялістычных Рэспублік гэткія дзяржавы: Фінляндзія, Латвія, Эстонія, Літва, Нямеччына і Пэрсія. Іншыя дзяржавы наагул не прызнаюць ні першай, ні другой формы социялістычнага ладу заведзанага комуністамі на тэрыторыях б. Рассіі. І, як выясьняецца, ідзе тут не аб прынцыпы, а аб выплату зацягнутых б. Расіяй вайсковых даўгоў, якія аплачваць большавікі адмовіліся.

**Навышэйшая прэмія беларускаму павільёну.** Беларускі павільён атрымаў за аддзел быту найвышэйшую прэмію Усесувязнай сельска-гаспадарскай выстаўкі. Усяго на выстаўцы было назначана дзьве прэміі за аддзел быту.

Беларусы на Усесувязнай выстаўцы далі павільён згодна найнавейшым навуковым вымогам народаведаньня. Гэта ня быў крыклівы балаганны павільён, які бье на танны эфект кірмашовай табалы, а звыклая сялянская беларуская хата з сянямі пасярэдзіне з жылой сьвятліцай і варыўняй, як бытцам жыўцом перанесеная з якога колечы закутка Беларусі. У хаце, гэтак сама, нічога лішняга, нічога на эфект, а толькі ўсё тое, што запраўды знаходзіцца ў беларускіх селянскіх хатах—лавы, стол, ложкі, печ як у каждай беларускай хаце. Іншыя павільёны як прыкл. Туркестанскі, Армянскі, Грузінскі былі багата і аздобна пабудаваны, але не давалі этнографічнай праўды і дзеля гэтага першая нагарода была конкурсным камітэтам прысуджана беларускаму павільёну.

Трэба адзначыць, што на выстаўцы наагул беларусы паказалі сваю культурнасьць, што і было за ўважана, другімі народнасьцямі. Гэтак, акром нагаро-

ды за аддзел быту, беларусам прысуджана також першая прэмія за аддзел паляводзтва. Асабліва падабалася ўсім на выстаўцы беларуская паліва. Прэса зазначыла, што найцікавейшыя ганчарныя вырабы былі беларускія. Попыт на гэту беларускую паліву быў аграмады.

**Нацыянальная справа у дывізіі.** Адбыўшаяся партыйная канфэрэнцыя дывізіі значную частку сваёй працы ўдзяліла нацыянальнаму пытаньню. Былі нават заслуханы два даклады на гэтую тэму. Адзін быў зроблены г. Нодэлем аб нацыянальнай палітіцы камуністычнай партыі наогул. Другі быў аб тых практычных кроках. Якія належыць рабіць у нашай дывізіі.

Прынятыя ўрэшце тэзісы паставілі вехі па якіх павінна йсьці далейшая беларусізацыя нашае дывізіі.

Партыйная канфэрэнцыя ўзяла за падставку тэзісаў плятформу цэнтральнага бюро КПБ у гэтай справе.

Партканфэрэнцыя адзначыла патрэбнасьць рашучага змаганьня з тымі асобамі, якія лічаць непатрэбным пераход дывізіі на беларускую мову. Ад усіх сяброў партыі яна запатрабавала ня толькі ўважлівых адносін да мовы і культуры Беларусі, а таксама шчырага навучаньньня беларускае мовы і наогул беларусазнаўства.

Прызнана патрэбным навучаньне беларускае мовы, якое вядзецца ўжо і ў сучасны момант, паглыбіць і адвесьці яму большы час. Навучаньне мове вясьці такім тэмпам і ў такім напрамку, каб як найхутчэй перайсьці да яе ва ўсіх зносінах з чырвонаармэйцам-беларусам.

Уся палітычна-асьветная праца дывізіі павінна быць датасавана да ўмоў Беларусі.

У першую чаргу ўхвалена беларусізаваць дывізійную школу камандага складу, у якой адразу перайсьці да выкладаньня перш усяго палітычных і агульна асьветных прадметаў на беларускай мове.

Маючы на ўвазе, што на Беларусі апроч беларусоў ёсьць і іншыя нацыянальнасьці (жыды і палякі), канфэрэнцыя забясьпечыла ім карыстаньне сваёй роднай мовы у паліт-асьветнай працы праз снабжэньне іх літэратурай, гутаркі і клюбную працу на роднай мове.

Партыйная канфэрэнцыя даручыла палітчынаму аддзелу стварыць камісію па перакладаньню вайсковых падручнікаў на беларускую мову, як, напрыклад, уставаў, па часьці чыста вайсковай, падручнікаў па палітычна-асьветнай працы і г. д.

Прымаючы пад увагу, што друкаваньне гэтых кніжак патрэбуе сродкаў, канфэрэнцыя пастанавіла прасіць вышэйшыя вайсковыя ўстановы выдзяліць належаны друкарскі фонд. Дзеля азначаньня тэрміну пераходу апарату на беларускую мову даручана апрацаваць календарны плян, які-б з абаронай бояздольнасьці цьвёрда й рашуча зазначыў парадак пераходу ўсіх часьцей дывізіі на беларускую мову.

Вось грунтоўныя думкі прынятых партыйнай канфэрэнцыяй тэзісаў па нацыянальнаму пытаньню ў нашай дывізіі.

Прынятыя пастановы замацоўваюць яшчэ адзін бок будаўніцтва Савецкае Беларусі. Яшчэ глыбей і шырэй робіць сувязь беларускага селяніна з Чырвонаю арміяй—гэтым магутным фактарам міжнароднае рэвалюцыі.

А. Самахвалаў („Сав. Беларусь“).

**На беларускім Сэктары Унівэрсытэту Народаў Захаду.**

21 лістапада ва Унівэрсытэце Народаў Заходу адбыўся агульны сход студэнтаў беларусаў, на якім т. т. Маорз, Некрашэвіч, Драўка і Лойка рабілі даклад аб сучасным становішчы Баларусі.

У прынятай па гэтаму пытаньню рэзалюцыі студэнты зазначаюць, што яны апраўдаюць надзеі беларускага грамадзянства і належна пад рыхтуюцца да культурна-палітычнай працы на Беларусі.

На Беларускім Сэктары Унівэрсытэту рыхтуецца пастаноўка п'есы „Босыя на вогнішчы“ ў інсцэніроўцы т. Ляжневіча.

### Беларускае зямляцтва.

У інстытуце імя Ламаносава арганізавалася беларускае зямляцтва ў ліку 300 чал.

У нядзелю 25 лістапада адбыўся агульны сход сяброў зямляцтва, на якім з прамовай выступаў т. Кнорын.

Пасля сходу адбыўся канцэрт у якім прымала ўдзел беларуская студыя.

Студэнтамі інстытуту была пастаўлена камэдыя Родзевіча „Зьбантэжаны Саўка“.

### У беларускай драматычнай студыі.

Беларуская драматычная студыя ў Маскве атрымала новае памяшканьне (па Арбату № 51, б. Кіно „Арс“), дзе адбываюцца ўсе лябораторны і паказныя працы студыі.

У студыі цяпер рыхтуюцца гэткія паказныя пастаноўкі: „Цар Максіміліян“ і п'еса (пакуль бяз нязвы), якая ў парадку імправізацыі апрацоўвуецца самімі студэнтамі.

---

# С-пад Польшчы.

**Напады на цягнікі**. У кругаколіцы Берасьця і Кобрына ўсё часьцей здараюцца напады на цягнікі. Думаюць, што істнуе асобная добра сарганізаваная аргада, якая робіць гэтыя напады. Трое людзей, быццам з гэтай арганізацыі, паліцыя арэштавала.

**Разстрэлы.** У Беластоку разстрэляна 8 чалавек з быўшай арганізацыі атамана Чорта. Разстрэляны: Антон Лукашынскі, Я. Каплан, М. Шылінг, С. Дуброўскі, Я. Місевіч, Я. Лёндынскі, Г. Вайнэр і У. Чэсьляр.

**Выезд з Вільні беларускіх дзеячоў**. У працягу апошніх некалькіх месяцаў з Вільні выехала некалькі выдатных беларускіх культурных працаўнікоў у Рад. Беларусь, між імі: Максім Гарэцкі, Леапольд Родзевіч, Жаўрыд і інш.

**Эманцыпацыя праваслаўнай духоўнай сэмінарыі у Вільні.** У апошнія часы паміж праваслаўным духавенствам у Польшчы заўважаецца імкненьне падпарадкаваць праваслаўную царкву польскай дзяржаўнасьці, або іначы кажучы аддаць яе на ўслугі гэтай апошняй. Сьвятары, з катэгорыі верных службістаў расійскага царызму, парваўшыя з народам яшчэ ў тыя часы, цяпер лёгка замяняюць быўшую афіцыяльную расійскую мову, на цяперашнюю афіцыяльную польскую, за некаторую падтрымку ім са стараны адміністрацыі. Бываюць здарэньні духоўных прамоў па польску. Прыклад ідзе ад Варшаўскага мітрапаліта і мітрапалітальнай цэрквы. Гэтак, вось, 21 лістапада пратаіерэй Мартыш у мітрапалітальнай цэркве гаворыў казаньне па польску. Але, ў кождым разе рэкорд пабіла, віленская праваслаўная духоўная сэмінарыя. У палавіне лістапада сэмінарысты уладзілі у Вільне канцэрт, на якім выступаў сэмінарскі хор з патрыятічнай польскай песьняй, у якой між іншым гаворыцца:

Polski my narod, polski lud
Krolewski szczep Piastowy.

Гэта ўжо не лёяльнасьць, а поль-

скі націяналізм. І гэта будуць ў будучым павадыры духоўныя праваслаўных у Польшчы! Дзяды пачыналі ад Бярэсьця, а нашчадкі зразу ад Варшавы... куды далей вядзе гэта каляіна будучына пакажа.

**Атаман Муха.** Польская прэса шмат увагі зварачвае на дзейнасьць вядомага атамана Мухі, аб якім злажылася шмат лягендаў і які карыстаецца вялікаю папулярнасьцю сярод мясцовай люднасьці.

Піша аб ім і орган віленскіх консэрватараў „Słowo“. Зазначыўшы вялікую папулярнасьць Мухі і цэлы рад лягендаў аб ім. „Słowo“ піша:

„Такія і падобныя да іх весткі, байкі і лягенды, праўдзівыя апавяданьні для дзяцей і старшых з вуснаў у вусны плывуць з хаты ў горад, з гарадзкіх установ ізноў пад страху і круціцца гэтае Мушынае perpetum mobile, а разышоўшагася гайдамака паліцыя ня можа злавіць, бо ў Галіцыі ня вучылі як лавіць гэткага эксімоса па літоўскіх пушчах, можа толькі ліпкія паперы выдалі, на якія ловяцца розныя мушкі што лётаюць у пакоі, але гэтае аднае мухі як няма, так няма, а ў лес ісьці страшна.

Тымчасам Муха здаровы і вясёлы на ўсіх крэсах, як гэта кажуць, „з веткі на ветку“ скача і здабываючы ўсё большую папулярнасьць, што раз мацнейшы, гдзесь-ці ў Белавежы зьвіў сабе гняздо.

А паліцыя дрэмле ці дарогі пытаецца?! Разбойнік гэта нязвычайны, не дзеля таго, што мае спранжыстую арганізацыю і быццам вы разаў кавалак зямлі паміж савецкай і літоўскай граніцамі, сваімі людзьмі абсадзіў яго і што толькі сьвісьне—зараз-жа зроблена“.

„Słowo“ лічыць, што атаман Муха зьяўляецца агентам Ластоўскага і нават ставіць у сувязь з беларускай паўстанчай арганізацыяў у Гораданшчыне, справа якая нядаўна разглядалася ў Беластоку. „Вядомы разбойнік, спрытны атаман, рызыкант, чалавек бязмоўна адважны, апотэозаваны праз беларускае сялянства, напалову незалежны бандыт, а Ластоўскага найміт з другога боку,—таёмны Муха,—іменна гэтай беспасрэднай дарогай (праз Коўню) атрымлівае ўсялякую дапамогу як эсэраўскія духоўныя харчы, так і ковенскія літасы“.

„Тое, што вялікі разбойнік, які вырас сярод беларускага сялянства, мае зусім не сялянскую фантазію, забясьпечвае яму яшчэ большы послух сярод жыхароў Аўгустоўскіх, Наднёманскіх, Беластоцкіх, Ружанскіх, Белавескіх, Налібоцкіх і Палескіх лясоў; тое што гуляе з нашымі ўладамі, жартуе з паліцыі, забаўляецца ў джэнтльмэнства, што час ад часу абедае ў „Warszawiance“ ў Вільні, усё гэта павялічае яго ўплывы сярод беларускага сялянства.

„А пан Ластоўскі выехаў з Коўні да Менску“ заканчывае свой артыкул „Słowo“.

Беларуская часопісь „Змаганьне“ перадрукоўвуючы вышэйпададзенае са „Słowa“ дадае:

„Ніякіх канкрэтных даных, якія-б сьцьвердзілі сувязь атамана Мухі з Ластоўскім, „Słowo“ ня прыводзіць. Мы таксама ня будзем гаварыць аб гэтым. Пазволім сабе толькі дадаць што адносіны мясцовай адміністрацыі і паліцыі да беларускага сялянства зьяўляюцца галоўнай прычынай вялікай папулярнасьці атамана Мухі і таго спачуцьця, якім ён карыстаецца сярод мясцовай люднасьці“.

Што датыча атамана Мухі то можна запэўніць, што ён чалавек слоўны, і калі ён аплачуючы ў польскі скарб падаходны падатак са сваіх рэквізыцій, падаў ўвесь рахунак у польскіх марках, то знача, што яго даход выключна складаецца з польскай валюты. І брыдка „Słowu“ газэце салідна, падазраваць атамана Муху у няслоўнасьці: ўся яго датыхчасовая дзейнасьць сьведчыць акурат праціўнае.

**Беларускія студэнты ў Вільні.** Польскі ўрад і беспасрэдныя кіраўнікі Віленскага ўнівэрсытэту Стэфана Баторага дакладаюць усіх старэньняў, каб унівэрсытэт служыў мейсцам апалячываньня крэсовай моладзі. Але калі адразу пусьціць бяз усякіх зягародак гэтую крэсовую моладзь на ўнівэрсытэт, дык у імя будзе „апдаведнага духу“. Дзеля гэтага шмат было даложана старань няў, каб прыцягнуць у Віленскі ўнівэрсытэт польскую моладзь з каранной Польшчы, абы толькі не прапусьціць на ўнівэрсытэт беларусаў і жыдоў.

Стараньні гэтыя прывялі да таго што Віленскі ўнівэрсытэт—адзіны ўнівэрсытэт на тэрыторыі Заходняй Беларусі мае студэнтаў беларусаў у некалькі разоў менш, чым студэнтаў палякаў. Студэнты-беларусы маюць сваю арганізацыю „Беларускі Студэнцкі Саюз“; у 1922 годзе выдавалі нават журнал „Наш Шлях“. Але потым дзейнасьць Саюзу стала занікаць і блізка што каля году саюз нічым сябе не выяўляў. У гэтым годзе пры наборы новых студэнтаў на ўнівэрсытэт праціснулася яшчэ пэўная лічба студэнтаў беларусаў, і з даплывам новых сілаў Саюз пачаў ажыўляцца.

18-га лістапада г. г. адбыўся агульны сход усіх студэнтаў беларусаў Віленскага ўнівэрсытэту разам з навапаступіўшымі. Адбыліся перавыбары кіраўніцтва Саюзу, абгавораны плян далейшай працы. Выказана шчырае пажаданьне наладзіць ізноў выдавецкую працу Саюзу. Н. Д.



Спазор на г. Горадню з XVI стагодзьдзя.

# З Літвы.

**Ліга беларускай культуры.** Апрацаваньне статуту Лігі Беларускай культуры блізіцца да канца. Пасьля Новага Году будзе пададзен на зацьверджаньне мясцовым уладам. Адзін з беларускіх дзеячоў на эміграцыі надаслаў, праз Рэдакцыю „Крывіч“ у Лігу Беларускай Культуры рукапіс працы па дасьледаваньню помнікаў беларускай пісьменнасьці па бібліотэках і музэях Швэціі, Англіі, Франціі, Нямеччыны, б. Аўстрыі і Італіі.

**Старэньні аб аткрыцьці беларускіх школ.** Пытаньне аб ат-

крыцьці беларускай пачатковай школкі у м. Еўі паднімалася яшчэ у прошлым годзе. Сёлета у Ліпні сход бацькоў вынёс пастанову, якая з далучэньнем сьпісу дзяцей школьнага узросту была паслана у Троцкую паветовую асьветную камісію, якая зрабіла пастанову адчыніць прошаную жыхарамі школу і загадала Евейскай валасной управе паруліцца аб памяшчэньні для школы і утрыманьні яе. Пратрымаўшы 2 месяцы пастанову валасная управа (складаецца выключна з палякаў) даручыла аднаму з вучыцялёў праверыць сьпісак вучняў, а пасьля паведаміла у паветовую Камісію, што сьпісак уложан няпраўдна: у ім паказаны 17-ці летнія дзяцюкі і ўрэшце, што воласьць ня мае магчымасьці утрымаць школу і таму адмаўляецца ад гэтага. Даведаўшыся аб гэтым зацікаўленыя жыхары даручылі Евейскаму Аддзелу Сувязі Селян Беларусаў у Літве сьцьвердзіць, што сьпісак іх праўдны і што калі валасная управа адмаўляецца утрымоўваць школу, то жыхары самі прыймаюць на сябе усе выдаткі па утрыманьню школы і толькі просяць каб быў аплочан вучыцель. Начальнік павету ськіваваў ўсю гэту справу суседняму вучыцелю Сіманайціcу (у фольв. Дэмбіна) для праверкі сьпіску другі раз і дачы свайго заключэньня, абяцаючы пасьля ськіваваць справу у Міністэрства Асьветы. Вучыцель Сіманайтіс абяцаў справу закончыць да 25 лістапада. Далейшы ход справы нявядомы.

Мы думаем, што Міністэрства Асьветы знойдзе магчымым пазволіць аплачываць беларускага вучыцеля і што хутка дзеткі Евейскіх беларусаў пойдуць у сваю школу.

# З Латвіі.

**Люцынская беларуская гімназія.** Асаблівую рухавасьць выяўляе ў Латвіі Люцынская беларуская гімназія. Гімназіяльная моладзь выдае сымпатычную ілюстраваную часопісь „Ластаўка“, якая згуртавала каля сябе маладых працаўнікоў пяра, між якімі відаць старэннасьць і, што важнейшае, поступ у творчасьці; гэта асабліва відаць з вершаў. Рысункі ў апошнім нумары „Ластаўкі“ таксама шмат лепшыя. Мова ў часопісі з кождым нумарам папраўляецца. Акром літэратурнай працы беларускімі гімназіямі ў Латвіі зьвернута увага на Фізычнае выхаваньне вучнёў і з гэтай мэтай утвораны аддзелы „гайдаў“ (гэтак тут звыклі называць скаўтаўскія арганізацыі). Побач працы ў гімназіі пэдагогічны пэрсонал у Люцыне зьвяртае шмат увагі на грамадзянскую працу, якая галоўна праяўляецца пастаноўкамі тэатру і хору, праз якія популярызуецца беларуская песьня і беларуская мова, якія са сцэны хутка пераходзяць у грамадзянства, служачы моцным фактарам у справе беларускага адраджэньня сярод мясцовага жыхарства.

ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА НА 1924 г.

# КРЫВІЧ

## месячнік літэратуры, культуры і грамадзкага жыцьця

## пад рэдакцыяй В. ЛАСТОЎСКАГА і К. ДУЖ-ДУШЭЎСКАГА.

Выходзіць сшыткамі у абойме 4 аркушаў (64 стр.).

Зьмяшчае:—вершы, апавяданьні, повесьці навукова—крытычныя, гістарычныя стацьці і манаграфіі; інфармацыі з усяго сьвету аб беларускім жыцьці і месячныя агляды прэсы як беларускай, так і чужой.

Адрэс рдакцыі і адміністрацыі: **Kaunas, Vytauto prosp. № 30.** Lietuva.

Цана нумару паасобна . . . . . . . . Lit. 3:—(0,30 доляра).

адпіска на год . . . . . . . . . . „ 30:—(3 доляры.)

Рукапісы павінны быць напісаны чытэльна, на аднэй старане аркуша і мець рэдкія радкі. Надасланыя нячытэльныя рукапісы, рэдакцыя дае перапісываць на машынцы, вылічаючы з ганорару аўтора за перапіску. За рэдакцыю і перапраўку рукапісаў напісаных дрэннай беларускай мовай, а так сама за пераклад рукапісаў напісаных у чужой мове, утрымліваецца 50% з ганорару аўтора.

ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА НА 1924 г.

F. Sokolovskienės, G. Lano ir M. Jolko Spaustuvė, Kaune, Maironio g-vė 10-12.
Друкарня Ф. Сакалоўскай, Г. Лана М. Іолка, Коўна, Майронiо 10—12.